


Народная ікона «Святы Юрый»
з прыватнага збору І. Сурмачэўскага.

Ксёндз Ян Твардоўскі

**ВУЧЫЦЬ**

Веры вучыць маўчанне
несвятая ялінка
памерлы што ў снах ажывае
шпакі ў старых вербах
квет вольхі што яшчэ перад лісцем зацвітае
распалавіненая радасць
колас цяжэйшы за саломіну якая яго з зернем трымае
напалоханая Ягайлам каралева Ядвіга
малітва як надвор'е
бо калі хтосьці моліцца Пан Бог у ім дыхае

*1980 г.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько.*



У нумары 2/2018

НАША ВЕРА

## СВЯТЫ ЯН АД КРЫЖА

# УЗЫХОД НА ГАРУ КАРМЭЛЬ

ТРАКТАТ ПРА ТОЕ, ЯК ПАВІННА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДУША,
КАБ ЗА КАРОТКІ ЧАС ДАСЯГНУЦЬ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ. ПАРАДЫ І ВУЧЭННІ
ЯК ДЛЯ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ, ГЭТАК І ДЛЯ ДАСВЕДЧАНЫХ, ВЕЛЬМІ КАРЫСНЫЯ,
КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА АД УСІХ РЭЧАЎ ДАЧАСНЫХ, НЕ АБЦЯЖАРВАЦЬ СЯБЕ
ДУХОЎНЫМІ ПРЫВЯЗАНАСЦЯМІ І ЗАСТАЦЦА Ў НАЙВЫШЭЙШАЙ АГОЛЕНАСЦІ
І СВАБОДЗЕ ДУХУ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЗЛУЧЭННЯ З БОГАМ.
НАПІСАНЫ АЙЦОМ КАРМЭЛІТАМ БОСЫМ, БРАТАМ ЯНАМ АД КРЫЖА.

## КНІГА ДРУГАЯ
## ДЗЕЙСНАЯ НОЧ ДУХУ

### Разуменне

**У якой ідзе гаворка пра веру як найпрасцейшы сродак, з дапамогаю якога можна ўзысці да злучэння з Богам. Маецца на ўвазе другая частка *Цёмнай ночы* — ночы духу, што апявае другая страфа песні.**

### Раздзел 6
### У якім тлумачыцца, як тэалагальныя цноты дасканаляць тры душэўныя здольнасці, спараджаючы ў іх цемру і пусткі.

1. Цяпер мы пачнем гаворку пра сродак, які ўводзіць у ноч духу тры здольнасці душы: розум, волю і памяць, і тым самым вядзе душу да злучэння з Богам. Але неабходна спачатку растлумачыць у гэтым раздзеле, як тры тэалагальныя цноты, вера, надзея і любоў, ствараюць у адпаведнай здольнасці душы пустку і цемру: вера — у розуме, надзея — у памяці і любоў — у волі. Гэтыя тры тэалагальныя цноты душы з’яўляюцца звышнатуральнымі мэтамі гэтых трох здольнасцяў душы і адначасова неабходнымі сродкамі для таго, каб дасягнуць злучэння з Богам. Пасля мы засяродзімся на тым, як розум павінен дасканаліцца ў цемры веры, памяць — у пустэчы надзеі, а воля — у адрачэнні і пазбаўленні ад усялякай прывязанасці. Усё гэта для таго, каб злучыцца з Богам.

І тады стане больш зразумела, чаму неабходна, каб душа на гэтым духоўным шляху прайшла праз *цёмную ноч*, абапіраючыся на гэтыя тры тэалагальныя цноты, якія вызваляць яе ад усіх рэчаў і зацемняць яе ў адносінах да іх. Бо сапраўды, як было ўжо сказана, калі душа ў гэтым жыцці злучаецца з Богам, дык яна не карыстаецца для гэтага ні ведамі, ні радасцю, ні ўяўленнем, ні якім-небудзь пачуццём, а толькі верай ў адносінах да розуму, надзеяй у адносінах да памяці і любоўю ў адносінах да волі.

2. Гэтыя тры цноты спусташаюць здольнасці душы. Вера спараджае ў розуме пустку і цемру няведання; надзея ўтварае ў памяці вызваленне ад усялякай уласнасці; і любоў спараджае пустку волі і пазбаўляе яе прывязанасцяў да ўсяго, што не ёсць Богам.

Таму што вера, як вядома, дае нам тое, чаго не можа зразумець розум. І таму святы Павел вучыць у Пасланні да Габрэяў: «*Est autem fides sperandarum substantia rerum, argumentum non apparentium*» (Гбр 11, 1); — «*А вера ёсць здзяйсненне чаканага і ўпэўненасць у нябачным*», што ў адносінах да нашага аргумента азначае, што вера — гэта сутнасць рэчаў, якіх мы чакаем. Нягледзячы на тое, што наш розум пагаджаецца з імі з перакананнем і пэўнасцю, гэтыя рэчы для яго не відавочныя, бо калі б яны былі відавочнымі, дык гэта не была б ужо вера. Вера хоць і дае ўпэўненасць розуму, але не ўсё праясняе, наадварот, хутчэй яго зацямняе.

3. Няма сумнення, што надзея таксама спусташае і зацямняе памяць як у зямным жыцці, гэтак і ў звышнатуральным, бо надзея заўсёды звязаная з тым, чаго яшчэ няма, бо калі б гэта было, дык не было б надзеі. Таму святы Павел піша Рымлянам: «*Spes autem, quae videtur, non est spes: nam quod videt quis, quid sperat?*» — «*А надзея, калі бачыць, не ёсць надзея; бо, калі хто бачыць, дык навошта ж яму і спадзявацца?*» (Рым 8, 24). Такім чынам, гэтая

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2016 г.*

цнота таксама спусташае, бо належыць да таго, чаго не маеш, а не да таго, што маеш.

4. Таксама і любоў спусташае волю ад усіх рэчаў, бо змушае любіць Бога па-над усім. І гэта немагчыма, пакуль нашае жаданне не аддаліцца ад усяго, каб засяродзіцца выключна на Богу. І пра гэта гаворыць Хрыстус у Евангеллі ад Лукі: «*Qui non renuntiat omnibus quae possidet, non potest meus esse discipulus*»; — «*Так кожны з вас, хто не адцураецца ўсяго, што мае, не можа быць Маім вучнем*» (Лк 14, 33). І такім чынам усе гэтыя тры цноты ўводзяць душу, спустошаную ад усіх рэчаў, у цемру.

5. І тут мы павінны ўзгадаць прыпавесць, якую апавёў Езус і якую пераказаў святы Лука ў 11-м раздзеле (11, 5), дзе гаворыцца пра чалавека, які апоўначы прыйшоў да свайго сябра папрасіць тры боханы хлеба. Гэтыя тры боханы — вобраз трох цнотаў. І калі гаворыцца, што ён прыйшоў апоўначы, дык маецца на ўвазе душа, якая знаходзіцца ў цемры, бо яе тры здольнасці пазбаўленыя ўсіх рэчаў, і яна прагне набыць тры цноты, каб удасканаліцца ў іх. У 6-м раздзеле (6, 2) прарока Ісаі мы чытаем, як прарок пабачыў побач з Богам двух серафімаў, кожны з якіх меў шэсць крылаў: двума яны пакрывалі свае ногі — гэта вобраз таго, што яны асляпілі і ўмярцвілі ўсе свае прывязанасці да рэчаў; двума іншымі крыламі яны закрывалі свой твар, што ёсць вобразам зацямнення розуму перад аблічам Бога. Яшчэ двума крыламі яны ляталі, што ёсць вобразам узлёту надзеі ў напрамку да рэчаў, якіх яны не маюць, і гэты ўзлёт уздымае душу па-над усім часовым і звышнатуральным, што яна магла б мець па-за Богам.

6. Мы павінны скіраваць гэтыя тры здольнасці душы такім чынам, каб кожная з іх фармавалася ў адпаведнай цноце, спустошылася, увайшла ў цемру, пазбаўленую ўсяго, што не ёсць гэтымі цнотамі. Гэта і ёсць *Духоўная ноч*, якую напачатку мы назвалі дзейснаю, бо душа павінна зрабіць усё магчымае, каб увайсці ў яе. І гэтаксама, як гаворачы пра *Ноч пачуццяў*, мы зазначылі сродак, дзякуючы якому пачуццёвыя здольнасці пазбаўляюцца жадання ўсіх бачных рэчаў, каб душа змагла выйсці са сваіх натуральных абмежаванняў і ўвайсці на шлях веры з Божаю дапамогаю, гэтаксама і тут мы зазначым сродак у гэтай цёмнай *Ночы духу*, які аддаліць і ачысціць духоўныя здольнасці ад усяго, што не ёсць Богам, каб застацца ў цемры, створанай гэтымі трыма цнотамі, якія з'яўляюцца сродкам і схільнасцю душы да злучэння з Богам.

7. І такім чынам душа будзе падрыхтаваная да хітрасцяў д'ябла і здолее супрацьстаяць моцы любові да сябе і ўсіх яе праяваў, якія звычайна вельмі незаўважна зводзяць яе і перашкаджаюць духоўным асобам на іх шляху да Бога, бо яны не ведаюць, як агаліцца, кіруючыся гэтымі трыма цнотамі, і такім чынам яны ніколі не дасягаюць сутнасці духоўнага дабра і не йдуць па простым і кароткім шляху, як маглі б.

8. Неабходна заўважыць, што я звяртаюся асабліва да тых, хто ўжо распачаў шлях і ўвайшоў у стан кантэмпляцыі, бо пачаткоўцам неабходна даць больш тлумачэнняў у другой кнізе, дзе з Божаю дапамогаю я спынюся на іх асаблівасцях.

### Раздзел 7
### У якім ідзе гаворка пра тое, наколькі вузкаю з'яўляецца дарога, што вядзе да вечнага жыцця, і наколькі агаленымі і пазбаўленымі ўсяго павінны быць тыя, хто хоча ісці па ёй, каб увайсці ў *Ноч розуму*.

1. Каб распачаць цяпер гаворку пра агаленасць і чысціню трох здольнасцяў душы, патрэбны веды і дух значна вышэйшыя за мае. Але трэба, каб духоўныя асобы[3] зразумелі, наколькі вузкаю з'яўляецца дарога, якая вядзе да жыцця, паводле словаў нашага Збаўцы. Калі яны зразумеюць гэта, яны не будуць здзіўляцца той пустэчы і агаленасці, у якой апынуцца іх здольнасці душы падчас *Ночы розуму*.

2. І таму неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на словы нашага Збаўцы, якія Ён гаворыць пра гэты шлях дасканаласці ў сёмым раздзеле Евангелля паводле Мацвея (Мц 7, 14): «*Quam angusta porta, et arcta via est, quae ducit ad vitam: et pauci sunt qui inveniunt eam!*» — «*А вузкая брама і вузкая дарога вядуць у жыццё, але нямногія знаходзяць яе*». У гэтых словах трэба адзначыць моц і націск, які кладзецца на слова «*quam*». Нібыта Пан хоча сказаць, што сапраўды дарога намнога вузейшая, чым вы думаеце. І трэба таксама падкрэсліць, што спачатку гаворыцца пра вузкую браму, каб было зразумелым, што душа, каб увайсці ў браму, якой ёсць Хрыстус, — пачатак дарогі — павінна ўмярцвіць сваю волю, спустошыць сябе ад пажадання ўсіх пачуццёвых і прамінальных рэчаў і палюбіць Бога па-над усім. Гэтую працу душа павінна зрабіць падчас *Ночы пачуццяў*, пра што мы гаварылі раней.

3. Пасля Пан дадае, што і сам шлях да дасканаласці вузкі, каб мы зразумелі, што крочыць шляхам дасканаласці азначае не толькі ўвайсці ў вузкую браму, вызваліўшыся ад пачуццёвых рэчаў, але таксама душа павінна сябе ўмярцвіць, вызваліцца і цалкам пазбавіцца рэчаў духоўных. І такім чынам, калі Пан гаворыць пра *вузкую браму*, маецца на ўвазе пачуццёвая частка душы, а калі Пан спасылаецца на *вузкую дарогу*, дык маецца на ўвазе рацыянальная і духоўная частка душы. І калі Ён гаворыць, што мала хто знаходзіць гэтую дарогу, дык прычына ў тым, што нямногія душы ведаюць і прагнуць увайсці ў гэтую найвышэйшую агаленасць і дасканалую пустэчу духу, бо сцежка, якая вядзе на вяршыню ўзнёслай гары дасканаласці, вельмі пакручастая і настолькі вузкая, што па ёй не могуць прайсці вандроўнікі, абцяжараныя ярмом,

якое цягне іх да долу (маецца на ўвазе ніжэйшая, пачуццёвая частка душы), ці якою іншаю вагою (гэта значыць, у вышэйшай, разумовай частцы душы), паколькі на гэтым шляху душа шукае толькі Бога, і толькі Ён — яе дасягненне. І толькі Бог варты гэтага пошуку і асягнення.

4. З усяго сказанага з яснасцю вынікае, што душа павінна не толькі пазбавіцца ад усяго, што датычыць стварэння, але яна павінна крочыць, вызваліўшыся і пазбавіўшыся ўсяго, што датычыць духу. Каб навучыць і падштурхнуць нас на гэтую дарогу, у 8-м раздзеле Евангелля паводле Марка (34–36) наш Пан выкладае сваё цудоўнае вучэнне, якое вельмі мала практыкуецца духоўнымі асобамі, нягледзячы на тое, што яны ў ім маюць вельмі вялікую патрэбу. А таму, паколькі яно адпавядае нашай мэце, працытую яго цалкам, а затым растлумачу яго сапраўдны духоўны сэнс. Пан гаворыць: «*Et convocata turba cum discipulis suis, dixit eis: Si quis vult me sequi, deneget semetipsum: et tollat crucem suam, et sequatur me. Qui enim voluerit animam suam salvam facere, perdet eam: qui autem perdiderit animam suam propter me, et Evangelium, salvam faciet eam*». — «*І, паклікаўшы натоўп разам са сваімі вучнямі, сказаў ім: „Калі хто хоча ісці за Мною, няхай адрачэцца ад сябе, возьме крыж свой, і ідзе за Мною. Бо той, хто хоча жыццё сваё ўратаваць, загубіць яго, а хто загубіць жыццё сваё дзеля Мяне і Евангелля, той уратуе яго…*“»

5. О! Каб знайшоўся нехта, здольны зрабіць так, каб духоўныя асобы зразумелі, практыкавалі і скаштавалі сэнс парады, якую даў наш Пан, — адрачэння ад саміх сябе. Каб яны толькі зразумелі, наколькі адрозніваецца такі спосаб паводзінаў на гэтым шляху ад таго, што яны сабе ўяўляюць. Некаторыя ўпэўнены, што дастаткова пакінуць свет і змяніць сваё жыццё, іншыя задавальняюцца практыкаваннем цнотаў, малітваю і ўмярцвеннем, але яны не дасягаюць таго стану аголенасці і ўбоства, адрачэння ці той духоўнай чысціні (што адно і тое ж), якія нам раіў Пан. Таму што такія душы перш за ўсё хвалююцца, каб сілкаваць і апранаць сваю прыроду, прагнучы суцяшэнняў і духоўных перажыванняў, замест таго каб агаліцца з іх і адрачыся ад усяго дзеля Божай любові. Яны вераць, што дастаткова, каб іх натура адмовілася ад усяго свецкага, і не думаюць, што трэба таксама згубіцца, ачысціўшы сябе ад усіх духоўных прывязанасцяў. І таму, калі перад імі паўстае нешта вартае і дасканалае, як, напрыклад, адмаўленне ад пошуку асалоды ў Богу, а гэта значыць сухмень, адсутнасць смаку і цяжар, на чым палягае чысціня духоўнага крыжа і аголенасць убогага духу Хрыста; яны ўцякаюць ад гэтага, як ад смерці, і шукаюць у Пану толькі слодычы і густоўных зносінаў з Ім. А гэта пэўна не адрачэнне ад сябе, не аголенасць духу, але духоўная пажадлівасць. І гэта робіць іх духоўнымі ворагамі Хрыстовага крыжа, бо сапраўдны дух шукае перш за ўсё прыкрае замест прыемнага і імкнецца больш да пакутаў, чым да ўцехаў, і больш схільны да адрачэння ад усяго, што мае, дзеля Бога, і імкнецца больш да чэрствасці і мукі, чым да салодкіх зносінаў, ведаючы, што наследаваць Хрыста азначае адмовіцца ад сябе самога. Іначай гэта будзе больш падобна да пошуку самога сябе ў Богу, што супярэчыць сапраўднай любові. Бо шукаць сябе ў Богу азначае шукаць падарункаў і Божых суцяшэнняў. Шукаць Бога ў нас саміх азначае не толькі адмовіцца ад усяго дзеля любові да Яго, але моцаю Ягонай любові схіляцца да выбару таго, што ёсць найменш густоўнага ці ў Богу, ці ў свеце. Гэта і ёсць любоў Бога.

6. О! Калі б нехта мог больш дасканала растлумачыць, да якой ступені наш Пан хоча, каб мы добраахвотна дасягнулі такога адрачэння! Пэўна яно павінна быць падобным да смерці ці да самазнішчэння ў адносінах да ўсяго прамінальнага, прыроднага і духоўнага — у гэтым крыніца ўсялякага дабра. І менавіта гэта разумее наш Збаўца, калі гаворыць: той, хто любіць жыццё сваё, загубіць яго. Гэта значыць: той, хто хоча мець нешта і шукае гэтага для сябе, той згубіць усё. А той, хто загубіць сваё жыццё дзеля Мяне, той здабудзе яго, што значыць: той, хто дзеля Хрыста адмовіцца ад усяго, чаго воля прагне і што ёй падабаецца, і зробіць выбар таго, што больш падобна да крыжа, таго, што наш Пан у Евангеллі ад Яна называе «*ненавідзець жыццё сваё*» (Ян 12, 25), той здабудзе яго. Менавіта гэтаму навучаў Боскі Настаўнік двух сваіх вучняў, якія прасіліся ў Яго сесці праваруч і леваруч у Валадарстве Нябесным. Ён, нічога не адказваючы ім наўпрост на іх просьбу хвалы, прапанаваў ім келіх, з якога Ён сам мусіў бы выпіць як найбольш каштоўнае і найбольш смачнае тут, на зямлі (гл. Мц 20, 22).

7. Гэты келіх азначае паміранне для сваёй прыроды, агаленне і адмаўленне ад яе, каб душа змагла крочыць па вузкай сцежцы, пазбавіўшыся ўсяго, што мае, як пачуццёвага (пра што мы ўжо гаварылі), гэтак і духоўнага (пра што мы будзем яшчэ гаварыць). У рэшце рэшт, душа павінна ўмярцвіць сябе — свае разуменні, свае ўпадабанні і свае адчуванні. І такім чынам яна не толькі вызваліцца ад двух апошніх, але і ад усяго духоўнага, што не будзе яе больш абцяжарваць на вузкім шляху. Як кажа Збаўца, у душы не можа быць месца ні для чаго іншага, як толькі для адрачэння і для крыжа, што стане для яе кіем, на які яна можа абаперціся, і які цудоўна палегчыць яе шлях. І таму наш Пан праз святога Мацвея кажа: «*Бо ярмо Маё прыемнае, і цяжар Мой лёгкі*», што ёсць вобразам крыжа. Бо калі чалавек зробіць выбар узяць на сябе крыж і несці яго, і рашыцца на пошук і цярпенне ва ўсім дзеля Бога, ён адчуе вялікую палёгку і прыемнасць і

будзе крочыць гэтым шляхам, пазбавіўшыся ўсяго і нічога не прагнучы. Калі ж ён прэтэндуе замест аголенасці і ўмярцвення атрымаць нешта, апроч Бога, дык ён ніколі не зможа ўвайсці на гэтую вузкую дарогу і ніколі не здолее ўзысці па гэтай вузкай сцежцы да самай вяршыні.

8. Мне хацелася б пераканаць духоўных асобаў у тым, што шлях да Бога — гэта не мноства разважанняў, практыкаванняў і ўпадабанняў, нават калі ўсё гэта пэўным чынам неабходна для пачаткоўцаў. На шляху да Бога патрэбна адна толькі рэч — быць здольным да сапраўднага самаадрачэння, унутранага і знешняга, прыняць пакуты Хрыста і згубіцца для ўсяго, бо, практыкуючы гэта, набудзеш усё, і больш за гэтае. І наадварот, калі гэтыя практыкаванні — крыніца ўсіх цнотаў — занядбоўваюцца, тады, што б ні рабілася, будзе пустым заняткам без усялякай карысці, нягледзячы на ўсе высокія разважанні ці сумоўе з анёламі. Бо ніхто не рушыць наперад, калі не наследуе Хрыста, бо толькі Ён ёсць Дарогаю, Праўдаю і Жыццём, і ніхто не дасягае Айца інакш, як толькі праз Яго, як сцвярджае святы Евангеліст Ян (14, 6), і ў іншым месцы (10, 9) ён дадае: «*Я — брама. Калі хто ўвойдзе праз Мяне — будзе збаўлены*». І таму той дух, які хоча ісці шляхам прыемнасцяў і зручнасцяў і ўцякае ад упадаблення Хрысту, не дасягне нічога добрага.

9. І паколькі сказана, што Хрыстус — гэта шлях і гэты шлях — смерць для нашай пачуццёвай і духоўнай натуры, мне б хацелася, каб усе зразумелі, якім чынам гэта можа здарыцца на прыкладзе Езуса, нашага ўзору і нашага святла.

10. Што датычыць першага, напэўна, Хрыстус памёр для ўсяго пачуццёвага духоўным чынам пры жыцці і натуральным чынам у момант сваёй смерці, бо Ён сам казаў, што пры жыцці Ён не меў дзе схіліць сваю галаву, а ў момант смерці Ён меў яшчэ менш (Мц 8, 20).

11. Што датычыць другога, дык у хвіліну смерці ў Ягонай душы не засталося нічога: Ягоны Айцец пакінуў Яго без усялякага суцяшэння і палёгкі ва ўнутранай пустыні пачуццяў, і таму Ён вымушаны быў галасіць: «*Божа Мой, Божа Мой, чаму Ты Мяне пакінуў?*» (Мц 27, 46). І гэта было самае вялікае пачуццёвае адчуванне пакінутасці ў Яго жыцці. І менавіта падчас гэтага Ён здзейсніў найвялікшую справу ў параўнанні з усімі чынамі і цудамі на зямлі і ў небе, якія ён здзяйсняў пры жыцці. Гэтая справа — прымірэнне і злучэнне ўсяго роду людскога з Богам праз Ягоную ласку. І гэта адбылося ў той момант, калі наш Пан дасягнуў вяршыні спусташэння. Што да людскога меркавання, дык людзі, якія бачылі Ягоную агонію, замест павагі да Яго здзекаваліся з Яго. Што да прыроды, дык яна знішчылася самою смерцю. Што да духоўнай дапамогі і суцяшэння Айца, дык Бог у гэты момант Яго пакінуў, каб Езус заплаціў да апошняга гроша ўсе даўгі і паяднаў чалавека з Богам. Такім чынам, Хрыстус быў знішчаны і стаў нічым, як кажа Давід: «*Et ego ad nihilum redactus sum, et nescivi*». — «*Стаўся я нічым і нічога не разумеў*» (Пс 72, 22). І каб было зразумелым, якім дабром з'яўляецца таямніца Хрыста — брамы і шляху, каб злучыцца з Богам, неабходна ведаць, што чым больш душа губляецца для Бога ў сваіх дзвюх частках, пачуццёвай і духоўнай, тым больш яна злучаецца з Богам і тым большаю будзе Ягоная справа. І калі душа дойдзе да нічога, дасягнуўшы найвышэйшай пакорлівасці, тады здзейсніцца духоўнае яднанне душы і Бога — злучэнне, якое з'яўляецца найвялікшым і найвышэйшым станам, якога можа дасягнуць чалавек у гэтым жыцці. Шлях, пра які гаворыць наш Пан, — гэта не асалода, упадабанні і духоўныя перажыванні, а сапраўдная крыжовая смерць: пачуццёвая і духоўная, гэта значыць, вонкавая і ўнутраная.

12. Не хачу болей спыняцца на гэтым аргуменце, нягледзячы на маё жаданне ўвесь час гаварыць толькі пра гэта, таму што бачу, як мала ведаюць Хрыста тыя, хто верыць, што яны з'яўляюцца Ягонымі сябрамі. Але бачна, што яны настолькі любяць саміх сябе, што нават у Ім шукаюць свае ўпадабанні і суцяшэнні. Тыя ж, хто Яго вельмі любяць, больш шукаюць горычы і ўмярцвення. Я гавару пра тых, хто верыць, што яны Ягоныя сябры, а не пра тых, хто жыве далёка і асобна ад Яго, знакамітых пісьменнікаў і людзей улады, і іншых, хто жыве ў свеце, займаючыся толькі ўласнымі амбіцыямі і сваёй вялікасцю, пра якіх мы можам сказаць, што яны не ведаюць Хрыста і што іх канец, нават самы добры, будзе ўрэшце вельмі горкім. Гэтая кніга не звяртаецца да іх. Іншы зоймецца імі ў Судны дзень, нават калі да іх у першую чаргу звяртаецца Божае слова, таму што Бог паставіў іх па-над усімі, даўшы ім высокае месца па годнасці і па адукацыі.

13. Зараз жа я звяртаюся да розуму духоўнага чалавека, асабліва да таго, каго Бог сваёю ласкаю ўзняў да кантэмпляцыйнага стану, бо, як ужо было сказана, я звяртаюся менавіта да духоўных асобаў і менавіта ім я растлумачу, якім чынам трэба імкнуцца да Бога ў веры і як трэба ачысціцца ад праціўных Яму рэчаў, і як трэба ўмярцвіць сябе, каб увайсці на вузкі шлях цёмнай кантэмпляцыі.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

*Працяг будзе.*

* У трактаце святога Яна ад Крыжа цытаты са Святога Пісання падаюцца на лацінскай мове. У беларускім тэксце яны пададзены ў перакладзе Святланы Грэсві.

[3] Святы Ян ад Крыжа называе духоўнымі асобамі ўсіх, хто намагаецца жыць духоўным і кантэмпляцыйным жыццём. — *Заўвага перакладчыка.*




Шаноўныя чытачы, прапануем вашай увазе тэксты двух інтэрв'ю, у якіх глыбока і востра аналізуецца тэкст адгартацыі папы Францішка «*Amoris laetitia*». Вось ужо на працягу двух гадоў, якія прайшлі з часу публікацыі гэтага папскага дакумента, вакол яго не сціхаюць дыскусіі. Спадзяемся, што разважанні вядомага польскага тэолага і прафесара а. Рамана Купчака ОР і італьянскага журналіста і ватыканіста Сандро Магістра дапамогуць вам не толькі лепш зразумець сутнасць адгартацыі пра становішча і месца разведзеных сужэнцаў у Касцёле, але таксама ясней убачыць некаторыя асаблівасці сённяшняга Пантыфікату.

*Рэд.*

# Новая ўспрымальнасць Касцёла?

**З айцом Яраславам Купчакам ОР, прафесарам тэалагічных навук, загадчыкам кафедры тэалагічнай антрапалогіі ў Папскім універсітэце Яна Паўла ІІ у Кракаве, старшынёю польскага Таварыства тэолагаў дагматыкаў, аўтарам працаў «*Dar i komunia. Teologia ciała w ujęciu Jana Pawła II*», «*Teologiczna semantyka płci*» размаўляе айцец Раман Бялецкі ОР, галоўны рэдактар часопіса «*W drodze*».**

— *У красавіку прамінула два гады пасля абвяшчэння адгартацыі «Amoris laetitia», а дыскусія вакол яе разумення не сціхае. Мала які з дакументаў Папы Рымскага выклікае столькі эмоцый. Чаму?*

— Ёсць дзве прычыны такога ўзрушэння. Па-першае, Папа прапануе змяніць практыку, якой карысталіся дагэтуль, і *de facto* дактрыну Касцёла, згодна з якой разведзеным людзям, што заключылі новыя саюзы, не ўдзялялася святая Камунія. Другая праблема вынікае з няяснасці тэксту, які выклікае шмат канкрэтных пытанняў.

— *Які касцёльны статус цяпер маюць людзі, што жывуць у так званых нестандартных саюзах?*

— Ніхто не аднімае ў іх права быць у Касцёле, называць сябе католікамі, а таксама ўдзельнічаць у разнастайных касцёльных справах. Аднак у вучэнні Настаўніцкага Інстытута Касцёла, якое не раз ужо тлумачылася пры розных нагодах, падкрэсліваецца, што гэтыя людзі знаходзяцца ў стане граху, бо жывуць з незаконнымі сужэнцамі.

— *Прапанова Святога Айца не ўзнікла з ніадкуль. Ужо падчас Другога Ватыканскага Сабору з'явіліся меркаванні пра тое, што Касцёл павінен перагледзець дэфініцыю непарыўнасці сужэнства.*

— Такія прапановы былі адкінутыя папам Паўлам VI і

большасцю ўдзельнікаў Сабору. Аднак гэта не спыніла дыскусіі вакол разумення непарыўнасці сужэнства. Многія тэолагі, перш за ўсё амерыканскія, нямецкія і французскія, крытыкавалі пазіцыю Папы Рымскага і спрабавалі зноў вырашыць гэтае пытанне.

Навізну ў гэтую праблему ўнесла адгартацыя Яна Паўла ІІ «*Familiaris consortio*» (1981 г.). З таго часу Касцёл пры пэўных умовах дазволіў прыступаць да святой Камуніі разведзеным людзям, якія паўторна стварылі сем'і.

*— Якія гэта ўмовы?*

— Калі гаварыць зразумелаю моваю, важна тое, каб гэтыя людзі жылі як брат і сястра, гэта значыць устрымліваліся ад сексуальных адносінаў.

*— Аднак даводзіцца чуць меркаванні, напрыклад, ад кардынала Вальтэра Каспэра, даўняга і дасведчанага ватыканскага чыноўніка, што ў часы айцоў Касцёла, у гэтым ідэальным з нашага пункту погляду перыядзе, практыка такой Камуніі мела месца.*

— Не зусім. Спасылка на айцоў Касцёла ў гэтым пытанні памылковая. Хоць ксёндз кардынал і абапіраецца на іх аўтарытэт, аднак патролагі і гісторыкі старажытнасці сурова раскрытыкавалі яго тэзісы.

Былі адзінкавыя выпадкі допуску да святой Камуніі разведзеных, якія жылі ў новых саюзах, аднак нельга казаць, што так адбывалася паўсюль. Варта таксама памятаць, што мы гаворым пра час, у які яшчэ не існавала дэфініцыі сакрамэнту і да канца не было вызначана, якія практыкі Касцёла з'яўляюцца сакрамэнтальнымі.

*— Паколькі пасля абвяшчэння адгартацыі «Familiaris consortio» ўжо існуе шлях распазнавання нестандартных сітуацый, то якое новае рашэнне прапануецца ў «Amoris laetitia»?*

— На рашэнні, прапанаваныя папам Францішкам, трэба глядзець у кантэксце крытыкі на адгартацыю Яна Паўла ІІ.

*— Што гэта значыць?*

— Я звярнуў бы ўвагу на тэзіс найбольш аўтарытэтнага, на маю думку, сучаснага тэолага маралі ў Германіі, выкладчыка ўніверсітэта ў Фрайбургу, ксяндза прафесара Эберхарда Шокэнхофа. Гэта адзін з галоўных дарадчыкаў нямецкай Канферэнцыі Біскупаў. Летам мінулага года на штогадовай сустрэчы польскіх тэолагаў маралі ў Нысе ён прапанаваў перагледзець дэфініцыю непарыўнасці сужэнства. На яго думку, няма нічога такога, як трывалы сужэнскі саюз, які нібыта існуе з моманту заключэння сужэнства і ажно да смерці. У той час, калі паміж сужэнцамі памірае любоў, знішчаецца і непарыўнасць.

*— Якім жа чынам ён інтэрпрэтуе словы Хрыста пра тое, што чалавек, які развядзецца са сваёю жонкаю, чужаложыць (Мц 19, 9)?*

— Ксёндз прафесар лічыць, што калі «ачысціць» гэтыя словы ад гістарычнага кантэксту, то непарыўнасць сужэнства азначае выключна абяцанне Бога: Ён будзе падтрымліваць дваіх, якія кахаюць адно аднаго, — мужчыну і жанчыну — і ў першым, і ў кожным наступным саюзе.

*— Прызнаем, што часам чалавечая любоў сапраўды памірае…*

— Аднак гэта не дае нам права адпрэчваць метафізічную канцэпцыю сужэнскага саюзу, які існуе нават тады, калі ўжо няма супольнага жыцця, пачуццяў і любові. Як ты заўважыў, Касцёл не сам выдумаў гэтае контркультурнае вучэнне пра непарыўнасць сужэнства, а знайшоў яго ў словах Хрыста, які ў гэтым аспекце істотна адыходзіць ад мыслення Старога Запавету.

А Шокэнхоф і многія тэолагі, якія мяркуюць падобным чынам, лічаць, што няма непарыўнасці сужэнства; у той момант, калі адзін з сужэнцаў пакідае другога або калі сужэнцы прызнаюць, што страцілі цікавасць адно да аднаго, Бог нібы забірае назад свой дар і абяцанне непарыўнасці.

*— Можа, гэтае меркаванне вынікае з таго, што падыход да нестандартных сітуацый, прапанаваны ў «Familiaris consortio», вычарпаў сябе і трэба распрацаваць яго нанава?*

— Пытанне: у якім месцы ён вычарпаў сябе? Трэба ўсведамляць, што многія лакальныя Касцёлы ніколі не кіраваліся прадпісаннямі «*Familiaris consortio*». Напрыклад, у Германіі, у Францыі ці Швейцарыі ніхто не заняўся рэалізацыяй адгартацыі, і таму стварылася сітуацыя, у якой, кажучы простымі словамі, усё можна. У такіх супольнасцях не існуе праблемы допуску ці нядопуску да святой Камуніі, бо ўсе прысутныя ў касцёле на святой Імшы ідуць да Камуніі.

*— Таму я вяртаюся да пытання: можа, трэба нанова акрэсліць і растлумачыць касцёльны падыход да такіх сітуацый?*

— Калі з'явілася адгартацыя «*Familiaris consortio*», большасць каментатараў засяродзілася на ўдзеле разведзеных людзей у сакрамэнтальнай Камуніі. Але ў цэлым тэкст быў не пра гэта. Святы Айцец меў на мэце інтэграцыю разведзеных людзей у жыццё Касцёла. Ян Павел ІІ звяртаў увагу на тое, каб атуліць душпастырскаю апекаю людзей, якія знаходзяцца ў нестандартных сужэнскіх сітуацыях. Гэтую ж думку я знаходжу сёння ў папы Францішка, які надаў закліку Яна Паўла ІІ вельмі хвалюючае

азначэнне — «пастаральнае навяртанне», пра якое ён часта гаворыць. На маю думку, гэта найважнейшае ў вучэнні цяперашняга Пантыфікату, што заахвочвае нас да рахунку сумлення з апошняга трыццацігоддзя нашай душпастырскай працы.

*— У якім сэнсе?*

— Прасцей кажучы, трэба задаць сабе пытанне: колькі пробашчаў ці вікарыяў ведаюць, што дзесьці жывуць людзі без шлюбу, і абмінаюць іх дом, ходзячы па калядзе? Колькі такіх сітуацый, калі падчас казанняў гэтым людзям даюць адчуць, што яны з'яўляюцца католікамі другой катэгорыі? Колькі разоў, звярнуўшыся ў парафіяльную канцылярыю, каб папрасіць аб хросце дзіцяці, такія людзі сутыкаюцца з прыніжэннем і вельмі непрыемнымі адносінамі да іх святароў? Колькі парафій займаецца душпастырствам для людзей, якія жывуць у несакрамэнтальных саюзах? Ці шмат дыяцэзій, дзе рэальна, а не на паперы, працуюць душпастыры, якія займаюцца такімі людзьмі?

Мы ў сваіх дыскусіях засяроджваемся на тым, ці могуць такія людзі прыступаць да Камуніі, аднак гэта ўсяго толькі частка вялікай праблемы, якую папа Францішак слушна называе далучэннем да жыцця Касцёла. Са свайго досведу я ведаю, што размова з такімі людзьмі вельмі плённая. Відавочна, ім патрэбна менавіта адчуванне таго, што яны знаходзяцца ўнутры супольнасці, а не па-за ёю.

*— Аднак жэст недапускання да святой Камуніі з'яўляецца лакмусавай паперкай, якая паказвае, што пэўным чынам яны ўсё ж такі выключаныя. Гаворка пра тое, што гэта няпраўда, няшмат змяняе. Таму голас Папы, які прабіваецца праз шум масмедыя, многім дае надзею на сапраўднае і поўнае вяртанне ў жыццё Касцёла.*

— Тое, што людзі чуюць у масмедыя, звычайна мае няшмат агульнага з тым, чаму Папа Рымскі і Касцёл на самай справе навучаюць.

Гаворачы пра ўдзяленне Камуніі, ты свядома ці несвядома ўжыў слова «жэст». Для многіх гэта менавіта жэст. Аднак для Касцёла гэта цэнтр жыцця і сэрца веры. Таму нельга выкарыстоўваць гэты жэст толькі для таго, каб дасягнуць нейкай часовай мэты — даць людзям пачуццё спакою сумлення ці эмацыйнае суцяшэнне. Удзяленне чалавеку святой Камуніі заўсёды звязана з суджэннем пра яго маральны стан і распазнаваннем таго, на якім этапе дарогі да Бога ён знаходзіцца. Пры ўсіх рознагалоссях у інтэрпрэтацыі «*Amoris laetitia*» менавіта ў гэтым каментатары згодныя.

*— У такім выпадку чым адрозніваецца рашэнне, прапанаванае папам Францішкам, ад таго, што практыкуецца цяпер?*

— «*Amoris laetitia*» змяняе існуючы дагэтуль спосаб аргументацыі вучэння Касцёла. У ёй ужо не гаворыцца пра ацэнку аб'ектыўнага стану, у якім апынуліся людзі ў нестандартным саюзе, а робіцца акцэнт на распазнаванне ступені іх віны.

*— Што гэта значыць?*

— Па-першае, Папа Рымскі прапануе паставіць пытанне пра тое, ці нясе гэты чалавек адказнасць за распад папярэдняга сужэнства. Як вядома, сітуацыі могуць быць розныя. Хтосьці сам пакінуў сужэнца, а кагосьці маглі пакінуць, ды яшчэ, напрыклад, з некалькімі дзецьмі альбо ў хваробе. Другое пытанне датычыць ацэнкі таго, ці спрабаваў гэты чалавек жыць у адзіноце, апякуючыся сваімі дзецьмі, каб мець магчымасць поўнасцю ўдзельнічаць у Эўхарыстыі. А можа, ён прыйшоў да высновы, што для яго гэта цяжар звыш сілаў, улічваючы бацькоўскія абавязкі ці эмацыйныя патрэбы. І зноў жа кожнае з гэтых рашэнняў мае пэўныя наступствы і маральную адказнасць. Трэцяе пытанне датычыць жыцця ў новым саюзе, або прынцыпаў, якімі кіруюцца сужэнцы ў сексуальных адносінах і выхаванні дзяцей. Усе гэтыя пытанні ўзнімаюцца ў адгартацыі і дапамагаюць вызначыць ступень віны тых людзей, пра якіх мы гаворым.

*— Гэта вельмі індывідуальны падыход да людзей, якія часта перажываюць драму ў сувязі з разводам і распадам іх саюзу. У чым заключаецца праблема?*

— Згадзіўшыся на гэта, Касцёл пакажа, што ён прымае і другія саюзы. А калі другія, то таксама і іншыя саюзы, бо такая сітуацыя можа паўтарыцца — тая ж самая жанчына ці той жа самы мужчына могуць зноў расстацца і распачаць жыццё ў трэцім саюзе. Гэта адкрые шлях да серыйнай бігаміі. Можа, не адразу, не за адзін год, але, магчыма, на працягу дзесяці гадоў. Гэта таксама выклікае пытанні тэалагічнага характару: што ў такім выпадку адбываецца з папярэднім сужэнствам — ці існуе яно далей, ці сапраўднае яно па-ранейшаму, ці яго ўжо няма? Як растлумачыць непарыўнасць сужэнства?

*— Тым не менш, даследаванне віны — гэта цікавая ідэя. Далёкая ад бяздушнага і сухога адміністрацыйнага падыходу. Што ў гэтым дрэннага?*

— Ёсць дзве праблемы. Першая датычыць спаведніка. Менавіта на яго плечы кладзецца цяжар распазнавання сітуацыі сужэнцаў.

*— Але ж касцёльныя суды*

*таксама займаюцца праблемамі несапраўдных сужэнстваў.*

— Так, але ў іх практыцы гэта звязана з працэсам праслухоўвання і высвятлення віны абодвух бакоў. Аднак у прапанове Папы Рымскага менавіта спаведнік пасля выслухоўвання аднаго з бакоў павінен высвятліць, хто адказны за распад сужэнства. Уявім сабе сітуацыю, у якой кінутая жанчына раптам бачыць, як яе былы муж прыступае да святой Камуніі з іншаю жанчынаю і двума новымі дзецьмі.

*— У такіх сітуацыях Папа выразна гаворыць, што Эўхарыстыя — гэта не ўзнагарода для дасканалых, а лек і спажытак для слабых.*

— Абсалютна правільна, але ў такой сітуацыі жанчына, пакрыўджаная сужэнцам, не мае магчымасці супаставіць у канфесіянале сваю версію падзеяў з тым, што распавёў яе сужэнец. Ну і на практыцы ён атрымаў другі шанец, а яна — не. Да яго праявілі міласэрнасць, а што з ёю? Гэта рэальныя праблемы такога падыходу.

Існуе і другая праблема, на маю думку, яшчэ больш сур’ёзная. У адгартацыі ёсць сцверджанне, якое, зрэшты, выкарыстаў таксама кардынал Каспэр і многія іншыя тэолагі, напрыклад, біскупы Аргенціны ў сваёй інтэрпрэтацыі дакумента. Яны падкрэсліваюць, што Папа меў на ўвазе санкцыянаванне невялікай колькасці нестандартных выпадкаў. На маю думку, гэта немагчыма, так не ўдасца зрабіць.

*— Чаму?*

— Таму што ў ацэнцы кожнага маральнага чыну вялікае значэнне маюць акалічнасці, намеры і аб’ект. Прытым намеры і акалічнасці толькі мадыфікуюць тое, што з’яўляецца аб’ектам. Калі мы прызнаем, што можна дапускаць да Камуніі разведзеных людзей, якія жывуць у новых саюзах, то праз нейкі час гэта будзе азначаць допуск да Камуніі ўсіх, хто знаходзіцца ў нестандартнай сітуацыі.

*— Шчыра кажучы, не разумею…*

— Большасць праблемаў, закранутых у «*Amoris laetitia*», — гэта толькі нюансы, якія маюць невялікі ўплыў на ацэнку спаведніка, бо ён найперш глядзіць на аб’ект дзеяння, які па сваёй сутнасці з’яўляецца грэшным і пярэчыць шостай запаведзі. Прыняцце такога рашэння цалкам затушоўвае разуменне таго, што такое грэх, і стварае сітуацыю, у якой усе людзі ў паўторных саюзах змогуць прымаць святую Камунію.

*— Мы ўзгадалі пра ліст аргенцінскіх біскупаў. Папа Рымскі сказаў, што гэта ўзорны падыход да разумення сэнсу адгартацыі.*

— Гэты ліст — крыху камічны элемент у дыскусіі пра «*Amoris laetitia*». Нагадаем, што аргенцінскія біскупы ў прыватным лісце, дасланым Папу, папрасілі яго выказацца аб практычным прымяненні пададзеных у адгартацыі прапановаў. Папа таксама ў сваім прыватным лісце адказаў ім, што гэта правільная інтэрпрэтацыя і іншай няма. Дзіўным чынам гэты ліст неўзабаве трапіў у прэсу і быў апублікаваны ў інтэрнэце. На працягу некалькіх дзён адбывалася дыскусія наконт таго, ці з’яўляецца гэты ліст Папы сапраўдным, а кіраўнік прэс-службы Апостальскай Сталіцы маўчаў. Толькі праз некалькі дзён ліст біскупаў і адказ Папы Рымскага былі апублікаваныя ў «*L’Osservatore Romano*», а больш чым праз год яны трапілі ў афіцыйны збор дакументаў «*Acta Apostolicae Sedis*» як афіцыйнае выказванне Біскупа Рыма. Гэта вельмі дзіўны ход, і як тэолаг я не хацеў бы, каб вучэнне і Настаўніцкі Інстытут Касцёла развіваліся такім чынам.

Мае сумненні адносна гэтай інтэрпрэтацыі вынікаюць таксама з таго, што для аргенцінскіх біскупаў самым сур’ёзным аргументам за допуск да Эўхарыстыі разведзеных з’яўляюцца дзве спасылкі ў адгартацыі — 336 і 351, у якіх згадваецца іншы тэкст папы Францішка — адгартацыя «*Evangelii gaudium*» (2013 г.).

*— Што ў гэтым дрэннага?*

— Калі мы гаворым пра істотныя змены ў практыцы Касцёла, то трэба зрабіць гэта інакш — не ў спасылцы, дзе гаворыцца не наўпрост пра допуск да Эўхарыстыі, а пра зменшаную маральную адказнасць. Калі падчас прэс-канферэнцыі Папу спыталі, чаму такая фундаментальная змена практыкі Касцёла адбываецца праз гэтую «славутую спасылку», ён адказаў, што не памятае гэтай спасылкі, а потым згадаў, што ў ёй напэўна паўтараецца вучэнне адгартацыі «*Evangelii gaudium*». Праблема заключаецца ў тым, што ў «*Evangelii gaudium*» нідзе не гаворыцца пра Камунію для разведзеных, а адгартацыя «*Amoris laetitia*» з’явілася ў выніку сінода, на якім — таксама са згоды Папы — не была вырашана гэтая праблема, і ўсе чакалі, што «*Amoris laetitia*» развее сумненні па гэтым пытанні.

*— Тады, магчыма, чатыры кардыналы, якія напісалі пра свае сумненні адносна інтэрпрэтацыі[1], маюць рацыю?*

— Калі гаварыць пра сумненні кардыналаў, то тут мы сутыкаемся з іншымі праблемамі. Першая датычыць публікацыі ліста, які быў скіраваны да Папы і мае папрокі тэалагічнага характару да зместу адгартацыі. На думку аўтараў, сітуацыя настолькі сур’ёзная, што, як зазначана ва ўступе, яны адчувалі сябе

абавязанымі да гэтага кроку ў духу адказнасці за Касцёл. Другая ж праблема датычыць сутнаснай ацэнкі пастаўленых імі пытанняў. У святле розных інтэрпрэтацый «*Amoris laetitia*» яны найбольш абгрунтаваныя і вынікаюць з ранейшага вучэння Касцёла.

*— У адным з інтэрв'ю*[2] *Папа адказаў ім, што для некаторых у жыцці ёсць толькі «белае» або «чорнае», але толькі на сумесным шляху можна правесці духоўнае распазнанне.*

— Усё гэта праўда. Праблема ў тым, каб Папа выразна выказаўся: «так» або «не», у тым ліку наконт магчымасці атрымаць разграшэнне для разведзеных людзей, якія ўтварылі новыя саюзы. Альбо адносна таго, ці застаюцца ўсё яшчэ абавязковымі прынцыпы энцыклікі «*Veritatis splendor*» Яна Паўла II пра безумоўныя маральныя нормы, паводле якіх забараняюцца ўчынкі, дрэнныя па сваёй сутнасці. І ці можна ў святле адгартацыі далей сцвярджаць, што чалавек, які жыве ў новым грамадзянскім саюзе, чужаложыць, бо знаходзіцца ў рэальнай сітуацыі цяжкага граху? Гэта практычныя сумненні.

*— У такім выпадку — што далей?*

— Праз пяцьдзясят гадоў пасля Другога Ватыканскага Сабору мы ўсё яшчэ застаемся ў перыядзе паслясаборавай тэалагічнай няпэўнасці. Нішто не ўказвае на тое, што гэта хутка скончыцца. Некаторыя з каментатараў кажуць, што пасля папярэдніх Сабораў, напрыклад, пасля Трыдэнцкага ці пасля вялікіх сярэднявечных Сабораў у Канстанцінопалі ці ў Латэранскім палацы, амаль сто гадоў працягваліся дыскусіі. Цяпер адбываецца гэтаксама. Мы маем справу з канфрантацыяй рознага роду тэалагічных меркаванняў. «*Familiaris consortio*» і «*Amoris laetitia*» — гэта два розныя рашэнні і дзве розныя тэалогіі.

*— А што з адказнасцю за вучэнне асобных епіскапатаў?*

— Другі Ватыканскі Сабор нагадаў, што біскупы ў сваіх дыяцэзіях не з'яўляюцца пасламі Рыма. Кожны з іх — наступнік Апосталаў, ён мае ўладу для выканання сваіх функцый не ад Папы, а непасрэдна ад Бога праз сам факт біскупскага пасвячэння. Зразумела, ён павінен дзейнічаць у еднасці з Калегіяй Біскупаў і Біскупам Рыма. Тым не менш, гэта не вызваляе ніводнага з іх ад самастойнага апостальскага служэння ў сваёй уласнай дыяцэзіі.

*— Магчыма, нам будуць патрэбны пэўныя ўдакладненні, якія развеюць сумненні, звязаныя са спасылкамі ў адгартацыі «Amoris laetitia»?*

— На маю думку, удакладнення вымагае толькі адно, найбольш дыскусійнае пытанне, пра якое мы гутарылі. Аднак не будзем забываць, што «*Amoris laetitia*» — гэта вялікі дакумент, які мае больш за 300 пунктаў. Ён напісаны вельмі добраю моваю. Калі б я мусіў рыхтаваць маладых людзей да сакрамэнту сужэнства, то грунтаваў бы сваё навучанне на першых сямі раздзелах адгартацыі, бо Папа фенаменальна гаворыць у ёй пра новыя рэчы, якіх няма ў вучэнні Яна Паўла II, і за гэта папу Францішку варта падзякаваць.

Праблема гэтай дыскусіі вынікае з таго, што мы навучыліся быць альбо «за», альбо «супраць», на адным альбо на другім баку спрэчкі. Нам заўсёды трэба вызначыцца. Такім чынам, мы альбо становімся на бок Святога Айца і тады прымаем усё, што напісана ў «*Amoris laetitia*», альбо займаем пазіцыю супраць Папы і тады выказваемся на карысць якой-небудзь традыцыяналісцкай плыні Касцёла. Такое мысленне памылковае, таму што быць католікам — гэта значыць таксама паважаць і любіць Біскупа Рыма ў тым, што ён піша для нас, і ў тым, што ён нам гаворыць. Аднак мы ўсё роўна не павінны бескрытычна адкідваць уласных сумненняў і адключаць розум. Як хрысціянін я глыбока веру ў тое, што Папа, выбраны Калегіяй Кардыналаў, мае дар Духа Святога і вядзе Касцёл у правільным кірунку. І таму спадзяюся, што з гэтай няпэўнасці для Касцёла атрымаецца штосьці добрае, трэба толькі пачакаць.

*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*

*Паводле: час. «W drodze»,*
*№ 2, 2018.*

[1] У верасні 2016 г. чатыры кардыналы — Вальтэр Брандмюлер (Старшыня Папскага камітэта гістарычных навук на пенсіі), Рэйманд Лео Бёрк (арцыбіскуп мітрапаліт Сэнт-Луіса), Карло Кафара (арцыбіскуп Балоны, памёр у верасні 2017 г.) і Ёахім Майснэр (арцыбіскуп мітрапаліт Кёльна, памёр у ліпені 2017 г.) — звярнуліся да Папы з просьбаю растлумачыць фармулёўкі, якія змешчаны ў адгартацыі «*Amoris laetitia*» і выклікаюць сур'ёзную занепакоенасць і разгубленасць духоўных асобаў і саміх вернікаў. Паколькі іерархі не атрымалі адказу, яны вырашылі апублікаваць свой ліст.

[2] Маецца на ўвазе інтэрв'ю, якое папа Францішак даў італьянскай газеце «*Avvenire*» ў лістападзе 2016 г.

# «Статак ведае, куды ісці»

**З італьянскім ватыканістам *Сандро Магістрам* (нар. у 1943 г.), журналістам штотыднёвіка «*L'Espresso*», аўтарам блога «*Settimo Cielo*» («Сёмае неба»), які вядзецца на італьянскай, англійскай і іспанскай мовах, размаўляе польскі святар Адам Блышч з Кангрэгацыі ўваскрасення Пана нашага Езуса Хрыста.**

*— Вы сцвярджаеце, што папа Францішак не жадае развеяць сумненняў і двузначнасці, якія з'явіліся пасля прачытання адгартацыі «Amoris laetitia», нягледзячы на тое, што яго не раз прасілі аб гэтым публічна. Чаму?*

— Гэта характэрная рыса цяперашняга Пантыфікату. Яна заключаецца не столькі ў публікацыі новых тэалагічных дакументаў, колькі ў спецыфічным метадзе іх падачы. Святы Айцец падае пастулаты неадназначна, дазваляючы свабодна іх інтэрпрэтаваць. Менавіта так адбылося пасля публікацыі адгартацыі «*Amoris laetitia*».

*— Якія гэта пастулаты?*

— Яны знаходзяцца ў некаторых фрагментах восьмага раздзела дакумента, а таксама ў некаторых спасылках да тэксту. Гэтыя пастулаты датычаць прыняцця святой Камуніі разведзенымі людзьмі, якія жывуць у новых саюзах, і практыкі сакрамэнтаў Эўхарыстыі, сужэнства і споведзі.

*— Але дакумент узнік не на пустым месцы: ён з'яўляецца вынікам шматлікіх кансультацый і пасяджэнняў дзвюх сесій Сіноду Біскупаў, прысвечаных сям'і, праведзеных у 2014 і 2015 гадах.*

— Сходы біскупаў не прынеслі жаданага выніку. Прынамсі трэць удзельнікаў была супраць зменаў, прапанаваных Папам. Пазітыўна да гэтых зменаў аднеслася меншасць, якую падтрымлівала аморфная група астатніх удзельнікаў сінодаў.

Гэта адбілася на паслясінадальнай адгартацыі: у ёй не знойдзецца ніводнага сказа, які мог бы стаць для рэфарматараў штандарам навізны. Аднак ёсць шмат няпэўнасці ў аргументацыі. Гэта вобраз Касцёла, які сам падзяліўся ў такіх важных справах.

*— У сувязі з гэтым ці падпісалі Вы «correctio filialis»*[1]*?*

— Не, і не збіраюся гэтага рабіць. Я бачу прынцыповую розніцу паміж тым, што напісалі чатыры кардыналы (гл. інтэрв'ю з а. Яраславам Купчакам OP. — *Заўв. рэд.*), якія выказалі свае тэалагічныя сумненні адносна адгартацыі, і папрокамі ў адрас Папы аб прапагандзе ерэтычных меркаванняў, зробленымі ў адкрытым лісце. Праблема ў тым, што ніводнага з сямі ерэтычных тэзісаў, прыпісаных Папу, няма ў яго працах. Гэта вельмі зніжае значнасць «*correctio*», што хутчэй з'яўляецца праявай непрыязнасці да Папы.

*— Што найбольш раздражняе праціўнікаў Святога Айца?*

— Той, хто чытае адгартацыі, добра ведае, што гэта вынік працы розных аўтараў. Агульнавядома, што з Берголье ў напісанні яго тэкстаў ужо шмат гадоў супрацоўнічае арцыбіскуп Віктар Мануэль Фернандэс. Гэта заўважна ў «*Evangelii gaudium*» і «*Amoris laetitia*». У другім дакуменце можна знайсці цэлыя абзацы, перапісаныя з артыкулаў Фернандэса дзесяці- або дванаццацігадовай даўнасці. Відавочна і зразумела, што Папа не можа сам усё пісаць і карыстаецца дапамогаю чалавека, якому давярае. Але Фернандэс — гэта тэолаг, адносна якога выказала свае перасцярогі Кангрэгацыя Каталіцкай Адукацыі, калі ён быў кандыдатам на пасаду рэктара Каталіцкага ўніверсітэта ў Буэнас-Айрэсе. У мяне выклікае сумненні таксама яго публікацыя, пасля якой ён стаў больш вядомы чытачам, — «Аздараві мяне сваімі вуснамі. Пра мастацтва пацалунка». Калі тэолаг з сумніўнай рэпутацыяй мае такі вялікі ўплыў на тэксты Настаўніцкага Інстытута Касцёла, не трэба здзіўляцца, што гэта выклікае занепакоенасць.

*— Можа, менавіта па гэтай прычыне з'яўляецца ўсё больш інтэрпрэтацый тэксту Папы? Ці можна сказаць, якая з іх найбольш правільная?*

— Гэта вельмі добрае пытанне: яно паказвае, у чым заключаецца праблема. Паколькі адгартацыя падпісаная Папам, здаецца, што менавіта ён можа найбольш адпаведна інтэрпрэтаваць тое, што там напісана. Адначасова папа Францішак адзначыў, што жадае, каб існавалі розныя інтэрпрэтацыі, у залежнасці ад кантэксту, у якім дзейнічае канкрэтны мясцовы Касцёл.

Пасля гэтага ён напісаў ліст да біскупаў Аргенціны рэгіёна Буэнас-Айрэса (гл. інтэрв'ю з а. Яраславам Купчакам OP. — *Заўв. рэд.*), у якім заявіў, што прапанаваная імі інавацыйная інтэрпрэтацыя дакумента слушная і што ніякай іншай няма. Але гэта яшчэ не ўсё. У той жа час кардынал Агостыно Валліні[2], вікарый Рымскай дыяцэзіі, кіраўніком якой з'яўляецца Папа, апублікаваў рэкамендацыі па выкарыстанні прадпісанняў адгартацыі. Яны дыяметральна адрозніваюцца ад прапановаў

аргенцінскіх біскупаў, якія Святы Айцец ухваліў перад гэтым. Урэшце, мы маем таксама інтэрпрэтацыю кардынала Энніо Антанэллі[3], былога старшыні Папскай рады па справах сям'і, падобную па сваім змесце да заўвагаў, напісаных для Рымскай дыяцэзіі.

Усё гэта сведчыць пра тое, як папа Францішак кіруе Касцёлам. У яго спосабе кіравання няма нічога канчатковага. Як ён сам неаднаразова казаў, нашмат важней зрушыць з месца пэўныя працэсы, якія могуць працягвацца гадамі, чым атрымаць часовыя вынікі.

*— Не трэба забываць, што існуюць таксама дырэктывы з Сан-Дыега[4].*

— У сваім падыходзе біскуп Робэрт МакЭлрой заходзіць нашмат далей за ўсе інтэрпрэтацыі касцёльнага прагрэсіўнага «лагера». Ён не згадвае пра грэх у кантэксце другога саюзу, зводзіць сакрамэнт споведзі да размовы верніка са святаром, які проста дае парады верніку, каб дапамагчы яму прыняць рашэнне ў адпаведнасці з яго сумленнем. А ў цэлым працэс ацэньваецца ў кантэксце суб'ектыўных пачуццяў сужэнцаў, якія рассталіся. Гэта не што іншае, як легалізацыя разводу ў Касцёле і адмаўленне ад сакрамэнтальнай практыкі. На жаль, з боку Папы няма ніводнага каментарыя адносна гэтай сітуацыі, не кажучы ўжо пра якую-небудзь згадку.

Францішак дазваляе супярэчлівыя інтэрпрэтацыі свайго дакумента. Напрыклад, у Злучаных Штатах ёсць таксама афіцыйная інтэрпрэтацыя арцыбіскупа Філадэльфіі Чарльза Шап'ю[5], адпаведная папярэдняму вучэнню Касцёла. У ёй звяртаецца ўвага на тое, што калі ў тэксце дакумента з'яўляюцца няяснасці адносна веры і маралі, то трэба інтэрпрэтаваць іх згодна з вучэннем папярэдніх Папаў.

*— Калі мы маем так шмат розных меркаванняў, то ці можна сказаць, якія наступствы гэта будзе мець для Касцёла?*

— Працэс, які зрушыла з месца адгартацыя, нялёгка спыніць. Наступнік Францішка, калі ён, напрыклад, будзе паходзіць з асяроддзя касцёльнай традыцыі, не зможа затрымаць яго проста так. Тое, на што сёння даецца згода ў Касцёле, цяжкаануляваць у будучыні: заўсёды ў якасці аргумента будзе выкарыстоўвацца спасылка на цяперашні Пантыфікат і на тое, што было прынята падчас яго.

*— А што было прынята?*

— Хаця б тое, што Папа, а таксама некаторыя біскупы ці Канферэнцыі Біскупаў асобных краінаў прызналі слушнымі такія вырашэнні складаных сітуацый, якія супярэчаць папярэдняй практыцы і традыцыі Касцёла адносна разведзеных. У выніку некаторыя святары і вернікі робяць што хочуць, спасылаючыся выключна на аўтарытэт сумлення, з якім не дыскутуюць і якому давяраюць без усялякай крытыкі.

*— А ці ёсць у адгартацыі нейкія пазітыўныя бакі?*

— Гэта вельмі аб'ёмны дакумент. У ім ёсць фрагменты, якія могуць дапамагчы вернікам глыбей усвядоміць вартасць сужэнства і жыць у ім згодна з Евангеллем. Тут няма ніякіх адкрыццяў, хутчэй узгадваецца традыцыйная дактрына. Калі ў адгартацыі і ёсць пэўная навізна, то яна найперш датычыць мовы, вельмі даступнай для звычайнага чытача, што не заўсёды было нормаю ў дакументах Касцёла.

*— Можа, таму што Папа з'яўляецца больш душпастырам, чым інтэлектуалам?*

— У адукацыі папа Францішак мае вельмі добрую падрыхтоўку. Проста ён не мысляр па жыццці, як яго папярэднікі. Папа Францішак хутчэй з'яўляецца дыялектыкам, які знаходзіцца ў напружанні паміж свабодаю і ласкаю. Пра гэта добра сведчыць выдадзеная нядаўна ў Італіі кніга, прысвечаная тэалагічным і філасофскім вытокам яго думкі[6]. Яе напісаў прафесар Массімо Боргезі, філосаф з універсітэта ў Перуджы, несумненна, вельмі кампетэнтны чалавек і ў дадатак сябар Бергольё з тых часоў, калі ён яшчэ не быў Папам. У сваёй працы аўтар паказвае, што ўсе вытокі папскай думкі — з найвышэйшай паліцы.

*— Хоць сярод іх няма Ратцынгера…*

— Гэта праўда, але ёсць іншыя выбітныя асобы, напрыклад, швейцарскі кардынал Ханс Урс фон Бальтазар, уругвайскі філосаф Альбэрто Метол Феррэ, італьянска-нямецкі тэолаг Рамано Гуардзіні або езуіты Гастон Фессар і кардынал Анры дэ Любак.

Аднак тое, што ў час фармацыі чытаў Бергольё і з кім ён сустракаўся, — гэта адно, а тое, як гэтыя асобы паўплывалі на яго, — гэта зусім іншае. Згадаем, напрыклад, чатыры папскія пастулаты, на якіх грунтуецца вучэнне ўсяго цяперашняга Пантыфікату[7]. Ужо тое, што папа Францішак называе гэтыя думкі пастулатамі, выклікае пэўныя пярэчанні.

*— Што ў гэтым дрэннага?*

— Пастулат — гэта тэзіс, які не патрабуе доказаў. І кожны, хто мае мінімальныя філасофскія веды, можа свабодна паставіць гэта пад сумненне.

*— Папа не мусіць быць ані філосафам, ані доктарам Касцёла.*

— Але павінен карыстацца ведамі і досведам людзей, якія па статусе пакліканыя дбаць пра інтэгральнасць папскага вучэння. У Ватыкане ёсць Кангрэгацыя

Веравучэння, якую папа Францішак цалкам ігнаруе. Дагэтуль існаваў звычай, паводле якога Кагрэгацыя правярала кожны дакумент Папы, перш чым ён быў апублікаваны. Святы Айцец адмовіўся ад гэтага, не праяўляючы да яе даверу. Урэшце, летам мінулага года ён звольніў з пасады яе прэфекта кардынала Герхарда Мюллера.

*— А можа, для Папы важна не столькі выклікаць замяшанне, колькі вылучыць творчы фермент і заахвоціць тэолагаў шукаць новыя рашэнні?*

— Вучэнне папы Францішка можна акрэсліць прыметнікам «зменлівае». На маю думку, гэта таксама тлумачыць яго папулярнасць па-за Касцёлам — нават большую, чым унутры самой супольнасці вернікаў. Звярніце, калі ласка, увагу на тое, як яго любяць асяродкі, праграмна варожыя Каталіцкаму Касцёлу. У Італіі такім прыкладам з'яўляецца заўзяты агностык, галоўны рэдактар газеты «*La Repubblica*» Эўджэніо Скальфары, які не хавае сваёй сімпатыі да працаў Францішка.

*— Прабачце, калі ласка, за невуцкае пытанне, але ці не наследуе папа Францішак крыху кардынала Карло Марыя Марціні, які разам з Умбэрто Эка ў 1996 годзе напісаў кнігу «У што верыць той, хто не верыць?»?*

— Сапраўды, Марціні, выдатны бібліст, езуіт з тонкім мысленнем, быў прадвеснікам лініі Святога Айца, зрэшты, таксама езуіта. Калі Марціні быў арцыбіскупам Мілана, ён вызначыўся ў тым ліку стварэннем Катэдры няверуючых, або месца дыялогу з вядомымі людзьмі, далёкімі ад веры. Падобны дух спадарожнічаў пазней папу Бэнэдыкту XVI, які заснаваў Дзядзінец язычнікаў, што дзейнічае да сённяшняга дня пад апекаю кардынала Равазі. Папа Францішак крыху занядбаў яго, бо ў яго іншы спосаб весці дыялог — больш засяроджаны на выніках, чым на змесце.

*— Чым тлумачыцца такая пазіцыя Папы?*

—Па сутнасці Папа вельмі прагматычны чалавек. У сваіх учынках і словах ён кіруецца перспектываю вынікаў, якія гэта прынясе, незалежна ад таго, што яны самі па сабе азначаюць. Заўважце, ён увесь час запрашае да размовы Скальфары, ведаючы, што той апіша іх сустрэчу вельмі крэатыўна, і яго не цікавіць тое, што яму будуць прыпісаныя меркаванні, якіх ён не падзяляе, або словы, якіх ён не прамаўляў. Яму дастаткова папулярнасці і сімпатыі ў асяроддзі, прынцыпова варожым Касцёлу.

Цікава, што да таго, як Бергольё стаў Папам, ён не даваў інтэрв'ю, захоўваў дыстанцыю і мала ўсміхаўся. А цяпер немагчыма злічыць усе яго інтэрв'ю. Пра яго замежныя падарожжы гаворыцца ў кантэксце таго, што ён сказаў у самалёце. Там ён выказваецца на любую тэму і вельмі часта супярэчыць самому сабе. Гэта паток словаў, скіраваны на дасягненне папулярнасці.

*— А можа, выйсцем з такой сітуацыі павінен стаць зварот да вопыту ўсходніх Цэркваў, якія прызнаюць непарыўнасць першага сужэнства і пры пэўных умовах дапускаюць існаванне другога і трэцяга?*

— На працягу стагоддзяў у асобных Праваслаўных Цэрквах прымяняліся вельмі розныя рашэнні. Цяжка сказаць, чаму Каталіцкі Касцёл мог бы навучыцца ў гэтай справе ад Праваслаўных Цэркваў. Зрэшты, гэта сказаў сам Францішак падчас прэс-канферэнцыі на борце самалёта, вяртаючыся ў 2013 годзе з Рыа-дэ-Жанэйра. Нават калі б у Каталіцкім Касцёле з'явілася магчымасць заключаць другое сужэнства, гэта было б кардынальнае наваўвядзенне, якое падрывала б еднасць супольнасці і толькі ўзмацняла б сённяшнюю няпэўнасць.

У вырашэнні гэтай праблемы не дапамагае пазіцыя пастыраў, у тым ліку найвышэйшага з іх, які няспынна паўтарае, што яго абавязак — не толькі весці статак, але таксама ісці за ім, бо, па яго словах, «статак ведае, куды ісці». Гэтая заява шакіруе. Баюся, што калі і далей будуць працягвацца тыя працэсы, якія распачаліся пасля публікацыі адгартацыі, то гэта скончыцца пратэстантызацыяй каталіцызму.

*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*

*Паводле: час. «W drodze», № 2, 2018.*

---

1 Адкрыты ліст, які падпісалі 62 каталіцкія святары і свецкія вучоныя. Тэкст можна знайсці на *www.correctiofilialis.org* (16.01.2018).

2 У дакуменце ад 19 верасня 2016 г. кардынал звяртаецца да 351-й спасылкі з адгартацыі, дзе гаворыцца пра допуск да поўнага ўдзелу ў Эўхарыстыі разведзеных людзей, якія ўступілі ў новыя саюзы. Кардынал каментуе яе наступным чынам: «У гэтым выпадку Папа выкарыстоўвае ўмоўны лад, таму не сцвярджае, што ўдзяленне сакрамэнтаў — належнае права ў дачыненні да такіх людзей, хоць і не выключае гэтага ў некаторых выпадках і пры адпаведных акалічнасцях». Такі падыход не супярэчыць існуючай практыцы Касцёла, угрунтаванай на прадпісаннях «*Familiaris consortio*» Яна Паўла II.

3 Кардынал Э. Антанэллі ў інтэрпрэтацыі «*Amoris laetitia*» паспрабаваў узгадніць яе пасыл з традыцыйнаю дактрынаю Касцёла. Свае разважанні ён выклаў у кнізе «*Per vivere l'Amoris laetita*» (Edizioni Ares, 2016) і дзвюх чарговых публікацыях, даступных на электронных старонках Папскай рады па справах сям'і ў некалькіх моўных версіях.

4 Дакумент называецца «*Embracing the Joy of Love*» і даступны на старонцы дыяцэзіі: www.sdcatholic.org/Portals/0/Bishop/Documents/Embracing_the_Joy_of_Love.pdf?ver=2016-05-09-151145-653 (доступ 17.01.2018).

5 Дакумент даступны на старонцы archphila.org/wp-content/uploads/2016/06/AOP_AL-guidelines.pdf (доступ 17.01.2018).

6 M.Borghesi, *Jorge Mario Bergoglio. Una biografia intellettuale*, Jaca Book, Milano, 2017.

7 Яны былі пералічаныя ў першай адгартацыі папы Францішка «*Evangelii gaudium*» («Радасць Евангелля»), апублікаванай у 2013 г. на завяршэнне Году веры. Гэтыя пастулаты гучаць наступным чынам: час важнейшы за прастору (пар. № 222), еднасць важнейшая за канфлікт (пар. № 228), рэчаіснасць важнейшая за ідэю (пар. № 231), цэлае большае за частку і за простую суму частак (пар. № 235).

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел VI
## Міласэрная любоў

Уільям Морыс[1] напісаў верш пад назваю «Дастаткова адной любові», а нехта адгукнуўся кароткай рэцэнзіяй: «Не, недастаткова». Вось асноўная ідэя гэтай кнігі. Натуральныя віды любові — не самадастатковыя, патрэбна яшчэ нешта. Спачатку гэтае «нешта» цьмяна вымалёўваецца пад выглядам «добрапрыстойнасці і разважлівасці», пасля акрэсліваецца ясней як цноты і мараль, і ўрэшце аказваецца, што ўсё хрысціянскае жыццё павінна ўвасобіцца ў канкрэтных адносінах і прыйсці на дапамогу пачуццям, каб захаваць іх свежасць і слодыч.

Я кажу гэта не для таго, каб прынізіць натуральныя віды любові, а каб паказаць, дзе іх чакае сапраўдная слава. Калі мы скажам пра сад, што ён сам сябе не агародзіць і не праполе, не абрэжа галінкі на дрэвах, не перакапае глебу і не пастрыжэ газон, то гэта не прыніжэнне для саду. Сад — гэта добра, але ён не з'яўляецца самім дабром. Сад застанецца садам, у адрозненне ад дзікага гушчару, толькі калі нехта будзе пра яго дбаць. Яго сапраўдная слава палягае на іншым. Пра гэта сведчыць тое, што яму неабходная рэгулярная праполка і падразанне. Сад раскашуе жыццём, ён ззяе барвамі, па ім разліваюцца райскія водары, ён напаўняе кожнае імгненне летняга дня такой прыгажосцю, якую ніводзін чалавек ніколі не ствараў і не мог бы нават уявіць у беднасці ўласнага розуму. Каб зразумець, наколькі гэта заслуга самога саду, а наколькі — садоўніка, параўнайце найзвычайнейшыя расліны з матычкаю, граблямі, нажніцамі і пакетам гербіцыду. Вось прыгажосць, моц і пладавітасць, а вось мёртвыя непрыглядныя рэчы. Гэтак жа і нашыя «добрапрыстойнасць і разважлівасць» здаюцца шэрымі і нежывымі ў параўнанні з жывою сардэчнаю любоўю. Назіраючы сад у паўнаце квітнення ягонай славы, мы разумеем, што ўнёсак садоўніка ў гэтую прыгажосць нязначны, у адрозненне ад унёску самой прыроды. Без жыццёвай сілы зямлі, без дажджу, нябеснага святла і цяпла ён не даў бы сабе рады. Уся праца садоўніка ў тым, каб тут крыху падтрымаць, а там крыху падправіць праявы магутнасці і прыгажосці, якія бяруць пачатак з іншай крыніцы. Але якім бы малым ні быў яго ўнёсак, усё ж гэта карпатлівая і неабходная праца. Пасадзіўшы сад, Бог паставіў чалавека гаспадарыць у ім і падпарадкаваў чалавека сваёй уладзе. Пасадзіўшы сад нашай прыроды і даўшы яму квітнець і прыносіць плён у розных праявах любові, Бог паставіў над любоўю волю, каб воля «даглядала» яе. У параўнанні з любоўю яна сухая і халодная, і пакуль Божая ласка не пральецца на наш сад дажджом і сонечным святлом, мы не зможам добра выкарыстоўваць гэтую прыладу. Але карпатлівая, часта знішчальная праца садоўніка тым не менш неабходная. Калі ў ёй была патрэба нават у райскім садзе, наколькі большая гэтая патрэба цяпер, калі глеба стала балоцістаю і яе захапіла пустазелле? Але барані нас Божа брацца за працу так, як стоікі і самазадаволеныя маралісты. Разрыхляючы глебу і падразаючы галінкі, трэба добра памятаць, што сад, які мы даглядаем, поўны такога велічнага бляску і жыццёвай моцы, якія наш розум і воля ніколі не маглі б стварыць. Частка нашага паклікання заключаецца ў тым, каб дапамагчы гэтаму бляску заззяць яшчэ ярчэй, каб дазволіць гэтай велічы раскрыцца ва ўсёй магчымай паўнаце, каб замест убогага хмызняку ў садзе раслі прыгожыя высокія дрэвы і выспявалі салодкія яблыкі, а не горкія дзічкі.

Але гэта толькі частка. Цяпер час звярнуцца да тэмы, якую я вельмі доўга адкладаў. Дагэтуль у кнізе амаль нічога не гаварылася аб тым, як натуральная любоў

---

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

становіцца суперніцаю любові да Бога. Цяпер жа гэтае пытанне ніяк нельга абмінуць. Ёсць дзве прычыны, якія змушалі мяне адкласці гэтую размову.

На адну з іх я намякаў: гэта не тое пытанне, з якога варта пачынаць большасці людзей. Рэдка хто з нашых сучаснікаў сутыкаецца з падобнай сітуацыяй. Для большасці цяпер эгаізм супрацьстаіць любові да бліжняга, а не любоў да бліжняга — любові да Бога. Небяспечна ўскладаць на чалавека абавязак выйсці па-за межы зямной любові, калі ён, папраўдзе, яшчэ і да яе не дабраўся. Зразумела, даволі проста апраўдваць сваю нелюбоў да бліжніх тым, што гэтак мы імкнемся больш палюбіць Бога, аднак жа прычына бывае зусім у іншым. Цалкам магчыма, што мы толькі «блытаем прыродную загану з узрастаннем у нас Божай ласкі». Многім людзям зусім не цяжка ненавідзець жонку або маці. Марыяк[2] цудоўна апісвае здзіўленне і збянтэжанасць Апосталаў, калі яны пачулі гэты незразумелы загад Настаўніка, адзін толькі Юда не здзівіўся і прыняў настаўленне з лёгкасцю.

Але ёсць іншая прычына, па якой дагэтуль было занадта рана закранаць у кнізе тэму гэтага супрацьстаяння. Рэч у тым, што любыя прэтэнзіі на боскасць, уласцівыя натуральнай любові, і так вельмі лёгка абвергнуць. Ніводная натуральная любоў не можа заняць месца Бога проста таму, што без Ягонай дапамогі няздатная нават заставацца сабою і выконваць уласныя абяцанні. Які сэнс даказваць, што нейкі тутэйшы дробны князёк — не імператар, калі без дапамогі імператара яму і паўгода не ўтрымаць свой пасад і не захаваць мір у сваёй маленькай правінцыі? Дзеля ўласнай карысці натуральная любоў павінна згадзіцца на другое месца, бо гэта дае ёй магчымасць заставацца сабою. Гэтае ярмо — яе сапраўдная свабода, яна «становіцца вышэй, калі схіляецца». Бо калі ў чалавечым сэрцы валадарыць Бог, Яму часам даводзіцца выкараняць з яго некаторыя прыроджаныя аўтарытэты, але часцей Ён проста падпарадкоўвае іх сваёй волі, упершыню даючы цвёрдую аснову. Эмерсан[3] сказаў: «Калі сыходзяць паўбогі, тады з'яўляюцца богі». Гэта даволі сумніўнае сцвярджэнне. Я б сказаў, што «калі прыходзіць Бог, толькі тады паўбогі могуць застацца». Пакінутыя без нагляду, яны знікаюць або становяцца дэманамі. Толькі дзеля Ягонага імя яны могуць годна і бяспечна «ўзнімаць свой маленькі трызубец». Бунтаўнічы дэвіз «Усё дзеля любові» насамрэч непазбежна забівае любоў (толькі дата смерці пакуль не вызначаная).

Але размову аб супрацьстаянні, якую я з названых прычынаў так доўга адкладаў, больш адкладаць нельга. У ранейшыя часы, да XIX ст., гэтае пытанне заняло б вялікую частку кнігі на падобную тэматыку. Людзям віктарыянскіх часоў было неабходна нагадваць, што адной толькі любові недастаткова, старажытныя тэолагі заўжды гучна выказваліся наконт таго, што натуральнай любові надаецца занадта вялікае значэнне. Яны больш баяліся любові, якая ўзносіць іншага чалавека на п'едэстал, чым той небяспекі, што мы будзем любіць бліжніх замала. Кожную асобу — жонку, маці, дзіця, сябра — яны бачылі як магчымага суперніка Бога. Пра гэта гаворыць нам і сам Бог (гл. Лк 14, 26).

Адзін аргумент, які засцерагае нас ад празмернай любові да бліжняга, я мушу адкінуць з самага пачатку. Я раблю гэта з трымценнем, бо ён належыць вялікаму святому і мысляру, якому я бязмерна ўдзячны і вельмі многім абавязаны.

Святы Аўгустын у сваёй «Споведзі» (раздзел XV, 10) так апісвае спустошанасць і адзіноту, у якія ўкінула яго смерць сябра Небрыдыя, што я і цяпер не магу без слёз чытаць гэтыя словы. І там ён робіць выснову: вось што здараецца з тым, хто аддае сваё сэрца камусьці, апроч Бога. Людзі пакідаюць нас. Не дайце, каб вашае шчасце залежала ад таго, што можна страціць. Каб любоў была благаслаўленнем, а не горам, любіць можна толькі Таго Адзінага, Хто ніколі нас не пакіне.

Гэта сапраўды гучыць вельмі разумна. Не варта везці маёмасць у дзіравым чоўне. Не ўкладайце шмат высілкаў і грошай у дом, з якога вас могуць выселіць. Я звышпрактычны і абачлівы чалавек, які заўжды выступае за бяспеку, і маё сэрца схільнае ўхваляць падобныя аргументы. З усіх перасцярогаў супраць любові найбліжэйшая маёй натуры гучыць так: «Сцеражыся! Гэта можа прынесці табе пакуты».

Гэта блізка маёй натуры і тэмпераменту. Але сумленне не дазваляе мне згадзіцца. Ідучы за гэтым заклікам, я адчуваю, што аддаліўся ад Хрыста на тысячу кіламетраў. Калі наогул магчыма быць у нечым цалкам упэўненым, то я, прынамсі, дакладна ўпэўнены ў тым, што Хрыстус ніколі не прапаведаваў такую блізкую мне па натуры ідэю зберагаць сябе і свае высілкі і абмяжоўваць уласную адказнасць, не беручы на сябе зашмат. Думаю, менавіта гэтая мая схільнасць Яму найбольш недаспадобы. Ды і хто

мог бы пажадаць палюбіць Бога, рацыянальна разважыўшы, што так нібыта будзе больш бяспечна? Як наогул можна палічыць гэта падставаю для любові? Ці сталі б вы выбіраць па гэтым крытэрыі жонку або сябра, ці нават сабаку? Каб рабіць падобныя разлікі, чалавеку трэба наогул знаходзіцца па-за межамі ўсялякай любові. Нават бунтаўнічы Эрас, які прымушае нас аддаць перавагу каханай, а не шчасцю, больш падобны да Бога-Любові, чым гэта.

Мне здаецца, узгаданы ўрывак са «Споведзі» прадыктавала святому Аўгустыну не яго хрысціянства, а перажытак ганарлівай язычніцкай філасофіі, на чыіх прынцыпах ён выхоўваўся. Падобнае мысленне бліжэй да «апатыі» стоікаў і неаплатанічнага містыцызму, чым да хрысціянскай міласэрнай любові. Мы наследуем Таго, Хто плакаў над Ерузалемам і на магіле Лазара і, любячы ўсіх, меў асабліва «ўмілаванага» вучня. Святы Павел для нас большы аўтарытэт, чым святы Аўгустын, і Павел ніводным знакам не сведчыць, што ён бы не пакутаваў, як усе звычайныя людзі, калі б памёр Эпафрадыт, і ніяк не паказвае, што пачуццё гэтага смутку заганнае (гл. Флп 2, 27).

Нават калі б імкненне застрахавацца сябе ад разбітага сэрца сапраўды было праявай найвышэйшай мудрасці, ці была гэтая мудрасць у Бога? Відавочна, не. Урэшце, сам Хрыстус усклікнуў: «Чаму Ты Мяне пакінуў?»

У радках, напісаных святым Аўгустынам, няма выйсця з падобнай сітуацыі, і ніхто іншы не зможа нам яго прапанаваць. Любоў — небяспечная інвестыцыя. Любіць — азначае, што ты можаш пацярпець ад любові. Палюбі нешта, і тваё сэрца будзе паранена, а магчыма, і разбіта. Каб захаваць яго ў поўнай бяспецы, не аддавай яго нікому, ні чалавеку, ні жывёле. Рупліва агарні яго з усіх бакоў рознымі захапленнямі, прыемнасцямі, дадай крыху раскошы, не дапускай, каб сэрца да нечага прывязалася, надзейна замкні яго ў куфэрачку ўласнага эгаізму — і ён стане для твайго сэрца труною. Там, у бяспецы, у цямрэчы, нерухомае і пазбаўленае паветра, тваё сэрца зменіцца. Яно не разаб'ецца, а закасцянее так, што яго проста немагчыма стане разбіць, крануць і нават збавіць. Адзіная альтэрнатыва цярпенню, прынамсі рызыцы цярпення, — гэта вечная пагібель. Адзінае месца, апроч Неба, дзе можна схавацца ад усялякай небяспекі і трывогаў любові — гэта пекла.

Я лічу, што нават самая незаконная і неўмеркаваная любоў не так моцна супярэчыць Божай волі, як свядомая абыякавасць і самаізаляцыя. Мы зноў імкнемся закапаць дадзены нам талент, і з той жа самай прычыны: «Гаспадар, я ведаў, што ты чалавек жорсткі» (Мц 25, 24). Хрыстус не для таго навучаў і пакутаваў, каб мы здзьмувалі ўсе парушынкі з уласнага шчасця, нават у тым, што датычыць натуральнай любові. Калі чалавек не можа пазбыцца разліку ў адносінах з тымі, каго любіць тут, на зямлі, бачачы іх побач з сабою, ён наўрад ці бескарысліва палюбіць Бога, якога не бачыць. Мы мусім набліжацца да Бога, не імкнучыся пазбегнуць пакутаў любові, а прымаючы іх і прыносячы Яму, адкінуўшы шчыт самаабароны. Калі нашыя сэрцы павінны разбіцца, калі Бог вырашыць, што любоў павінна разбіць іх, няхай так станецца.

Несумненна, што кожная натуральная любоў можа стаць неўмеркаванаю. *Неўмеркаваная* не азначае «неабачлівая» або «занадта вялікая», гэтае слова наогул не вызначае колькасці. Напэўна, немагчыма «залішне» любіць чалавека. Можна любіць некага залішне *ў параўнанні* з нашаю любоўю да Бога, але гэтая неўмеркаванасць азначае, што мы замала любім Бога, а не зашмат любім чалавека. Але варта ўдакладніць, што маецца на ўвазе, каб не збянтэжыць тых, хто ідзе па правільным шляху, але можа ўстрывожыцца ад таго, што не адчувае да Бога такой цеплыні і пяшчоты, як да каханай асобы. На маю думку, варта, каб мы імкнуліся да гэтага, і трэба маліцца аб дары палкай любові да Бога. Але ў межах нашага хрысціянскага паклікання адказ на пытанне, каго мы любім больш, Бога ці зямных каханых, не вызначаецца тым, якое з двух пачуццяў мацнейшае. Пытанне ў тым, якое з іх, калі ў выключных абставінах нам давядзецца рабіць выбар, мы выберам, паставім на першае месца, якому з іх мы будзем служыць? Якога з іх, у рэшце рэшт, паслухаецца нашая воля?

Як часта здараецца, словы нашага Пана і больш няўмольныя, і больш літасцівыя, чым развагі тэолагаў. Хрыстус нічога не гаворыць аб тым, што мы мусім абараняцца ад зямной любові са страху, што будзе балюча; Ягоныя словы — як свіст пугі: усялякую любоў трэба растаптаць, як толькі яна пачне замінаць нам ісці за Ім. «Калі хто прыходзіць да Мяне і не зненавідзеў бацькі свайго, маці і жонкі, дзяцей і братоў, сясцёр і нават жыцця свайго, той не можа быць Маім вучнем» (Лк 14, 26).

Як жа нам разумець гэтае «*зне-*

*навідзеў*»? Немагчыма, каб сама Любоў загадвала нам рабіць тое, што мы разумеем пад нянавісцю: песціць свае крыўды, цешыцца чужым няшчасцем, атрымліваць асалоду, прычыняючы некаму боль; гэта супярэчнасць паняццяў. Я лічу, што наш Пан меў на ўвазе тую нянавісць, якой «*зненавідзеў*» святога Пятра, сказаўшы: «Адыдзі ад Мяне» (Мц 16, 23). Гэтае «*зненавідзець*» азначае адкінуць, не паддавацца, не саступаць каханым, як бы соладка і ўмольна ні гучалі іх словы, калі іх вуснамі прамаўляе д'ябал. Езус сказаў, што чалавек, які спрабуе служыць двум гаспадарам, аднаго будзе ненавідзець, а другога — любіць. Вядома, тут ідзе гаворка не пра пачуцці прыязнасці або непрыязнасці. Гэта азначае, што ён будзе заставацца верным аднаму з гаспадароў, толькі аднаму з двух будзе падпарадкоўвацца і служыць. Паразважайце яшчэ над гэтымі словамі: «Я палюбіў Якуба, а Эзава меў у нянавісці» (пар. Мал 1, 2–3). Як жа праяўляецца нянавісць Божая да Эзава? Не так, як можна было б падумаць. Няма прычынаў думаць, што Эзаў дрэнна скончыў і душа яго была загублена, нідзе ў Старым Запавеце пра гэта не гаворыцца. Наадварот, усё сведчыць пра тое, што ў звычайным разуменні ягонае зямное жыццё было больш шчаслівым, чым жыццё Якуба. Менавіта на Якубаву долю выпалі ўсе расчараванні, няшчасці, жахі, смуткі і страты. Але ў яго было тое, чаго не было ў Эзава: ён стаў патрыярхам. Якуб перадаў сваім нашчадкам Традыцыю, праз яго Бог клікаў і благаслаўляў, ён стаў продкам Збаўцы. Любоў Божая да Якуба азначае, што яму было вызначана найвышэйшае (хоць і пакутнае) пакліканне; «*нянавісць*» да Эзава азначае, што ён быў адкінуты Богам. Бог адвярнуўся ад яго, бо ён не здолеў «*узяць вяршыню*», аказаўся няздатным для выканання задання. Таму ў крайнім выпадку мы павінны адкінуць сваіх самых блізкіх і адмовіць самым каханым, калі яны становяцца паміж намі і нашаю паслухмянасцю Богу. Яны могуць палічыць гэта нянавісцю, але мы мусім не паддавацца шкадаванню, застаючыся сляпымі да іх слёз і глухімі да іх мольбаў.

Не буду называць гэты абавязак цяжкім: некаторым гэта вельмі лёгка, некаторым невыносна. Але, безумоўна, кожнаму няпроста зразумець, калі надышоў час для падобнай «*нянавісці*». Нам перашкаджаюць нашы характары. Мяккія і чуллівыя людзі — мужы пад уладаю жонак; жонкі, якія ўсё церпяць ад мужоў; бацькі, якія безразважліва любяць дзяцей, і дзеці, якія ва ўсім слухаюцца бацькоў, да канца не здольныя паверыць, што гэты час надышоў. Настойлівыя і самаўпэўненыя асобы, якія не любяць ні з кім цырымоніцца, вельмі хутка прымуць рашэнне. Менавіта таму неабходна так выхаваць сябе і расставіць па парадку свае любові, каб час ненавідзець ніколі не надышоў.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «The four loves», C. S. Lewis, 1958.*

*Працяг будзе.*

---

[1] Уільям Морыс (William Morris, 1834–1896) — брытанскі паэт і пісьменнік, выдавец, мастак. Выбітны прадстаўнік цячэння прэрафаэлітаў.

[2] Франсуа Марыяк (François Mauriac, 1885–1970) — французскі пісьменнік; лаўрэат Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры (1952); узнагароджаны Вялікім крыжам ордэна Ганаровага легіёна (1958). Адзін з найбуйнейшых каталіцкіх пісьменнікаў XX стагодздзя.

[3] Ральф Уолда Эмерсан (Ralph Waldo Emerson, 1803–1882) — амерыканскі паэт, эсэіст і мысляр, заснавальнік філасофскага цячэння трансцэндэнталізму.

Андрэй Шпунт

# КНЯГІНЯ МАГДАЛЕНА РАДЗІВІЛ — ВЯЛІКАЯ БЕЛАРУСКАЯ МЕЦЭНАТКА


Магдалена Радзівіл
у маладосці.

17 лютага 2018 года прах княгіні Магдалены Радзівіл нарэшце атрымаў вечны спакой у касцёле Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха) на Залатой Горцы ў Мінску. Святую Імшу ў гэты дзень узначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі. Пачэсныя астанкі не сустракала ганаровая варта, іх не везлі на лафеце праз увесь горад — замест гэтага была шматмесячная бюракратычная валакіта паміж Касцёлам і дзяржаваю адносна месца апошняга спачыну княгіні. Напэўна, значэнне гэтай жанчыны, якая трымала на сваіх слабых плячах наша нацыянальнае адраджэнне, кульмінацыяй якога стала абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі, будзе ўсвядомлена і адзначана ў поўнай меры толькі тады, калі краіна ўпрыгожыцца ў свае нацыянальныя колеры.

Над жыццяпісам княгіні працавалі такія асобы як а. Аляксандр Надсан, Уладзімір Арлоў, Віктар Хурсік ды іншыя аўтары, але шматлікія публікацыі не робяць яе імя дастаткова вядомым: не кожны знаходзіць у сабе сілы і жаданне даваць спажытак для розуму, па́даючы ахвярай інфармацыйных войнаў, мас-культуры і ліберальных каштоўнасцяў. Тым не менш, на сённяшні дзень толькі друкаванае слова, як і ў часы нашага адраджэння, усё яшчэ застаецца асноўным сродкам падтрымання нацыянальнай памяці. Дык няхай яно будзе той *gutta cavat lapidem*, што ўрэшце прывядзе да поўнага выкарыстання ўсіх магчымасцяў для таго, каб Беларусь стала той Беларуссю, аб якой марыла княгіня Магдалена Радзівіл.

Яна нарадзілася 8 ліпеня 1861 года ў сям'і Яна Казіміра Кезгайлы-Завішы герба «Лебедзь» і Марыі з Квілецкіх. Бацька забяспечыў дачцэ выдатнае хатняе выхаванне, а сам займаўся археалогіяй Беларусі і стаў пачынальнікам вывучэння эпохі каменнага веку на землях нашай краіны.

Ва ўзросце 20-ці гадоў Магдалена ўзяла шлюб з 49-гадовым удаўцом, уладальнікам мноства маёнткаў у Польшчы і Беларусі, конезаводчыкам, калекцыянерам антыкварыяту і грамадскім дзеячам, графам Людвікам Юзафам Адамам Красінскім. У гэтым шлюбе ў 1883 г. нарадзілася Марыя Людвіка — у будучыні княгіня Чартарыйская.

Пасля смерці бацькі ў 1887 г. і мужа ў 1895 г. да Магдалены з Завішаў Красінскай перайшла частка вялікай спадчыны — уладанні ў Вялікай Польшчы, нерухомасць у Варшаве і ў Беларусі, маёнткі Кухцічы (цяпер пас. Першамайск Уздзенскага раёна) і Жорнаўка ў Ігуменскім павеце.

Добрая каталічка, сціплая ў асабістых патрэбах, яна занялася шырокай філантрапічнай

**Андрэй ШПУНТ** — гісторык, архівіст. Нарадзіўся ў 1969 годзе. Скончыў БДУ (1997). У 1989–1994 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі (аддзел старажытнабеларускага мастацтва). У 1996–1998 гг. — супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (генеалагічныя даследаванні), у 1998–2000 гг. — вядучы спецыяліст Дзяржкамархіва (геральдыка і генеалогія), аўтар зацверджаных праектаў гербаў Маладзечна, Заслаўя, Крупак, Акцябрскага (Рудабелка), Белаазёрска, Івянца. Аўтар шэрагу навуковых і папулярных публікацый.



Герб «Лебедзь».

дзейнасцю, у прыватнасці (цяжка пералічыць усе яе дабрадзействы) фундацыяй касцёла на вул. Манюшкі ў Варшаве, шпіталя і дзіцячага прытулку ў Менску.

Яе дабрачынная дзейнасць прыпала якраз на новы ўздым беларускага нацыянальнага адраджэння, сацыяльнай базай якога было сялянства і блізкая да яго шляхта, што ўзначаліла гэты рух. (Не г.зв. пралетарыят, а менавіта сялянства з яго традыцыяналізмам было той стыхіяй, адкуль чэрпалі сілы еўрапейскія нацыянальныя рухі.) У спадчыну ад бацькі Магдалене Радзівіл дасталіся не толькі матэрыяльныя багацці, але багацці духоўныя, зацікаўленасць культурай і гісторыяй беларускага народа, што знайшло сваё ўвасабленне ў выкананні чацвёртай Божай запаведзі, бо шанаванне бацькоў неадрыўнае ад шанавання Бацькаўшчыны. Моцны імпульс да гэтага быў атрыманы 30 красавіка 1906 года, калі Магдалена з Завішаў Красінская ўзяла другі шлюб з 26-гадовым драгунскім ротмістрам Рафалам Мікалаем Вацлавам Радзівілам, унукам XII ардыната нясвіжскага і алыцкага Фрыдрыха Вільгельма, сынам маёра прускіх войскаў і расійскага камер-юнкера Вільгельма Адама і Кацярыны з Жавускіх. На ацалелых фота, хаця і не выдатнай якасці, можна без цяжкасцяў разгледзець, што Рафал Мікалай Вацлаў быў прыгожым чалавекам. Гэта была прыгажосць тых афіцэраў, якія пад барабанны дробат, пад шалясценне чорных сцягоў з выяваю мёртвай галавы ва ўвесь рост ідуць на кулямёты, як у фільме «Чапаеў». За сваё кароткае жыццё ён паспеў паваяваць у англа-бурскай, руска-японскай і балканскіх войнах. Зацікаўленасць Рафала Мікалая Вацлава беларускім фальклорам сфармавала яго рэпутацыю сялянафіла і русафіла — ярлыкоў, што былі прыклееныя і да яго жонкі. Байкот польскага грамадства, якое на абшарах былога Вялікага Княства Літоўскага лічыла ўсіх, хто не паляк, рускімі, толькі паспрыяў гучнай дэкларацыі княгіні Радзівіл аб тым, што яна «беларуска-літоўскага паходжання, таксама, як мой муж, а полькай цалкам сябе не лічу». Гэтыя словы былі надрукаваныя ў 1912 г. у газеце «Минское русское слово» ў адказ на абвінавачванні з расійскага боку ў паланізатарскай дзейнасці, убачанай толькі ў тым, што княгіня прыкладала высілкі, каб знайсці ксяндза ў маёнтак Лапічы Мінскай губерні. Дарэчы, уладанні гэтай пары Радзівілаў (Кухцічы, Узда, Каменка) вызначаліся выдатнай гаспадаркай, вядзенню якой не перашкаджала беларускае справаводства, школы і іншыя справы, скіраваныя на выхаванне нашага народа, каб быў сапраўдным народам. Дзейнасць сужэнцаў не абмяжоўвалася толькі гэтым, а распаўсюджвалася на нацыянальныя арганізацыі розных кірункаў, толькі б рабілі дабро для агульнай справы на рэлігійнай, культурнай і палітычнай нівах. Дзякуючы таксама намаганням княгіні Магдалены Радзівіл сталі шырока вядомымі імёны нашых класікаў — Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа. У знак удзячнасці на выданнях, якія выйшлі на грошы княгіні, змяшчалася выява эмблемы з лебедзем, што



Рафал Мікалай Вацлаў Радзівіл.

нагадвала пра яе радавы герб. На яе сродкі выдаваліся кнігі і газеты: дастаткова прыгадаць першы беларускі малітоўнік «Бог з намі», кнігі выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», каталіцкую газету «Беларус». У яе доме ў Менску і ў палацы ў Кухцічах збіраліся беларускія палітыкі Раман Скірмунт, Вацлаў Іваноўскі, Аляксандр Уласаў, браты Іван і Антон Луцкевічы.

Выбух Першай сусветнай вайны адразу прынёс Магдалене Радзівіл цяжкую страту. Наш зямляк з Друскенікаў, дэпутат Дзяржаўнага Савета Расійскай імперыі ад Віленскай губерні Іпаліт Корвін-Мілеўскі ва ўспамінах пісаў: «Ахвяры множыліся; загінуў не забіты, але закатаваны на вуліцы малады кавалергард Галынскі, за што расійскі палкоўнік загадаў расстраляць 100 цывільных бошаў. Загінуў герой японскай вайны, малады, вельмі сімпатычны, хаця




Магдалена Радзівіл.
Фотаздымак 1940-х гадоў.

па-сапраўднаму абмаскалены князь Мікалай Радзівіл». Гэта адбылося 17 лістапада 1914 года ва Усходняй Прусіі пад Малвішкенам. Булак-Балаховіч, які ваяваў тады добраахвотнікам у 2-м Курляндскім уланскім палку, у размове з Корвінам-Мілеўскім у адказ на пытанне, «як там на фронце?», паведаміў, што ў рускіх два куляметы на батальён, а ў немцаў чатыры на роту.

Цела князя было прывезена і пахавана ў Кухцічах, абмытае слязьмі жонкі і дзеячаў нацыянальнага руху. Алаіза Пашкевіч усклала на яго труну хвойны вянок з вялікай стужкай нацыянальных колераў, а газета «Беларус» адгукнулася некалькімі палосамі з партрэтам святой памяці нябожчыка...

Вайна паскорыла гібель Расійскай імперыі. Пачатковая спроба бальшавікоў замацавацца на яе абломках на нашых землях скончылася ўцёкамі перад наступам германскіх войскаў, і вось тады 25 сакавіка 1918 года ў Менску была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Знаходзячыся пад аховаю, а хутчэй пад акупацыяй немцаў, бо ў Берліне Беларусь разглядалі не болей як заклад пад кантрыбуцыю, што абавязалася выплаціць РСФСР, маладая дзяржава не здолела супрацьстаяць бальшавікам пасля сыходу немцаў, пацярпеўшых летам няўдачу на Заходнім фронце, а затым і ўвогуле ў лістападзе страціўшых сваю імперыю.

Знішчэнне БНР як дзяржавы не азначала духоўнай паразы — яна засталася прыгожым, узвышаным сімвалам. Больш за тое, менавіта ў сферы культуры і асветы за некалькі месяцаў існавання Рэспублікі былі дасягнуты значныя поспехі, і не трэба было ўсялякіх там «мяккіх» ды іншых незразумелых «беларусізацый». Гэта былі тыя ідэалы, гарачай прыхільніцай якіх заўсёды выступала княгіня Магдалена Радзівіл і яе муж. Эдвард Вайніловіч піша ва ўспамінах, што яшчэ ў 1917 годзе, адразу пасля падзення манархіі, галоўнай думкай беларускага нацыянальнага руху было абудзіць нацыянальную свядомасць беларусаў, каб адасобіць, адлучыць іх ад Масквы і выбавіць спакойны, здаровы ў сваіх паняццях беларускі народ ад анархіі, што ўсё глыбей пачынала пускаць карані ў Расіі. «На тых сходах, — адзначае Вайніловіч, — адным з найбольш шавіністычных членаў была кн. Магдалена Радзівіл, <...> уладальніца вялікіх абшараў на Міншчыне, што ў маёнтках Кухцічы, Жорнаўка і г.д. заснавала нацыянальныя беларускія школкі і сваімі фундацыямі шчодра падтрымлівала беларускі рух». Зразумела, што пад «шавінізмам», ведаючы, хто такая княгіня Радзівіл, разумеўся той здаровы беларускі нацыяналізм, патрыятызм, які так патрэбны сёння нашаму грамадству.



Вялікі крыж Гедыміна.

Пасля захопу Менска бальшавікамі княгіня Магдалена Радзівіл ад'ехала ў Варшаву, дзе для выратавання Бацькаўшчыны безвынікова спрабавала знайсці падтрымку польскай арыстакратыі, меўшай уладанні на нашых землях, у ідэі адраджэння дзяржаўнай Уніі Польшчы і Беларусі. Не дзіўна, што яна пацярпела паразу, калі яе пацярпеў нават Пілсудскі са сваімі федэраліцкімі памкненнямі, саступіўшы польскім «правым» і сапраўдным шавіністам.

Княгіня Магдалена Радзівіл была вялікаю дабрадзейкаю для Грэка-каталіцкай Царквы ў Беларусі. У той час, калі Касцёл яшчэ не стаў апірышчам беларускасці, духоўным гарантам яе існавання, якім ёсць сёння, неабходнасць Уніі ўсведамлялася ў тым ліку як спроба мець сваю нацыянальную Царкву ў супрацьвагу паланізацыі і русіфікацыі. Вялікае



Эмблема «Лебедзь».




Надмагільная пліта ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха) у Мінску. Фота Віктара Ведзеня.

што праяўлялася, напрыклад, у адмове прызнання пашпарта Грамадзянскай адміністрацыяй Усходніх земляў падчас польскай акупацыі ў 1919 г., калі княгіня спрабавала вярнуцца ў Менск, ці напады прэсы ў сувязі з продажам нерухомасці ў Варшаве габрэйскай абшчыне, прымусілі яе пакінуць Польшчу. У 1922 г. яна пераехала ў Коўна. Урад Літоўскай Рэспублікі, прыгадаўшы заслугі княгіні Радзівіл (а яны былі немалыя, напрыклад, пабудова ў 1912 г. у Лондане касцёла, дапамога летувіскай гімназіі ў Марыямпалі і г.д.) узнагародзіў яе вялікім крыжам Гедыміна. Потым былі Кёнігсберг, Бадэсберг на Рэйне і, нарэшце, у 1932 г., Фрыбург у Швейцарыі. Ад былога багацця, трапіўшага ў бальшавісцкія лапы, засталіся адны парэшткі, але нават і іх княгіня ахвяравала на беларускія арганізацыі ў Польшчы і фундацыю ў Варшаве дзвюх пачатковых габрэйскіх школаў, што не засталося не ахвяраванне Магдалены Радзівіл — брыльянтавае калье (прададзенае пазней па самым нізкім кошце, а тады гэта была вельмі вялікая сума — 15 тыс. даляраў) і пярсцёнак, перададзеныя ў рукі групкі беларускіх ксяндзоў па волі фундатаркі, павінна было забяспечыць стварэнне ў Рыме ўніяцкага беларускага калегіума. Справа сутыкнулася з цяжкасцямі, што зафіксавана ў перапісцы княгіні з рознымі асобамі (хто зацікаўлены, раім прачытаць кнігу а. Аляксандра Надсана «Княгіня Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі» (Менск, 2006) і артыкул кс. Вячаслава Пялінка MIC «Кальe Магдалены Радзівіл» («Наша Ніва», № 11, 12 ад 19.03.2001 г.), у якіх сутыкаюцца розныя погляды на гэтую гісторыю).



Біскуп Юрый Касабуцкі і кс. Юрый Санько на цырымоніі перазахавання праху Магдалены Радзівіл у Мінску. Фота Віктара Ведзеня.

Неразуменне і непрыхільнае стаўленне польскага грамадства,



Эрых фон Фалькенгайн.

заўважаным у польскай прэсе, якая ўпарта называла Магдалену Радзівіл «польскай княгіняй», «фундатаркай габрэйскіх школ».

Вялікая беларуская мецэнатка скончыла свой зямны шлях 6 студзеня 1945 года ў Фрыбургу, у кляштары дамініканак.

У мностве публікацый пра Магдалену Радзівіл створаны ўзвышаны вобраз, хоць і пазбаўлены многіх чалавечых рысаў. Але аднойчы я натрапіў на надрукаваныя ў 1947 г. у Мюнхене ўспаміны дэпутата І Усебеларускага кангрэса і сябра Рады БНР, у 1917/18 гг. упраўляючага канцылярыі кухціцкіх маёнткаў Юстына Мурашкі. Напісаныя простай, яснай моваю, яны дадаюць якраз тое, чаго так не хапала, каб сфармаваўся партрэт жывога чалавека. Дастаткова прыгадаць некаторыя з гэтых рысаў.

Княгіня была ў самай гушчы свайго народа, але вытрымлівала пэўную дыстанцыю, не задзіраючы нос і не даючы садзіцца сабе на шыю, хоць жадаючых зрабіць гэта, ведаючых пра яе дабрыню і шчодрасць, хапала. Пры тым, што гаспадарка Кухцічаў была недасяжным узорам для бээсэсэраўскіх калгасаў, княгіня, між іншым, казала Мурашку, «што ўпраўляючы зарабіў на абгародцы саду 20 тыс. руб. і набыў сабе фальварак». Далей Юстын Мурашка піша:

«Шматлікія наведвальнікі маглі назіраць княгіню, якая заўсёды сядзела за карункамі.

<…> Княгіня адчувала сябе бадзёра, трымалася малажава і пры кожнай нагодзе памяншала ўзрост на 10 год.

<…> Княгіня шмат курыла і часта гасіла папяросу аб падэшву свайго камаша ў чыёй бы ні было прысутнасці. Мела залацістага колеру, падобных да таксаў, лахматых, з вылезшымі на лоб вачыма сабачак, якіх вельмі любіла».

«Аднойчы яна прымала камандуючага 10-й арміяй генерала Фалькенгайна[1] са штабам. <…> Немцам яна гаварыла ў вочы, што яны вайну прайграюць. Забараняла ім паляваць у сваіх лясах, забараніла даваць быдла на рэквізіцыі, а калі аднойчы прыехаў ад'ютант Фалькенгайна прасіць дазволу на аблаву ў яе лясах, княгіня адмовіла і сказала, што калі немцы будуць паляваць, яна напіша скаргу іх кайзеру Вільгельму. Смяяліся, што княгіня аб'явіла вайну нямецкай 10-й арміі, якую яна страшэнна не любіла за рабункі.

<…> Працаўнікі княгіні займалі свае становішчы з дзедапрадзеда і часта-густа амаль нічога не рабілі, а атрымоўвалі ад яе ўсё за тое, што іх дзяды і бацькі ў яе працавалі. Булынка-сталяр працаваў у яе ў палацы 40 гадоў. За гэта вучыла яго дзяцей за свой кошт»...

За ўсімі дабрадзействамі гэтай незвычайнай асобы засталося незаўважаным, на наш погляд, адно з галоўных: улічваючы ўнікальнасць, значнасць роду Радзівілаў у сусветным маштабе, гэтым галоўным дабрадзействам з'яўляецца тое, што менавіта княгіня Магдалена Радзівіл словы «Беларусь», «беларускі», паставіла побач з гэтым знакамітым прозвішчам.

«Калі будзе свая дзяржава, — гаварыла княгіня, — беларусам ад мяне на памятку я маю ўдваццаць разоў каштоўнейшыя падарункі, як усё гэта разам узятае, і я ім гэта аддам».

Не адбылося…

**ЛІТАРАТУРА**


1. Асветніца і мецэнатка: Да 150-годдзя Магдалены Радзівіл з Завішаў: матэрыялы круглага стала (Мінск, 15 снежня 2011 года) / уклад., прадм., нав. рэд. І. Багдановіч. — Мінск: «Кнігазбор», 2013.
2. Каханоўскі Г. Завіша Ян Казімір//ЭГБ. Т. 3. — Мінск, 1996. — С. 393.
3. Конан У. Адраджэнне//ЭГБ. Т. 1. — Мінск, 1993. — С. 58–61.
4. Ластоўскі В. Выбраныя творы. — Мінск, 1997. — С. 196.
5. Надсан А. Княгіня Радзівіл і справа адраджэння Уніі ў Беларусі. — Менск, 2006.
6. Пялінак В. Калье Магдалены Радзівіл//Наша Ніва. — 2001, № 11.
7. Сідарэвіч А. Беларуская Народная Рэспубліка//ЭГБ. Т. 1. — Мінск, 1993. — С. 384–390.
8. Kurjer Warszawski. — 1912, № 329.
9. Łatyszonek O., Zięba A. Radziwiłłowa z Zawiszów 1. v. Krasińska Maria Magdalena //PSB. T. XXX/3. Z. 126. — Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk–Lódź, 1987. — S. 398–399.
10. Milewski-Korwin H. Siedemdziesiąt lat wspomnień. — Poznań, 1930. — S. 374.
11. Muraška J. Kniahinia Mahdalena Radziwił. Uspaminy//Studencki Klič. — 1947, № 1/15.
12. Posiew. — 1935, № 35.
13. Urbański A. Memento kresowe. — Warszawa, 1929. — S. 94–96.
14. Uruski S. Krasiński h. Ślepowron//Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. VIII. — Warszawa, 1911. — S. 25–32.
15. Uruski S. Radziwiłł h. Trąby odm. Książęta//Rodzina. Herbarz szlachty polskiej. T. XV. — Warszawa, 1931. — S. 143–151.
16. Woyniłłowicz E. Wspomnienia 1874–1928. T. I. — Wilnia, 1927. — S. 212, 247, 252.


[1] Эрых фон Фалькенгайн (1861–1922) — генерал ад інфантэрыі, камандуючы 10-й арміяй (з 3 сакавіка 1918 г. у Беларусі). З разуменнем, наколькі гэта было магчыма ў тых абставінах, ставіўся да беларускіх праблемаў. Фактычна прызнаў БНР і яе органы, рыхтуючы іх да прыняцця рэальнай улады ў выпадку перамогі Германіі.



Святы Мікалай.

Ігар Сурмачэўскі

# Палескі іканастас

Наступная ікона ў палескім іканастасе — святы Георгій, святы Юр'я, святы Ягор вясновы (23 красавіка), адзін са знакавых святых Палесся. Ен, як і святы Мікола, мае на год два асноўныя святы. Гэта апякун воінаў, заступнік жывёлы і ўсёй гаспадаркі. Вялікая колькасць абразоў з выяваю святога, магчыма, звязана з тым, што асноўныя іконы ў чырвоны кут купляў гаспадар дома, які выбіраў у першую чаргу свайго апекуна і абаронцу для хатняй гаспадаркі. З вясновага Юр'я па народным календары пачыналася сапраўдная цёплая вясна, таму гэтага святога называлі Юр'я-ключнік — ён «адмыкаў» дзверы для лета. Вясновы Юр'я быў першым днём выпасу хатняй жывёлы, якую выганялі з хлява асвячонымі дубчыкамі-вербамі, пакінутымі з Вербніцы. Вясновая раса на святога Юр'я лічылася цудадзейнаю («ад сямі хваробаў»), і асабліва лекаваю для вачэй. Святы шанаваўся таксама як уладар ваўкоў, галоўных ворагаў хатняй скаціны на выпасе, таму яму маліліся, каб ён «замкнуў» пашчы ваўкам.

За Юр'ем вясновым у народным іканастасе (22 траўня) ідзе святы Мікола вясновы, Мікола вясенні, Мікольшчына. Гэта адзін з самых ушанаваных святых на Палессі, асабліва выява святога арцыбіскупа Мірлікій-

*Працяг. Пачатак у № 1 за 2018 г.*

**Ігар Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр'ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад моладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.





Першаапосталы Пётр і Павел.



Святы Ян воін.

скага Міколы Цудатворца — заступніка ўсіх простых людзей. «Да Міколы няма дабра ніколі!» — такую прымаўку запісаў у XIX ст. на Палессі Адам Кіркор. На вясновага Міколу заканчваліся асноўныя пасяўныя работы, па народным календары лічылася, што пасля гэтага дня ўжо не бывае замаразкаў. Паколькі Мікола вясновы заступнік конюхаў, у гэты дзень паўсюдна заказвалі службы, каб святы Цудатворца ўратаваў коней ад хваробаў, ваўкоў і канакрадаў. У многіх месцах гомельскага Палесся ў гэты дзень адзначалі Мікольшчыну: гаспадар раніцай запрашаў у дом святара, каб адслужыць малебен перад абразом святога Мікалая, а гаспадыня гатавала днём так званы аброчны (абяцаны) абед, на які склікаліся з усёй вёскі калекі і жабракі. Сутнасць абеду была ў тым, што гаспадар дома даваў абяцанне накарміць усіх абяздоленых, каб няшчасці і беды абмінулі яго дом. Абавязковым пачастункам на стале была вялікая міска мёду. У канцы абеду ўсе рабілі з воску адну вялікую «аброчную» свечку, якую ставілі перад абразом святога Міколы. Часам вага такой «аброчнай» свечкі дасягала 30 кг. Яна цэлы год упрыгожвала ікону святога ў адной хаце, а потым у вёсцы вырашалі, хто наступны будзе ўдастоены прыняць да абраза святога Мікалая гэтую вялікую свечку.

Рэдка, але сустракаюцца на Палессі іконы з выяваю нябеснага ахоўніка здароўя, Панцеляймона-лекара. Дзень памяці святога — 27 ліпеня, па народным календары быў апошнім для збору зёлак. Лічылася, што менавіта ў гэты дзень, які называлі «качанны», завязваюцца качаны капусты («На Панцялея капуста ў качаны завіваецца»). У дзень святога Панцеляймона нельга было працаваць у полі, за такую правіну святы мог пакараць навальніцаю і маланкаю, таму яго часам называлі Палікопным, бо ён мог «папаліць копы сена».

Апостал Пётр таксама быў вялікім нябесным памочнікам у летніх працах — валадаром сенакосу і заступнікам касцоў. Таму ў палескім іканастасе ёсць знака-

вая ікона, прысвечаная першаапосталам Пятру і Паўлу. Іх дзень — 29 чэрвеня, Пятроў дзень. «Святы Пётр у косы звоніць, а святы Паўла граблі робіць», — казалі ў народзе. З Пятрова дня ўжо адчувалася дыханне восені: «Прыйшоў Пятрок — сарваў лісток». У часе летняй працы на сенакосе паміж хлопцамі і дзяўчатамі завязваліся адносіны, якія да Пакроваў маглі прывесці маладых пад вянец. Таму ў народзе існавала прымаўка: «Дзеўка хітра да Пятра» — дзяўчына старалася спадабацца хлопцу падчас сенакосу, каб паспець выйсці замуж увосень. Пра такія адносіны паміж Васілём Дзятлам і Ганнаю Чарнушкаю пісаў Іван Мележ у сваёй выдатнай палескай трылогіі «Людзі на балоце».

Наступны важны хатні памочнік на Палессі ўлетку — святы Ілля, Галляш. Святочны дзень гэтага валадара навальніцаў, маланак і грому — 2 жніўня. Да святога Іллі палешукі звярталіся з малітваю, каб нябёсы паслалі дождж у патрэбны час. Маланкі ў дзень успаміну святога лічыліся цудатворнымі, лекавымі, а дажджавая вада мела аздараўляльную моц, таму яе старанна збіралі і мыліся ёю. Дзень святога Іллі — пачатак восені і зажынак.

З рэдкіх іконаў палескага іканастаса варта адзначыць абраз святога Яна Воіна, успамін якога прыпадае на 12 жніўня. Ад грэцкага слова ἀνίκητος (анікос), што значыць *непераможны*, святога ў народзе называюць Аніка-воін. Цудатворны абраз святога Яна воіна знаходзіцца ў кіеўскім Сафійскім саборы, таму шанаванне святога асабліва распаўсюджана на ўкраінскім Палессі. Да святога звяртаюцца з малітваю ў пошуку родных, якія прапалі без вестак, каб знайсці згубленую рэч, засцерагчыся ад злодзеяў.



Святыя воіны Хрол і Ягор'я.

Шмат захавалася палескіх абразоў, дзе намаляваная яшчэ адна пара святых — гэта візантыйскія святыя воіны Флор і Лаўр, Хрол і Ягор'я. Па гадавым сонцавароце іх дзень — 18 жніўня. Святыя Флор і Лаўр лічацца заступнікамі коней. «Гаспадарка без каня, што дом без страхі», — так кажуць на Палессі, таму ў чырвоным куце палескай хаты былі іконы з выяваю гэтых заступнікаў коней. Хролаў дзень яшчэ называлі «конскім святам». У гэты дзень коней крапілі святою вадою «ад усялякага ліха», кармілі іх уволю і не выганялі на працу, бо «на Хрола і Ягор'я ня жнуць і ня пашуць». Флор і Лаўр — абаронцы палешука і ў «вераб'іную ноч», якая прыпадае на апошнія жнівеньскія дні. Гэта ноч з моцнаю навальніцаю і маланкамі, час разгулу нячыстай сілы. Народная назва трымалася на павер'і, што ў гэтую ноч «нячысцік» мерае вераб'ёў: хто з птушак не ўвайшоў у меру — таго адпускае на волю, а пакаранне вераб'і атрымалі за тое, што, паводле старажытнага падання, падчас укрыжавання Збаўцы падносілі ў дзюбках цвікі рымскім жаўнерам. Чалавек, забіты маланкаю ў «вераб'іную ноч», лічыўся чараўнікам і яго хавалі на раздарожжы без крыжа.

*Працяг будзе.*



Абраз св. Яна Боска з бочнага алтара курганскага касцёла. Цяпер знаходзіцца ў ружанастоцкім кляштарным комплексе (Польшча).

Артур Ляшнеўскі SDB

# Салезіянская «Атлантыда» на беларускай зямлі

*Гісторыя першага ў Рэчы Паспалітай касцёла св. Яна Боска*

*Калі чыгункай едзеш з Ліды ў Гродна, у вочы кідаецца маленькая станцыя «Курган». На гэтай станцыі спыняюцца толькі прыгарадныя цягнікі. Цікава, ці задумаўся хто-небудзь, чаму гэтая станцыя знаходзіцца тут, сярод поля, і чаму мае менавіта такую назву?..*

Калісьці Курган быў адным з фальваркаў Рэчы Паспалітай і належаў да гміны Тарнова Лідскага раёна. Не было тут шмат жыхароў, але ён яднаў пад сваім крылом шматлікія хутары, рассеяныя па навакольных лясах і палях. Быў тут і двор мясцовай засцянковай шляхты — паноў Жураўскіх[1]. Гісторыя гэтых дробных магнатаў амаль невядомая, аднак заслугоўваюць увагі апошнія ўладальніцы засценка — сёстры Алена і Марыя Жураўскія.

Аднойчы сёстры спаткалі ў Вільні прэлата кс. Караля Лубянца, які намовіў іх ахвяраваць невялічкі маёнтак на Лідчыне Таварыству св. Францішка Сальскага, салезіянам, якія перспектыўна праводзілі выхаваўчую працу ў Вільні ў майстэрнях на вуліцы Добрай Рады[2]. Сёстры згадзіліся і ў 1925 годзе ахвяравалі фальварак Курган і 110 гектараў зямлі салезіянскаму таварыству, але на ўмовах часовага карыстання, каб дзейнасць ордэну магла атрымоўваць даход ад упарадкавання даручаных іх апецы земляў і праз гэта дапамагаць віленскім салезіянам.

У 1932 годзе салезіяне цалкам і назаўсёды купляюць Курган у сясцёр Жураўскіх, і з гэтага моманту паўстае пытанне гаспадарання ў маёнтку. Першай ідэяй было ўтварэнне ў Кургане сірацінца, каб распачаць выхаваўчую дзейнасць сярод бедных мясцовых хлопцаў — ідэя дому для сіротаў і бедных хлопцаў з наваколля была блізкая да першапачатковай думкі святога заснавальніка кангрэгацыі салезіянаў ксяндза Яна Боска. Аднак планы былі хутка змененыя з-за лакалізацыі фальварка: 3,5 км ад чыгуначнай станцыі; 8 км ад пошты і 8 км ад парафіяльнага касцёла, які знаходзіўся ў Белагрудзе.

Салезіяне часта наведвалі Курган па справах, звязаных з гаспадарчай дзейнасцю. Яны бачылі вялікую патрэбу душпастырскай апекі для мясцовага люду. Чуткі аб Кургане хутка разышліся па правінцыі салезіянаў, і ў ліпені 1933 года інспектар Варшаўскай інспекторыі, кс. Станіслаў Плывачык SDB, адкрывае ў Кургане філіяльны дом віленскага кляштара салезіянаў, дзейнасць якога скіроўвае на душпастырска-парафіяльную працу.

Першым салезіянінам, які прыбыў на новую пляцоўку для працы, быў кс. Ігнацый Васілеўскі SDB. Праз некаторы час да яго далучаюцца каад'ютары — браты ў законе Ігнацый Вольны SDB і Ігнацый Янік SDB[3]. Такім чынам, тры Ігнацыі распачынаюць салезіянскую дзейнасць. Манахі найбольш займаліся гаспадаркаю і зямельным кіраваннем фальварка, а кс. Васілеўскі пачаў збіраць аўчарню Хрыстовых авечак вакол былога маёнтка Жураўскіх.

Сядзібны дом, які атрымалі салезіяне, з'яўляецца творам драўлянага дойлідства, пабудаваным на ўзор тыповых сядзіб-

**Дыякан Артур Ляшнеўскі SDB** — член Таварыства св. Францішка Сальскага. Нарадзіўся 10 красавіка 1989 года ў Мінску. Вывучаў філасофію і тэалогію ў Лёндзе над Вартаю і ў Кракаве. Першыя манаскія абяцанні склаў 8 верасня 2011 года. Дыяканскае пасвячэнне атрымаў 12 мая 2018 года.



Гушчар на месцы, дзе стаяў касцёл св. Яна Боска.



Касцёл св. Яна Боска ў Кургане. 1935 год.

ных гнёздаў дробнай шляхты на нашых землях. Прамавугольны ў плане будынак досыць вялікіх памераў у сярэдзіне фасада мае шырокі порцік на дзвюх парах драўляных калонаў, якія ўзнімаюць трохвугольны франтон. Такі самы порцік знаходзіцца на супрацьлеглым баку будынка.

1 красавіка 1934 года папа Пій XI абвяшчае Яна Боска святым, і з гэтай нагоды настаяцелі інспекторыі жадаюць узвесці ў яго гонар касцёл — першы касцёл у Рэчы Паспалітай з такім тытулам. Выбар падае на Курган. Улады ордэну зацвярджаюць рашэнне, і будова пачынае свой рух.

Асяроддзе, у якім распачалі працаваць салезіяне ў Кургане, было вельмі ўбогае, таму святыню вырашылі будаваць з матэрыялу, якога было вельмі шмат навокал, — з дрэва. Будаўнічы матэрыял ахвяравалі сем'і Жураўскіх і Кунцэвічаў, а таксама салезіянін кс. Людвіг Гастыла SDB[4], настаяцель з Дварца ахвяраваў на новы касцёл дошкі. Будаўніцтва доўжылася ўсяго год, і ўжо 15 кастрычніка 1935 года адбылося яго ўрачыстае асвячэнне, якое здзейсніў Віленскі Мітрапаліт арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі. Рэктарам новаасвечанага касцёла быў менаваны яго будаўнік — кс. Ігнацый Васілеўскі[5].

Касцёл св. Яна Боска ў Кургане быў творам народнага драўлянага дойлідства. Прамавугольны ў плане будынак святыні меў плоскую алтарную сцяну ззаду і невялічкі ганак-бабінец спераду. Будова была накрыта двусхільным бляшаным дахам з сярэдніх памераў вежай-сігнатуркай з боку пярэдняга фасада. Вежачка была накрытая шатровым дахам з мядзяным крыжам у звянчэнні. На вежы знаходзіўся звон пад назваю «Ян Боска», ахвяраваны кс. Войцехам Балавайдрам SDB, які склікаў мясцовых жыхароў на малітву. Сцены касцёла і вежы былі ашаляваныя дошкамі. Па баках алтарнай часткі знаходзіліся дзве сакрыстыі пад аднасхільным дахам. Святыня была ўзнесеная на высокі каменны падмурак з шырокімі сходамі перад уваходам. Унутры прастору касцёла ўпрыгожвалі тры алтары, выкананыя ў салезіянскай майстэрні ў Вільні. У галоўным алтары быў размешчаны абраз Маці Божай Успамогі Хрысціянаў, а ў бакавых — абразы св. Яна Боска і Святой Сям'і[6].

Плённае душпастырства салезіянаў і прысутнасць у засценку новага касцёла пабуджалі манаскія ўлады да таго, каб зацвердзіць у Кургане новую парафію. Праца салезіянаў была ўзнагароджаная зацвярджэннем у Кургане манаскага дому. Кляштар быў заснаваны Віленскім Мітрапалітам 23 сакавіка 1935 года і кананічна зацверджаны генеральным настаяцелем салезіянаў кс. Пятром Рыкальдонэ SDB 10 чэрвеня 1935 года[7]. Кс. Васілеўскі ў 1940 годзе пакідае Курган і займае вакантнае месца пробашча ў Ваўкавыску, дзе ён таксама выконваў функцыю дэкана аж да канца Другой сусветнай вайны[8]. На яго месца ў Курган з Ружанастока прыязджае кс. Юзаф Буяр SDB. Новы апякун курганскай супольнасці старанна намагаецца зарэгістраваць парафію і акрэсліць тэрыторыю душпастырскай апекі салезіянаў на Лідчыне.

Напачатку кс. Буяр пераконвае мясцовых жыхароў аддзяліцца ад касцёлаў у Белагрудзе і Ваверцы, каб далучыцца да касцёла ў Кургане. Праводзяцца размовы і збіраюцца патрэбныя подпісы для Віленскай курыі. Тытул пробашча кс. Юзаф Буяр атрымоўвае ўжо ў кастрычніку 1941 года. Мясцовыя католікі пазітыўна адгукаюцца на прапанову салезіянаў, і ў вельмі хуткім часе вызначаюцца 26 вёсак і хутароў, якія пажадалі адміністрацыйна належаць да парафіі св. Яна Боска. Агульная колькасць душаў курганскай парафіі налічвала 648 чалавек[9]. Гэта была невялічкая парафія пры салезіянскім кляштарным доме, аднак яе за-




Пасведчанне біскупа Анатоля Новака аб удзяленні святарскага пасвячэння кс. Юзафу Буяру SDB.



Кс. Юзаф Буяр SDB.

цвярджэнне ўвесь час адкладалася. Канчатковаму зацвярджэнню парафіі перашкаджае Другая сусветная вайна…

У 1941 годзе інспектар салезіянаў звяртаецца да мітрапаліта Ялбжыкоўскага з просьбаю юрыдычнага зацвярджэння парафіі св. Яна Боска ў Кургане і ахвяруе маёнтак на яе патрэбы і ўтрыманне. Мітрапаліт згаджаецца, аднак просіць узвесці патрэбныя для парафіяльнага жыцця будынкі, а таксама зрабіць у Кургане парафіяльныя могілкі[10].

Чакаючы рашэння, салезіяне наладжваюць багатае душпастырскае жыццё ў Кургане: катэхізацыю дзяцей і дарослых, рэгулярныя Імшы і набажэнствы ў касцёле; засноўваюць парафіяльны хор; пры кляштары дзейнічае невялічкая школа для хлопцаў, якім салезіяне выкладаюць навукі на ўзроўні гімназіі паводле польскай сістэмы адукацыі. Аднак нямецкая акупацыя спыняе дзейнасць законнікаў і ўсе намаганіі па ўтварэнні парафіі...

Кс. Юзаф Буяр разам з іншымі мясцовымі святарамі быў арыштаваны нямецкімі акупантамі ў ліпені 1942 года[11]. Ксяндзоў размясцілі ў лідскай вязніцы па вуліцы У. Сыракомлі. Вязняў білі і зневажалі. Салезіяніна адведвала ў вязніцы с. Марыя Ліпінская FMA, якая паходзіла з Ліды. У сваім сведчанні яна піша: *«Апрача таго, што ўсіх турбавала няпэўнасць заўтрашняга дня, самапачуццё вязняў было добрым. Увесь час размаўлялі на рэлігійныя тэмы і чыталі духоўную літаратуру. Між іншым, з вялікай цікавасцю чыталі біяграфіі св. Яна Боска і св. Марыі Дамінікі Мадзарэлла»*[12]. Святары прадчувалі свой блізкі канец, але духам кожны быў падрыхтаваны. Была агучана дата расстрэлу — 10 сакавіка 1943 года. Кс. Буяр у вязніцы моцна захварэў і падчас транспарціроўкі святароў у грузавую машыну, каб прывезці іх на месца экзекуцыі, страціў прытомнасць. Салезіяніна вярнулі ў вязніцу, дзе ён у пакутах і самоце памёр 16 сакавіка 1943 года. Цела законніка разам з расстралянымі святарамі пахавалі ў супольнай магіле ў Лідзе[13].

...Замест кс. Буяра ў Курган прыехаў кс. Францішак Цафалка SDB, але савецкая ўлада не згадзілася на побыт салезіянаў і прымусіла законнікаў пакінуць Курган. У Кургане на той час, апрача кс. Францішка, яшчэ быў каад'ютар Ян Ружыцкі SDB і першая на землях Беларусі салезіянка с. Яніна Вавжыняк FMA, якая прыбыла з Ружанастоку, каб дапамагчы салезіянам у душпастырстве. Законнікі пасля няўдалых перамоваў з уладаю пакідаюць Курган, вывозячы касцёльныя абразы, келіхі і каштоўны інвентар. Курганскі «караван» уцякае ў Ружанасток ля Гродна...[14]

Выезд салезіянаў з Кургана стаўся пачаткам канца гэтай



Магіла расстраляных немцамі ля падмурку касцёла дзетак.




Помнік на магіле забітых святароў у Лідзе.

мясцовасці. Амаль 100 гектараў зямлі — маёмасць ордэну, было канфіскавана савецкімі ўладамі і перададзена мясцоваму калгасу. Касцёл некаторы час стаяў зачынены, аднак атэістычная ўлада доўга не магла цярпець прысутнасці культавага будынка. Згодна з рашэннем сельсавета ў 1960 годзе святыня была разабраная, а з касцёльнага будаўнічага матэрыялу зрабілі клуб у вёсцы Радзівонішкі. Як сведчаць мясцовыя жыхары, у клуб бацькі пускаць дзяцей баяліся, каб Бог не пакараў. Клуб стаяў пусты. Старшыня калгаса, раз’юшаны сітуацыяй, сказаў вяскоўцам разабраць клуб на свінарнікі. Спадарыня Валянціна, жыхарка найбліжэйшай ад Кургана вёскі Радзівонішкі, успамінае: *«Бярвення з касцёла мы на хлявы не ўзялі. Я казала людзям, каб бралі святое дрэва і палілі ў печах, каб не дай Божа ў свінарніку не гніло. Памятаю гэты касцёлак і ксяндзоў, што дзяцей вучылі, таксама памятаю. Мы, хоць праваслаўныя, алё ў курганскі касцёлак хадзілі. Добрыя святары там працавалі»*[15].



Сядзібны дом Жураўскіх.
Салезіянскі манаскі дом у Кургане (сучасны выгляд).

Каб на месца знішчанага касцёла людзі не хадзілі маліцца Богу, на дарозе, што вяла да храма і манаскага дому салезіянаў, паставілі кароўнік, які стаіць тут і сёння. Дайсці да курганскага гаю можна толькі праз калгасную ферму альбо праз поле. Сярод дрэваў і дзікіх кустоў віднеецца каменны падмурак і ганак касцёла св. Яна Боска. Побач з падмуркам — магіла забітых немцамі выхаванцаў. Трохі далей ляжаць касцёльныя крыжы з мядзянымі цыбулінамі. Цуд іх захавання — лакалізацыя гаю ў полі без даезду, забытым і зарослым дрэвамі. Нават мясцовыя жыхары маюць клопат, каб паказаць кірунак да курганскага гаю. Крыху далей віднеецца манаскі дом — былы фальварак Жураўскіх. Ён захаваны цалкам — драўляны шляхецкі двор з ганкам і калонамі. Пасля выгнання салезіянаў ён выкарыстоўваўся ў якасці дому для калгаснікаў. Цяпер у доме выбітыя вокны і дзверы. Вакол фальварка — прыродны мур вялізных валуноў па перыметры фальварка. Рассадка дрэваў нагадвае мінулыя алеі і сады, якія даўно здзічэлі...

Курган знік з беларускіх мапаў. Цяжка яго знайсці. Аднак, нягледзячы на план камуністаў, якія прагнулі знішчыць усе памяткі рэлігійнасці на гэтай зямлі, памяць аб курганскім касцёле ўвесь час жыве. Жыве таксама памяць і пра законнікаў — духоўных сыноў св. Яна Боска, якія, нягледзячы на перашкоды і цяжкія ўмовы існавання, вырушылі на лідскую зямлю, каб у салезіянскай харызме сеяць Божае насенне. Курган стаў яшчэ адной рэлíквіяй беларускай зямлі. Рэліквіяй, якая сведчыць аб тых падзеях нашай гісторыі, калі Бога ў нас з памяці жадалі выдаліць, аднак з сэрцаў выдаліць ім не ўдалося! Падмурак першага ў Рэчы Паспалітай касцёла св. Яна Боска самотна хаваецца ў цені дзікіх кустоў. Выглядае, нібы Хрыстовая грабніца, якая чакае цуду ўваскрасення…

---

[1] Пар: J. Pietrzykowski, Salezjanie w (archi)diecezji wileńskiej w latach 1919–1939, w: Mój Kościół w historię wpisany, księga pamiątkowa dedykowana ks. Profesorowi Tadeuszowi Krachelowi. — Białystok, 2007, s. 376; A. Świda, Towarzystwo Salezjańskie. Rys historyczny. — Kraków, 1984, s. 170; J. Ślósarczyk, Historia Prowincji świętego Jacka Towarzystwa Salezjańskiego w Polsce, t. 2, s. 626.

[2] Пар: J. Pietrzykowski, Duchowni polscy – dobrodzieje salezjańscy z lat 1898–1938, Seminare, 2002, 18, s. 618–620.

[3] Пар: J. Pietrzykowski, Salezjanie w (archi)diecezji wileńskiej w latach 1919–1939, w: Mój Kościół w historię wpisany, księga pamiątkowa dedykowana ks. Profesorowi Tadeuszowi Krachelowi. — Białystok, 2007, s. 376.

[4] Салезіянскі архіў Варшаўскай інспекторыі (папка «Курган», хроніка салезіянскага дома ў Кургане (279)).

[5] Пар: Pokłosie Salezjańskie, rok XIX, №11, 1935, s. 227; J. Ślósarczyk, Historia Prowincji świętego Jacka Towarzystwa Salezjańskiego w Polsce, t. 2, s. 182.

[6] Салезіянскі архіў Варшаўскай інспекторыі (папка «Курган», хроніка салезіянскага дома ў Кургане (279)).

[7] Archivio Salesiano Centrale [Цэнтральны Салезіянскі Архіў у Рыме], F. 681, Kurhan.

[8] Пар: J. Pietrzykowski, Towarzystwo Salezjańskie w Polsce w warunkach okupacji 1939–1945. — Warszawa, 2015, s. 198.

[9] Бібліятэка літоўскай Акадэміі навук імя Урублеўскіх у Вільні [Lietuvos Mokslų Akademijos Vrublevskių], F. 318-21355, Парафіяльны аддзел (папка «Курган», с. 10, 10 v.).

[10] Бібліятэка літоўскай Акадэміі навук імя Урублеўскіх у Вільні [Lietuvos Mokslų Akademijos Vrublevskių], F. 318-21352 (папка «Курган», справа заснавання парафіі, с. 1, 2).

[11] Некралог памяці польскіх салезіянаў, 1891–1976, Кракаў — Лодзь. — 1976, с. 87.

[12] B. Kant, Księga Męczeństwa Salezjanów Polskich. 55 polskich salezjanów zamordowanych przez hitlerowców. — Warszawa, 2012, s. 79.

[13] Пар. B. Kant, Księga Męczeństwa Salezjanów Polskich. 55 polskich salezjanów zamordowanych przez hitlerowców. — Warszawa, 2012, s. 79.

[14] Салезіянскі архіў Варшаўскай інспекторыі (папка «Курган», карэспандэнцыя кс. Францішка Цафалкі да кс. Часлава Лаўферскага, Ружанасток, 12.06.1968 г.).

[15] Вусны дыялог са сведкам. Радзівонішкі, 22 ліпеня 2015 года.

Юры Лаўрык

# ГІСТОРЫЯ БІБЛІЯТЭКІ БУДСЛАЎСКАГА КАНВЕНТА АЙЦОЎ БЭРНАРДЫНАЎ

*Чытачы «Нашай веры» добра абазнаныя ў гісторыі цудадзейнага абраза Маці Божай і касцёла пад тытулам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Будславе, у якім ён захоўваецца. Будслаўская тэма не раз закраналася пад тым ці іншым ракурсам на старонках часопіса (напр., у публікацыях Аляксандра Ярашэвіча «Цудадзейны і старажытны» і «Роспісы будслаўскага касцёла // «Наша вера», № 2, 2001 і інш.). Аднак пра будслаўскую бэрнардынскую бібліятэку ведаюць толькі спецыялісты. Унікальнасць гэтай бібліятэкі ў тым, што яна належыць да нешматлікіх ацалелых (хоць і не ў поўнай захаванасці) кляштарных кнігазбораў Беларусі. Былая бэрнардынская бібліятэка была знойдзена мясцовымі жыхарамі напрыканцы 1950-х гадоў у адной з вежаў будслаўскага касцёла. Атрымаўшы інфармацыю пра гэтую знаходку, у Будслаў выехалі супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея (сёння: Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь) і Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна (сёння: Нацыянальная бібліятэка Беларусі), якія са згоды ксяндза перавезлі знойдзеныя кнігі ў Мінск у свае фонды.*

Узнікненне Будслава звязана з наданнем у 1504 г. каралём Аляксандрам віленскім францішканам-абсэрвантам права на вырубку лесу ў Матыцкім старостве Віленскага ваяводства. Неўзабаве пасля гэтага віленскі канвент накіраваў у гэтую мясцовасць для нарыхтоўкі лесу некалькіх братоў. Пасяліўшыся сярод пушчы ў буданах — будах (адкуль пазней і пайшла назва паселішча: Буда), яны пачалі вырубку і сплаў дрэва ў Вільню, спалучаючы гэтую дзейнасць са сваім абавязкам супольнай малітвы і ўдзелу ў Імшы паводле ордэнскіх статутаў. Можна меркаваць, што ўжо на самым пачатку побач з буданамі законнікаў паўстала капліца, а разам з ёю з’явілася і бібліятэчка з некалькіх малітоўнікаў і мінімальнага камплекта літургічнай літаратуры.

У 1517 г. абсэрванцкая плынь францішканаў аформілася ў самастойны ордэн, які атрымаў назву *Ordo Fratrum Minorum S. Francisci Regularis Observantiae;* у народзе прыхільнікаў строгага выканання запаветаў св. Францішка называюць бэрнардынамі, паводле імя заснавальніка гэтай плыні св. Бэрнарда з Сіены. Аднак у цэлым рэлігійна-палітычная сітуацыя ў першай палове XVI ст. і ў свеце, і ў Вялікім Княстве Літоўскім была нестабільнаю: шырыліся ідэі Рэфармацыі, ордэнскія супольнасці расколваліся на прыхільнікаў і праціўнікаў новых павеваў, а іх змаганне прыводзіла не толькі да заняпаду кляштарнага жыцця, але часам нават да перакройвання межаў і складу правінцый. Каб пазбегнуць уплыву новых ідэяў, манахаў, якія займаліся нарыхтоўкаю лесу ў аддаленні ад канвента, у 1530 г. адклікалі ў Вільню, а іх буданы засталіся пакінутымі на дзясяткі гадоў. Зразумела, што разам з будскімі бэрнардынамі вярнуліся ў віленскі кляштар і іх кнігі.

Пасля Трыдэнцкага Сабору Каталіцкі Касцёл стаў на шлях рэформаў, і еднасць у ім, у тым ліку ў ордэнах, паступова аднавілася; кляштары зажылі звычайным жыццём і пачалі папаўняцца новымі братамі. Віленскія бэрнардыны ў 1571 г. вярнуліся на сваё даўняе селішча і зноў узяліся за нарыхтоўку лесу ў Матыцкай пушчы. Яны нават выбудавалі тут у 1589 г. драўляны касцёл, які праз два гады быў асвечаны пад тытулам Звеставання Панне Марыі віленскім суфраганам Цыпрыянам[1]. Гэты факт для нас вельмі важны, бо ён

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага ўніверсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.

указвае на час з'яўлення ў будскіх бэрнардынаў сталага і адносна поўнага літургічнага кнігазбору.

З увагі на галоўную місію францішканскіх законаў — несці слова Божае люду — у гэты час пры касцёле ўжо павінна была захоўвацца і гамілетычная літаратура, патрэбная для падрыхтоўкі казанняў. Бэрнардынскі асяродак у Будзе на той момант залежаў ад віленскага канвента[2], таму можна было б чакаць, што сярод рэштак будслаўскага кнігазбору знойдуцца выданні ці манускрыпты XVI ст. з віленскімі пазнакамі, аднак ні віленскіх, ні будслаўскіх правененцый гэтага перыяду выявіць пакуль не ўдалося.

Магчыма, ужо ў XVI ст. непадалёк ад касцёла пачалі сяліцца і вяскоўцы, і паступова вёска перарасла ў мястэчка, статус якога яна атрымала ў 1732 годзе. Духоўны аўтарытэт будскіх бэрнардынаў значна ўзрос пасля таго, як Ізаак Салакай, былы спаведнік мінскага ваяводы Мікалая Паца, падараваў ім у 1613 г. абраз Найсвяцейшай Панны Марыі, які ваявода некалі атрымаў у Рыме з рук папы Клімэнта VIII. Абраз неўзабаве ўславіўся шматлікімі выздараўленнямі і цудамі, а ў Буду пацягнуліся пілігрымы. З часам вялікі наплыў народу прывёў да неабходнасці збудавання большага касцёла, і праз яго Буду пачалі называць Слаўнаю, ад чаго і паходзіць Будслаў (на старонках кніг былой бэрнардынскай бібліятэкі ўжо з 2-й паловы XVIII ст. побач з «Conventus Budensis» сустракаецца таксама і назва «Conventus Budslaviensis»).

Новы касцёл быў вымураваны ў 1633–1643 гг. У гэты час пачынаецца новы перыяд развіцця будскага бэрнардынскага асяродка; менавіта з ім звязана найранейшая вядомая нам кніжная пазнака з Будслава: «*Pro Conventu Budensi et Eccl[esi] a. Varsovia comparat[ur].* A[nn]



Выданні з будслаўскай пабэрнардынскай бібліятэкі ў сховішчы Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.




Разгортка зборніка казанняў Я. Я. Шротэра з уладальніцкім надпісам і расстановачным шыфрам будслаўскай бібліятэкі.




Выдадзеная ў 1783 г. у Вільні «Geometrya dla szkoł narodowych» з пазнакамі полацкіх бэрнардынаў.



Тытульная старонка францішканскага «Антыфанара», перапісанага паводле доручэння гвардыяна Канстанціна Пенса.

о 1652» («Для будскага канвента і касцёла набыта ў Варшаве. Году 1652»). Надпіс гэты знаходзіцца на выдадзеным у 1645 годзе ў Кракаве патрыдэнцкім «Antiphonarium'е» (НГМ РБ, КП 4068), прызначаным для набажэнстваў ва ўсіх парафіях Рэчы Паспалітай. Яшчэ адзін, пазнейшы, надпіс на кнізе *(«A[d] m[odum] R[everendu]s P[ate]r Pens Konstanty Gwar[dian] | Budski»)* інфармуе нас, што менавіта гэтым антыфанарам карыстаўся славуты гвардыян Канстанцін Пенс, які так шмат зрабіў не толькі для разбудовы ў 2-й палове XVIII ст. будслаўскага касцёла, але і для папаўнення канвентуальнай бібліятэкі.

Надпіс сярэдзіны XVII ст. менавіта на літургічнай кнізе схіляе да думкі, што з прычыны вайны з Маскоўшчынаю літургічная бібліятэчка была эвакуяваная ў 1650-я гг. у Сакулку разам з цудадзейным абразом Маці Божай, а большая частка канвентуальнага кнігазбору, верагодна, засталася ў Будзе, дзе і загінула. Адсутнасць кніг з тагачаснымі запісамі дае падставы думаць, што набыткі 2-й паловы XVII ст. таксама загінулі ў полымі Паўночнай вайны, што выбухнула на пачатку XVIII ст.

Храналагічны аналіз інскрыпцый на будслаўскіх старадруках, а таксама датаў стварэння рукапісаў з канвентуальнага кнігазбору сведчыць пра тое, што даволі шмат кніг паступіла ў бэрнардынскую бібліятэку неўзабаве пасля заканчэння Паўночнай вайны, у 1720–1730-я гг., падчас гвардыянату Станіслава Вярбіцкага. Трэба думаць, менавіта ў гэты час тут з'явіліся, напрыклад, створаныя ў 1725 і 1727 гг. у Вільні вучэбныя рукапісы па рыторыцы (НГМ РБ, КП 4028 і КП 4019), а таксама шэраг друкаваных выданняў.

Як вынікае з надпісу на выдадзенай у 1732 г. у Вільні кнізе «Roszczka Aaronowa» (НББ: 12Н//262(026)), Станіслаў Вярбіцкі сам папаўняў дарункамі канвентуальную бібліятэку. Вось гэты надпіс: «Applicatus est Liber hic Bibliothecae Conven=|tus Budensis Anno D[omi]ni 1739 ab Adm[odo] R[everen]do | P[at]re Stanislao Wierzbicki Gvar|diano Budensi» («Ахвяравана кніга гэтая бібліятэцы канвента Будскага году Панскага 1739 найправялебнейшым айцом Станіславам Вярбіцкім»). Але, відаць, ён актыўна праводзіў і працу па камплектаванні кнігазбору сярод навакольнага святарства і шляхты: менавіта ў гэты час бэрнардынскі кнігазбор папоўніўся кнігамі, падараванымі канвенту пробашчамі навакольных парафій: Ваўкалаты, Даўгінава і Мядзеля.

Так, напрыклад, ваўкалацкі пробашч Язэп Клячкоўскі падараваў канвенту выдадзеныя ў 1660 г. у Льежы «Commentarii historici et morales perpetui ad primum Machabaeorum» (НГМ РБ, КП 4070), пра што мы даведваемся з надпісу на тытульнай старонцы кнігі: «Pro Conventus Budensi Patrum Bernardinor[um] | Aplicavit Hunc Librum Perillus|tris Ad[modus] R[everen]dus Dominus D[omi]n[us] | Joseph[us] Kleczkowski Ca=|nonic[us] Smolenscensis | Decan[us] Polocensis Pa=|roch[us] Wołkołacensis | Anno D[omi]ni 1739» («Канвенту Будскаму айцоў бэрнардынаў ахвяраваў гэтую кнігу вельмі шаноўны найправялебнейшы спадар Язэп Клячкоўскі, канонік Смаленскі, дэкан Полацкі, парах Ваўкалацкі. Году Божага 1739»).




Тытульная старонка выдадзенага ў 1645 г. у Кракаве «Антыфанара».

Даравалі канвенту кнігі і свецкія людзі: найчасцей як ахвяру за ўспамін блізкай душы. Прыклад надпісу такога роду дае нам выдадзеная ў 1616 г. таксама ў Льежы «Gesta Pontificum Leodiensium» (НГМ РБ, КП 4064), на адгорце фарзаца якой чытаем, што «A[nn]º: 1739 d[ie] 1 xbris Hic liber a Me Casimiro | Jozepho Okolski Tivono et Succamera|rio Trocensi applicatus e[st] Conventui Bu=|densi cum Obligatione dicere ad Saluta|tionis B[eatae]:V[irginis]:M[ariae] pro animabus defunctis in quotis


CHRONOLOGIAE
HISTORICO-LEGALIS
SERAPHICI ORDINIS
TOMUS TERTIUS
PARS SECUNDA
COMPLECTENS
ACTA COMITIORUM, ET CONGREGATIONUM
GENERALIUM AB INDICTIONE CAPITULI
GENERALIS ROMANI ANNI MDCCXXIII.
AD USQUE ANNUM MDCCLI.
ITEM
LITERAS APOSTOLICAS ROMANORUM PONTIFICUM, ET
SS. CONGREGATIONUM, AC SUPERIORUM
GENERALIUM DECRETA
EDITA
Ad FRANCISCANAM FAMILIAM recte adminiſtrandam,
& collecta, nonnulliſque animadverſionibus illuſtrata
OPERA P.F. CAROLI MARIÆ PERUSINI
ROMAE MDCCLII.
Typis Octavii Puccinelli, in Typographia S. Michaelis ad Ripam.
SUPERIORUM FACULTATE.

Тытульная старонка выдадзенай у 1754 г. у Рыме працы Караля Марыі Перузіні «Chronologiae Historico-Legalis Serafici Ordinis».

Leqtore [sic!]» («Году 1739, 1 кастрычніка, гэтая кніга была мною, Казімірам Язэпам Акольскім, цівуном і падкаморнікам троцкім, канвенту Будскаму з абавязкам чытальніку прамаўляць «Анёльскае прывітанне» да Благаслаўлёнае Панны Марыі за душы памерлых у азначанай колькасці разоў»).

Наступны і, бадай, самы выдатны перыяд у гісторыі будслаўскай бібліятэкі, як і ў цэлым бэрнардынскага асяродка, надышоў у сярэдзіне XVIII ст., калі пасаду гвардыяна заняў брат Канстанцін Пенс. Менавіта дзякуючы ягоным стараннямі у 1767–1783 гг. быў узнесены велічны касцёл у стылі віленскага барока, з якім Будслаў і асацыюецца ў нас сёння, а папаўненнем канвентуальнай бібліятэкі К. Пенс пачаў апекавацца задоўга да збудавання касцёла і працягваў гэтую справу, нават займаючы высокія пасады.

Сярод друкаваных кніг, перададзеных у канвентуальную бібліятэку гвардыянам Канстанцінам Пенсам, назавем 3-ці том працы Караля Марыі Перузіні «Chronologiae Historico-Legalis Serafici Ordinis», выдадзенай у Рыме ў 1754 г.: «Applicavit hunc Librum Conventui Budensi | pro Libraria Patrum Bernardinorum ejusdem Conventus | Reverendus Pater Constantini Pens Diffinitor Habitualis | ejusdem Conventus Gvardianus Anno 1763. D[ie]. 30. Maj.» («Ахвяраваў гэтую кнігу канвенту Будскаму для бібліятэкі айцоў бэрнардынаў гэтага ж канвента вялебны айцец Канстанцін Пенс, дыфінітар габітаваны, гэтага ж канвента гвардыян, году 1763 дня 30 траўня»). А «Канкарданцыю да Святога Пісьма» («Sacrorum Bibliorum vulgatae editionis concordantiae»), падрыхтаваную кардыналам Гуга дэ Санкта Каро, выдадзеную ў Венецыі ў 1754 г., Канстанцін Пенс перадаў у будслаўскую бібліятэку, знаходзячыся на пасадзе правінцыяла літоўскага: «Pro libraria C[onve]ntus Budensis PP[atrum]: Bernardinor[um] ofert Fr[ater]. Constantin[us] Pens M[i]n[iste]r Pr[ovincia]lis | m[anus] p[ro] p[ria]» («Для бібліятэкі канвента Будскага айцоў бэрнардынаў ахвяруе брат Канстанцін Пенс, міністр правінцыі [які напісаў гэта] рукой уласнай»).

Пры Пенсу пачалося актыўнае фармаванне асобных частак канвентуальнай бібліятэкі, якія захоўваліся ў розных месцах (у сакрыстыі, на хорах, пры школе рыторыкі і інш.) і мелі, так бы мовіць, розны «рэжым карыстання», кажучы сучаснаю моваю, гэта былі асобныя «структурныя падраздзяленні» агульнай канвентуальнай бібліятэкі.

Напрыклад, для школьнай бібліятэчкі падручнікі і дапаможная літаратура нярэдка закупляліся ў вялікай колькасці тамоў, прычым праз некалькі гадоў маглі набывацца дадатковыя тамы. На ўсіх асобніках гэтых кніг пакідаўся надпіс, зроблены паводле стандарту,


RHETORICÆ
CYPRIANI SOARII
è Societate JESU.
EXPLANATIO
Item
Orationes Ciceronis majores
Et ex claſſicis Authoribus selecta
Quæ in Gymnaſiis Societatis JESU
prælegi ſolent
In
SCHOLA RHETORICÆ
NESVISII
Typis RADIVILIANIS Coll: Soc: JESU.
Anno 1764.

Выдадзены ў 1764 г. у Нясвіжы падручнік рыторыкі Цыпрыяна Суарэса з надпісам школьнае бібліятэчкі.

падобны да зробленага на асобніках віленскага выдання 1754–1756 гг. «Каментарыя да выбраных прамоваў Цыцэрона» («Commentarius in selectas M. T. Ciceronis orationus», НГМ РБ, КП 4039/1-3, КП 13629/1-2, КП 13630/1-2, КП 13631/1-2; ЦНБ НАНБ, ОБ XVI-XVIII/Нр 208 Нр5502): «Hic Liber spectat | ad communem usum | Patrum et Fratrum | Alumnorum Spiri|tualis Rhetorices Ord[inis] | Min[orum] S[ancti]. P[atri] Francisci | de Observantia C[onven]tus Budensis ab an[n]o | 1763 d[ie] 12 Augusti» («Гэтая кніга належыць супольнаму карыстанню айцоў і братоў алюмнаў духоўнае рыторыкі Ордэну [Братоў] Меншых святога айца Францішка [Суворае] Абсэрванцыі канвента Будскага ў год 1763 дня 12 жніўня»). Пісанне будслаўскай уладальніцкай інскрыпцыі на падручніках даручалася, трэба думаць, самім студэнтам, на што ўказваюць адрозныя почыркі і варыяцыі ў тэксце надпісу на розных асобніках аднаго выдання. (Калі студэнты пазычалі кнігі з такой бібліятэкі для

вучобы на больш працяглы час, яны таксама пазначалі ўласныя імёны, як на асобніку згаданага выдання пад нумарам НГМ РБ, КП 4039/3: «F[rate]r. Vigbertus».)

Актыўна забяспечваўся адпаведнымі кніжнымі рэсурсамі пры Пенсу і будслаўскі касцёл, у якім дапаможныя бібліятэчкі захоўваліся ў сакрыстыі і на хорах. Так, напрыклад, непасрэдна паводле даручэння гвардыяна быў перапісаны, як вынікае з загалоўка, францішканскі «Антыфанар» («Antiphonarium Minoriticum», НГМ РБ, КП 13633): «Pro C[o]n[ven]tu Budensi, AD Sanctam Mariam Assumptam. PP. Bernardinorum. Cura A. R. P. Constantini Pens. Gvardiani convent[us] Budensis» («Для канвента Будскага, пад тытулам Унебаўзяцця Святой Марыі, айцоў бэрнардынаў. Клопатам найправялебнейшага Канстанціна Пенса, гвардыяна канвента Будскага»).

У зборах Нацыянальнага гістарычнага музея захоўваюцца некалькі літургічных кніг з Будслава, якія выйшлі ў свет у часе гвардыянату Пенса і, магчыма, былі закупленыя паводле ягонага загаду. На жаль, мы не заўсёды можам гэта сцвярджаць напэўна, паколькі ў шэрагу выпадкаў фарзацы, авантытулы і тытульныя аркушы, на якіх найчасцей сустракаюцца будслаўскія ўладальніцкія надпісы, страчаныя або заклееныя, як, напрыклад, у выдадзеным у 1768 г. у Венецыі Псалтыры (НГМ РБ, КП 13632). На тытульнай старонцы гэтага стардруку правененцый няма, а фарзац у XIX ст. быў прадубляваны дадатковым аркушам паперы, і калі там меўся запіс, то ён аказаўся закрытым.

Відаць, падчас гвардыянату Пенса ў канвентуальнай бібліятэцы была ўведзена і адмысловая сістэма расстаноўкі кніг, паводле якой асобныя шафкі пазначаліся парадкавам нумарам, секцыі — чарговымі літарамі алфавіту (вялікімі і малымі), а кнігам прысвойваліся адмысловыя нумары. Прынамсі, прыкладна ў гэты час расстановачныя шыфры кніг пачалі запісвацца бібліятэкарам на фарзацах, напрыклад, «Col. 1. | Lit. Ł | N°. 17» на зборніку нядзельных казанняў Адама Абрамовіча, выдадзеным у 1753 г. у Вільні (НББ, 12РК28502). Тады ж ці крыху пазней быў уведзены звычай наклейваць на «спінку» кнігі цэтлік з яе загалоўкам ці расстановачным шыфрам.

Прынятая ў Будславе расстаноўка кніг адрознівалася ад сістэмы бібліятэчнай класіфікацыі, распаўсюджанай у іншых кляштарах Беларусі. Даследчыца гісторыі кляштарных бібліятэк на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай М. Підлыпчак-Маеровіч апісвае падобную класіфікацыю ў бэрнардынскай бібліятэцы ў Вільні[3]. Паколькі Будслаў доўгі час залежаў ад згаданага канвента, здаецца цалкам слушным, што ў ім была прынятая расстаноўка кніг, аналагічная віленскай.

Для пацвярджэння прыналежнасці кніг асноўнаму фонду бібліятэкі ў будслаўскім канвенце ўжываўся надпіс кшталту: «Ex Bibliotheca conventus Budensis Ord[inis] Min[orum] de Obs[ervantia]», нярэдка дапоўнены расстановачным шыфрам згодна з апісанай вышэй методыкай. Аднак малафарматныя кнігі з увагі на брак вольнага месца на тытульным аркушы звычайна пазначаліся скарочана: «PP[atrum] Bernardinor[um] Conv[entus] Buden[sis]».

Пасля сыходу К. Пенса ў развіцці канвентуальнай бібліятэкі, як і ў цэлым у жыцці будслаўскіх бэрнардынаў, пачынаецца перыяд стагнацыі. Улады канвента ўжо не надаюць так шмат увагі фармаванню кнігазбору: ён павялічваецца толькі за кошт дарункаў кніг бібліятэцы самімі законнікамі, як, напрыклад, падораным братам Янам Альшэўскім асобнікам полацкага выдання 1788 г. «De arte rhetorica» (НББ, 094/26897): «Hec[!] Rhetorica aplicat[a] | a Patre Ioan[no] Olszewski | Stud[ente]: Rethori[ces]: Anno | D[omi]ni 1807 ad Bibliotecam | C[onven]tus Budensi P.P[atrum]. ac FFr[atrum]: Bern[ar]d[inorum] | Ord[inis]: Min[orum]: S[ancti]. P[atri]. Francisci» («Гэтая рыторыка перададзена айцом Янам Альшэўскім, студэнтам духоўнае рыторыкі году Панскага 1807 у бібліятэку канвента Будскага Ордэну айцоў і братоў Бэрнардынаў Ордэну [Братоў] Меншых Святога Айца Францішка»).

Толькі ў 1830-я гг. будслаўскі кнігазбор раптоўна павялічыўся, але з сумнай прычыны: у выніку перадачы ў Будслаў бібліятэкі полацкага бэрнардынскага канвента, скасаванага ў 1832 г. пасля задушэння вядомага паўстання. Аднак гэтыя кнігі не выклікалі вялікага захаплення ў мясцовага бібліятэкара, які паленаваўся нават закрэсліць даўнія полацкія пазнакі і напісаць замест іх свае... А ў 1858 г. быў скасаваны ўжо і сам будслаўскі канвент, а ягоны касцёл ператвораны ў парафіяльны. Бібліятэку перанеслі ў святыню і змясцілі на другім паверсе над адной з сакрыстый, дзе яна і захоўвалася да 1939 г.[4]; потым кнігі былі перамешчаныя вышэй, у вежу, у якой рэшткі збору былі знойдзеныя праз 20 гадоў.

---

1 Sielicki, F. Region dołhinowsko-budsławsko-krzywicki na dawnej Wileńszczyźnie: kronika historyczna / Franciszek Sielicki. — Warszawa-Wrocław: Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1989. (Acta Universitatis Wratislaviensis, № 1102: Slavica Wratislaviensia, 52). S. 12–13.

2 Завальнюк, Ул. М. Будслаўскі касцёл – святыня Беларусі / гіст. апрац. ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. — Мінск: Тэхналогія, 1993. — С. 6.

3 Pidłypczak-Majerowicz, M. Biblioteki i bibliotekarstwo zakonne na wschodnich ziemiach Rzeczypospolitej w XVII–XVIII wieku / Maria Pidłypczak-Majerowicz. — Wrocław: Wydawnictwo Uniwersytetu Wrocławskiego, 1996. — S. 60.

4 Завальнюк, Ул. М. Будслаўскі касцёл — святыня Беларусі / гіст. апрац. ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. — Мінск: Тэхналогія, 1993. — С. 12.

Мары-Крыстын Расіён

# ХІЛЬДЭГАРДА БІНГЕНСКАЯ




На пачатку XII стагоддзя Германія перажывала неспакойныя часы. У абедзвюх руках яна трымала па мячы: з аднаго боку — меч імперыі, а з іншага — папства, прычым і імператар, і Папа меркавалі, што атрымалі сваю ўладу ад Бога. Адсюль вынікала іх супрацьстаянне, якое дасягнула найбольшага напружання ў спрэчцы аб інвестытуры. Інвестытура — цырымонія, у ходзе якой уладар перадае біскупу сімвалы ягонай улады: біскупскае жазло і пярсцёнак. [*У рэшце рэшт свецкая інвестытура была скасаваная, і права прызначаць біскупаў было замацаванае за Папам. — Заўв. пер.*] У гэткі няпросты час у 1098 г. у Бермшэйме ў Рэйландзе (сучасная Германія) нарадзілася Хільдэгарда Бінгенская.

Гэтая выдатная непаўторная жанчына была наватарам у многіх сферах: навуцы, медыцыне, музыцы, багаслоўі. Апроч гэтага, з самага юнацтва яна пачала бачыць духоўныя візіі. Можна сцвярджаць, што яна стала адным з першых фітатэрапеўтаў у сучасным разуменні гэтага слова, бо шырока выкарыстоўвала расліны з лекавымі мэтамі. У тыя часы пісьменнасць была даступная нешматлікім жанчынам і Хільдэгарду называлі *Рэйнскай Сібілай*. Няма сумнення, што па маштабе ўплыву на культурнае жыццё Германіі гэтую знакамітую жанчыну можна параўнаць з такімі асобамі, як Мейстэр Экхарт, Дзюрэр і Бетховен.

Хільдэгарда належала да вядомага роду землеўладальнікаў, яна была дзясятым дзіцем у сям'і. Калі дзяўчынцы споўнілася 8 гадоў, бацькі вырашылі прысвяціць яе Богу і аддалі ў кляштар як дзесяціну. Хільдэгарду даверылі апецы манашкі-пустэльніцы Юты фон Шпанхайм, чый скіт падпарадкоўваўся бэнэдыктынскаму мужчынскаму кляштару Дзізібодэнберга. Дзякуючы гэтаму распаўсюджанаму звычаю дзяўчаты маглі атрымліваць выхаванне ў духу статута святога Бэнэдыкта, вывучаць асновы Святога Пісання і богаслужэння.

Яшчэ амаль дзяўчынкаю, ва ўзросце 15–18 гадоў, Хільдэгарда з дазволу Юты дала манаскія абяцанні ў бэнэдыктынскім ордэне. Слабая і хваравітая, яна, на першы погляд, вяла звычайнае манаскае жыццё, але ўжо тады мела звыш духоўныя візіі, пра якія нікому, апроч Юты, не распавядала, а тая, у сваю чаргу, падзялілася гэтаю важнаю таямніцаю з манахам Вольмарам з Дзізібодэнберга, які пазней стаў сакратаром Хільдэгарды.

У 1136 г. Хільдэгарда была выбрана абатысаю свайго кляштара і займала гэтую пасаду да смерці ў 1179 годзе. З часу выбрання ёй давялося весці больш актыўнае жыццё, напоўненае вялікімі выпрабаваннямі.

У 1141 г. яна атрымала духоўнае ўказанне запісваць свае візіі і з дапамогаю Вольмара пачала пісаць «*Scrivas*», кнігу візій, але ніколі не пераставала сумнявацца, ці варта гэта рабіць. Хільдэгарда звярнулася па параду да Бэрнарда Клярвоскага і папы Яўгена III. Яны ўхвалілі гэтую справу, і Хільдэгарда працягвала запісваць візіі і свае разважанні пра іх.

Атрыманая з розных крыніцаў падтрымка дадала Хільдэгардзе смеласці падпарадкаваць жыццё духу сваіх візій і, як ні парадаксальна, дазволіла стаць больш адкрытаю для знешняй дзейнасці. Яна стала весці вялікую перапіску з Папам, многімі кардыналамі і біскупамі, імператарам і іншымі каралямі Еўропы; заснавала новы кляштар у Рупэрсбергу, дзе жыла з 1150 г., і яшчэ адзін кляштар у Эйбінгене, які рэгулярна наведвала. І дагэтуль у бэнэдыктынскім кляштары Эйбінгена не перарываецца манаская духоўная традыцыя і працягваецца малітоўнае жыццё.

Хільдэгарда здзейсніла мноства апостальскіх падарожжаў па Германіі, наведваючы кляштары і сустрэчы духавенства. Часам ёй нават даводзілася выступаць з публічным прапаведаваннем, падтрымліваючы тых, хто з дапамогаю рэформаў імкнуўся зма-

**Мары-Крыстын Расіён** — абатыса бэнэдыктынскага кляштара Найсвяцейшай Багародзіцы супакою ў Льежы (Бельгія). Нарадзілася ў 1937 г. у Брусэлі. Атрымаўшы дыплом выкладчыка пачатковай школы, у 1963 г. уступіла ў бэнэдыктынскі ордэн і стала дырэктарам пачатковай школы пры абацтве. У 1987 г. была выбраная на пасаду абатысы. З'яўляючыся чальцом Шэўтонскай групы, арганізаванай мужчынскім бэнэдыктынскім кляштарам Шэўтона з мэтаю паглыблення сувязяў з праваслаўем, двойчы наведвала Беларусь. Для адной з канферэнцый у 2005 г. быў падрыхтаваны рэферат, прысвечаны Хільдэгардзе Бінгенскай.



Ра́ка Хільдэгарды Бінгенскай у касцёле св. Хільдэгарды (Рудэсхайм-на-Рэйне).

гацца з бязладдзем у жыцці Касцёла. Яна энергічна далучалася да рэлігійных і палітычных спрэчак, якія выбухалі ў тыя часы. Усё гэта адбывалася паміж 52-м і 81-м гадамі жыцця манашкі. Гэта бачны бок незвычайнага жыцця Хільдэгарды, а яе ўнутранае жыццё было яшчэ больш насычаным, яе духоўны шлях стаў шляхам узрастання ў веры. Духоўныя візіі сталі выпрабаваннем манахіні і змушалі яе да няспыннага перадолення сябе.

Хільдэгарда, вымушаная пакінуць спакой кляштарных сценаў, у духоўным і літаральным сэнсе імкнецца да жыцця, якое б найбольш адпавядала евангельскаму ідэалу. Ёй даводзілася сутыкнуцца ў гэтым з інертнасцю розных установаў, коснасцю чыноўнікаў, часам яна коштам неймаверных высілкаў і пакутаў вяла сапраўдныя баі, больш нагадваючы старазапаветных прарокаў, а не манашку, якая атрымлівае нябесныя аб'яўленні. Напісаныя Хільдэгардаю творы, заснаваныя ёю кляштары, здзейсненыя падарожжы, прапаведніцтва сталі адказам на Божы заклік, які яна неадольна адчувала ў сабе і якому, прайшоўшы праз пакуты сумневаў, падпарадкавалася. Яе жыццё і творчасць злучаюцца ў адзінае сведчанне, пра якое бывае няпроста распавесці яшчэ і з той прычыны, што Хільдэгарда звярталася да сваіх паплечнікаў, айцоў і братоў у веры, у якіх яна мусіла б знаходзіць разуменне і падтрымку, але якія сваёю пасіўнасцю і цвердалобасцю часта пакідалі яе ў адзіноце.

Творчасць Хільдэгарды манументальная і па аб'ёме, і па шырыні закранутых тэмаў. Гэта і апісанні раслінаў і мінералаў, даследаванні па экзэгетыцы і агіяграфіі, богаслужбовыя паэтычныя тэксты і высокія містычныя аб'яўленні. Гэтая разнастайнасць не павінна хаваць ад нас сапраўднага глыбокага адзінства ўсёй творчай спадчыны Хільдэгарды, бо ўсе яе працы прасякнутыя імкненнем знайсці Бога, спазнаваць і сузіраць Яго, зразумець задуму Яго стварэння і збаўлення, каб пасля апяваць і ўзвялічваць Яго. Можна сказаць, што Хільдэгарда стварыла сапраўдную Боскую сімфонію. Яна, адна з найвыдатнейшых пісьменніц Сярэднявечча, называла сябе «пяром, якім водзіць Божае дыханне».

Літаратурная спадчына Хільдэгарды ўключае працы па прыродазнаўстве і медыцыне, лісты, каментары, агіяграфічныя тэксты, паэмы, апісанне візій.

Прыродазнаўчыя і медыцынскія творы выклікалі і дагэтуль выклікаюць захапленне і энтузіязм. Вялікая частка працы «Прычыны і лекаванне» прысвечаная разважанням у галіне касмалогіі і антрапалогіі, «Кніга таямніцаў прыроды, або фізікі» таксама ў большай ступені з'яўляюцца спробаю разгадаць задуму стварэння, чым зборам рэцэптаў. Тут можна правесці паралель творчасці Хільдэгарды з тым, што святы Максім Спаведнік гаварыў пра сузіранне *logoi* — сэнсаў ствара-нага свету. На думку Хільдэгарды, патаемны сэнс заключаецца ў гаючых і жыватворных для чалавека ўласцівасцях раслінаў, пладоў і жывёлаў. Кожны прыродны элемент мае свой лекавы або шкодны ўплыў, і працы маці абатысы вучаць адрозніваць іх. Каб адрозніць дзве гэтыя працы, першая традыцыйна называецца «Кнігаю простай медыцыны», а другая — «Кнігаю складанай медыцыны».

Сучасны чытач, звяртаючыся да розных раздзелаў прыродазнаўчых трактатаў Хільдэгарды, мусіць быць гатовым да нечаканасцяў. Перш за ўсё, трэба прыстасавацца да некаторых нязвыклых тэрмінаў, якія Хільдэгарда ўжывае не толькі для характарыстыкі тэмпераментаў людзей, але і для агульнай класіфікацыі «тэмпераментаў» раслінаў. Кожнаму элементу ўласцівыя пэўныя якасці: цёплы — халодны, сухі — вільготны, што вынікае яшчэ з вучэння Арыстоцеля. Да гэтага Хільдэгарда дадае арыгінальны тэрмін — «жыццескіраванасць», волю да жыцця, якая ёсць у расліннных сокаў. Яна часта ўжывае гэтую тэрміналогію, апісваючы расліны і характарызуючы любое жывое стварэнне. Гэтак жа нас здзівіць поўная адсутнасць лічбавых характарыстык, але ў гэтым не варта быць залішне патрабавальнымі, бо статыстыка ў Сярэднявеччы не была настолькі папулярнаю, як цяпер.

І наадварот, у многіх пытаннях сучасны чытач знойдзе поўнае ўзаемаразуменне з Хільдэгардаю. Напрыклад, у тым, што датычыць яе «міласэрнай» медыцыны, у якой яна імкнулася да раўнавагі, як і ў іншых аспек-

тах сваёй творчасці. Хільдэгарда ўважліва ўглядаецца ў чалавека, яго душэўны стан і цялесныя немачы, бо для яе першае не існуе асобна ад другога. Ёй уласцівае імкненне лячыць не столькі хваробу, колькі самога хворага; яна ўважлівая да паводзінаў чалавека, бо ў іх увасабляюцца ўнутраныя хваробы; яна ставіцца да прыгажосці і гармоніі як да неабходных умоваў раскрыцця чалавечай асобы — на гэтых прынцыпах будуецца светапогляд Хільдэгарды. На яе думку, здароўе — гэта натуральны стан чалавека, але грэхападзенне стала прычынаю яго руйнавання. Прырода — невычэрпная кладоўка элементаў, якія неабходна ўмець адрозніваць, быць уважлівымі да схаваных у ёй таямніцаў і, як вынік, сачыць за рэжымам харчавання, які дазваляе захаваць раўнавагу або нанова дасягнуць яе, калі яна страчаная. Рэжым харчавання ўключае пост, але не поўны, бо ў яго ўваходзяць булёны з гародніны, сокі з садавіны і разнастайныя адвары, якія дапамагаюць арганізму расслабіцца, здымаюць перанапружанне і спрыяюць супакаенню.

Чытаючы медыцынскія трактаты Хільдэгарды, мы адкрываем навакольны свет з нечаканага боку, і дзівіць тое, што гэта становіцца магчымым дзякуючы законніцы, жанчыне-містычцы, якая магла б задаволіцца поўным захаплення сузіраннем створанага свету.

Звернемся да лістоў, напісаных Хільдэгардаю. Яна вяла перапіску з людзьмі па ўсёй Еўропе, сярод яе карэспандэнтаў былі імператары, папы, святы Бэрнард Клярвоскі. У зборы яе эпісталярнай спадчыны, якая дайшла да нашых часоў, ёсць адказы гэтых вялікіх дзеячаў, і няма сумневаў у тым, што гэта сапраўдныя лісты. У знакамітай «Лацінскай патралогіі» Міня прыводзіцца іерархічная класіфікацыя лістоў, якія атрымлівала і адпраўляла Хільдэгарда. Агульная карціна такая: спачатку перапіска з папамі і біскупамі, пасля, што вельмі нехарактэрна для манашкі, перапіска з манархамі, пачынаючы з імператараў Германіі; далей ідзе карэспандэнцыя са свецкімі вяльможамі, напрыклад, з графам Фландрыі, з абатамі кляштараў, прэво, святарамі, звычайнымі манахамі і, нарэшце, з нетытулаванымі асобамі, звычайнымі людзьмі, якія прасілі яе парады або малітвы.

Першым манархам карэспандэнтам Хільдэгарды стаў імператар Конрад III. Ён пісаў, каб засведчыць Хільдэгардзе сваю пашану, бо быў вельмі начуты пра яе святасць і боганатхнёнасць яе жыцця.

Пазней з ліста новага імператара Фрыдрыха Барбаросы мы даведваемся, што па яго запрашэнні Хільдэгарда наведвала ягоны палац. Ён піша: «Паведамляем тваёй святасці, што адгэтуль у нашых руках тое, што ты прадказала нам, калі мы прасілі цябе паўстаць перад абліччам нашым». Цяжка ўявіць большы кантраст, чым паміж *paupercula femina* — беднай нікчэмнай жанчынай, *paupercula forma* — бедным, мізэрным стварэннем, пёркам, паслухмяным павевам ветру (гэта ўлюбёны вобраз Хільдэгарды, якім яна вызначала сябе), і бліскучым імператарам, імя якога ўвайшло не толькі ў гісторыю, але і ў народныя паданні.

У гэтых пышных дэкарацыях адбылася сустрэча імператара і маленькай, слабой, багатай на духоўнае жыццё манашкі. Хутчэй за ўсё, яна папярэдзіла імператара аб небяспецы, якая яму пагражала. З адказу Хільдэгарды бачна, што яе не бянтэжыць высокае становішча яе карэспандэнта. «Пёрка, паслухмянае павевам ветру», перадае яму словы, пачутыя, як гаворыць яна, ад Вярхоўнага Суддзі. Хільдэгарда заклікае яго ўтаймоўваць норавы духавенства, якое скочваецца ў нядбайнасць і духоўнае спусташэнне: «Пазбягай гэтага, кароль, будзь ваяром, узброеным рыцарам, які бясстрашна змагаецца з дэманам, каб не змарнаваць сябе, і каб тваё зямное валадарства ад гэтага не пакутавала. <…> Пакінь срэбралюбства і выберы стрыманасць, бо гэта сапраўды даспадобы Валадару валадароў. <…> Будзь жа такім, каб мець паўнату Божай ласкі».

Да Хільдэгарды звярталіся па параду і іншыя важныя палітычныя і касцёльныя дзеячы, напрыклад, Бэрнард Клярвоскі, самая ўплывовая духоўная асоба тых часоў, папы Яўген III, Анастазій IV, Адрыян IV і Аляксандр III. Практычна ўсе ўплывовыя людзі той эпохі, усе знакамітыя дзеячы Касцёла і дзяржавы перапісваліся з ёю.

У творчай спадчыне Хільдэгарды ёсць каментары да Евангелляў, Статуту святога Бэнэдыкта, Сімвалу Афанасія Вялікага, а таксама агіяграфічныя тэксты жыццяпісаў св. Рэпера і св. Дзізібода. Яна таксама пісала духоўныя паэмы, якія выконваліся на музыку, напісаную ёю самою. Паэтычна-музычная творчасць склалася ў містэрыю «Вянок цнотаў».

У эпоху развіцця мастацтваў і росквіту мыслярства духоўныя творы Хільдэгарды сталі вяршыняю яе творчасці, застаючыся неаддзельнымі ад яе касцёльнага служэння і абумоўленымі ім. Для свайго кляштара ў Рупертсбергу яна напісала 1 *Kyrie,* 8 секвенцый, 43 антыфоны, 18 рэспансорыяў. З 1151 г. да 1158 г. яна напісала зборнік музычных твораў для выканання падчас богаслужэння і іншых цырымоній. Яна назвала іх *Symphonies harmoniae celestium revelationum* («Гарманічныя сімфоніі нябесных аб'яўленняў»). Назва гаворыць аб тым, што гэтыя творы — плён Боскага натхнення, а музыка — самая ўзвышаная форма чалавечай дзейнасці. Самы арыгінальны музычны твор Хільдэгарды — Трынаццатая візія з *Scrivas*, нешта накшталт оперы ў сферы сакральнага мастацтва. Героі твора: персаніфікаваныя Цноты, цнатлівая Душа, якую імкнецца спакусіць д'ябал, Пакора і Міласэрнасць, якія абараняюць яе.

Для Хільдэгарды музыка была

вельмі важнаю часткаю жыцця, і асабліва — жыцця ў кляштары, дзе яна служыць моваю ўшанавання Бога. У лісце да духавенства Майнца яна пяе оду музыцы, апроч іншага кажучы: «Каб чалавек мог атрымліваць асалоду ад той радасці і таго праслаўлення Бога, якімі цешыўся да свайго ўпадку і памяць пра якія страціў у сваім выгнанні, каб натхніць чалавека шукаць іх, пракрокі па навучанні таго ж Духа, якога ўспрынялі, прыдумалі не толькі псальмы і гімны, якія спяваліся, каб тыя, хто слухае іх, узрасталі ў пабожнасці, але і вынайшлі розныя музычныя інструменты, дзякуючы якім здабывалі сонмы гукаў дзеля таго, каб і формамі, і якасцю саміх інструментаў, а таксама сэнсам словаў, якія яны чулі, якія паўтараліся ім, даводзіліся да іх розуму, уводзіліся ў звычку гэтымі сродкамі, яны маглі навучыцца ўнутрана. Таму тыя, хто быў разумны і старанны, услед за святымі пракрокамі самі вынайшлі некаторыя віды інструментаў, каб дзякуючы іх мастацтву можна было спяваць адпаведна з памкненнямі душы. І тое, што яны спявалі, дзякуючы злучэнню пальцаў і ўзмахам рук, тое яны засвоілі, узгадваючы Адама, створанага пальцам Божым, гэта значыць Святым Духам, у голасе якога кожны гук гармоніі і кожнае мастацтва музыкі да таго, як ён зграшыў, былі невымоўнаю асалодаю; так што, калі б ён застаўся ў першародным сваім стане, немач тленнага чалавека ніяк не магла б вынесці сілу і гучнасць яго голасу». Гэтыя разважанні пра спевы і музыку нагадваюць напісанае на гэтую тэму святым Васілём Вялікім («Размова аб першым псальме») і святым Грыгорыем Ніскім.

Нарэшце, найважнейшая і самая вядомая частка творчасці Хільдэгарды — гэта тры творы, у якіх апісваюцца яе візіі, і каментары да іх: «*Scrivas*», «Кніга вартасцяў жыцця» і «Кніга Боскіх справаў». «*Scrivas*» — незвычайная назва, якую можна перакласці як «*Спазнай шляхі*». Гэта першы прароцкі твор Хільдэгарды, які яна стварала на працягу дзесяці гадоў сумневаў, — заклік ісці за Богам ва ўлонні Касцёла, пры тым, што спазнаванне шляхоў — акт розуму і волі, якія вядзе спачатку да дзеяння, пасля — да сузірання, любові і шчасця.

Шэсць першых візій у першай частцы кнігі прадстаўляюць: Бога — Крыніцу ўсяго створанага, неспасцігальнае Святло, да якога чалавек можа наблізіцца не інакш як з бояззю і ў духоўным убостве; чалавека, яго грэхападзенне, яго месца ў свеце, які стаў да яго варожым, і выпрабаванні, якія ён мусіць знесці з Божаю дапамогаю; пасля ўзгадваецца Стары Запавет з праабразам і прадвеснікам Месіі і збаўлення; і ўрэшце — хоры анёлаў, якія дапамагаюць чалавеку адольваць яго шлях. Першая частка «*Scrivas*» прысвечаная адносінам Бога з Яго стварэннямі і асабліва з разумнаю часткаю бачнага створанага свету — з чалавекам.

Другая частка твора прысвечаная эканоміі Адкуплення. Тут Бог бліжэй да свайго стварэння: Хільдэгарда апавядае аб Тройцы і Уцелаўленні, апісвае Касцёл і некаторыя фундаментальныя часткі яго сутнасці (сакрамэнты): канфірмацыю, Эўхарыстыю і святарства. Агульная карціна завяршаецца візіяй спакусы: жудаснай пачвары, якая можа захапіць чалавека толькі тады, калі ён па добрай волі наблізіцца да яе. У цэлым гэтая частка прысвечаная збаўленню чалавека ў Касцёле.

У трэцяй частцы Хільдэгарда на канкрэтных вобразах паказвае, як адбываецца збаўленне ў чалавечай гісторыі (гэта нагадвае твор аднаго з першых айцоў Касцёла Ерма «Пастыр»). Будынак збаўлення ўзвышаецца на гары ў ззянні Божага трону і мае некалькі частак: там ёсць вежа прадвесніка Божай волі (абразання), калона слова Божага, галава, якая ўвасабляе баявую варту — вобраз Божага гневу, сцяна Старога Закону, калона чалавечай прыроды Збаўцы, фігуры цнотаў, вежа Касцёла. А краевугольным каменем усяго будынка з'яўляецца Сын Чалавечы. У трох апошніх раздзелах кнігі гаворыцца аб прышэсці Антыхрыста, уваскрасенні і Судзе, асуджэнні для адных і вечным шчасці для іншых, якія адпаведна з уласнымі папярэднімі заслугамі бясконца спяваюць хвалу справам рук Божых. Усё завяршаецца карцінаю супакою і шчасця, сімфоніяй славы і любові.

Немагчыма коратка цалкам аднавіць карціну дзіўнай візіянерскай моцы і незвычайнага багацця гэтага твора Хільдэгарды, які ўваходзіць у сферы дагматычнага і маральнага багаслоўя, выказваючы яе думкі па гэтых дысцыплінах.

Агульны агляд зместу не дазваляе паглыбіцца ў пераплятенне тэмаў, спыніцца на багацці вобразаў і ідэяў, якія маглі б стаць аб'ектам тэматычных даследаванняў. Увесь твор пранізвае тлумачэнне трынітарнай тэалогіі, якая натхніла Дантэ, і адначасова разгортваецца тлумачэнне пытанняў са сферы касмалогіі і антрапалогіі, якія заклікаюць пранікнуць у таямніцу стварэння свету. У разважаннях пра эканомію Адкуплення вялікае месца займае Стары Запавет. Тут дагматычнае багаслоўе пераплятаецца з маральным, якое прадстаўлена ў форме рэкамендацый і забаронаў, выкрыцця заганаў і перадусім праслаўлення цнотаў. У гэтым творы знаходзяцца і вельмі падрабязныя настаўленні аб сакрамэнтах. Апроч таго, Хільдэгарда не забываецца нагадаць пра абавязак пашаны да святароў, а сярод манаскіх ордэнаў асабліва выдзяляе бэнэдыктынскі. Можна адзначыць, што гэтае вучэнне, акрамя іншага, падаецца з дапамогаю прыпавесцяў, у якіх часцей можна распазнаць вобразы з баек Эзопа і трактатаў «Фізіёлага» (антычны зборнік артыкулаў, у якіх даецца апісанне жывёлаў, птушак, насякомых, мінералаў і пералік іх уласцівасцяў з сімвалічным тлумачэннем): казёл, алень, воўк, птушка і птушаня, а не евангельскія вобразы саду, гаспадара і слугі.

У цэлым, калі сыходзіць з таго,

што Хільдэгарда апісвае тут свае візіі, то галоўная яе мэта — навучанне. Вучэнне Хільдэгарды бярэ пачатак з трох крыніцаў: перш за ўсё, са Святога Пісання, пасля — з бэнэдыктынскага статуту і ўрэшце — з шырокага кола яе чытання. Хільдэгарда найчасцей не выкарыстоўвала цытатаў, але ў палатне яе апавядання бачныя шматлікія алюзіі на прачытанае, засвоенае настолькі глыбока, што яго цалкам можна лічыць інтэлектуальнай маёмасцю.

Усё гэта вызначаецца багаццем яе мовы, не простай, а велічнай і суровай, поўнай разгорнутых доўгіх рэплік, якія нясуць ашаломленага чытача ў сапраўдныя віры думкі. Такім чынам, фундаментальнасць вучэння Хільдэгарды змагла напоўніць твор такім духам устойлівасці і трываласці, што яго можна лічыць настольнаю кнігаю неспакойных часоў.

У тыя часы, калі Касцёлу было патрэбнае новае дыханне, прарочыца Хільдэгарда не дазваляла свайму чытачу блукаць сярод хімераў, а прыводзіла яго да сузірання шляхоў, якія вядуць да Бога, каб ведаць іх, ісці па іх і, апроч таго, праслаўляць. Велічны лірычны парыў праходзіць праз увесь твор, удыхаючы жыццё не толькі ў вобразы, але і ў непарыўны ход прозы, у якой выкарыстанне літургічных гімнаў ператвараецца ў сапраўдную малітву. Невыпадкова кніга завяршаецца сапраўдным сімфанічным фіналам — велічным парафразам 150-га псальма, які вянчае Псалтыр, заклікаючы ўсіх людзей праслаўляць Пана Бога гукамі арфы, голасам трубы, звонам цымбалаў, на струнах і флейце. Нельга не ўзгадаць, што святы Грыгорый з Нісы падобным чынам завяршае свой трактат «Аб напісанні псальмаў».

У Трынаццатай візіі Хільдэгарда, цытуючы некалькі вершаў 150-га псальма, піша: «Што азначае: вы, хто ведае Бога ў прастасці задумаў і чысціні пабожнай пашаны, пакланяйцеся Яму і любіце Яго. Хваліце Яго гукам трубы — гэта значыць, у духу розуму, бо анёл, які ўпаў, пацягнуў за сабою ўсіх, хто згадзіўся на пагібель, а сонмы шчаслівых духаў дзякуючы здароваму суджэнню засталіся трываць у праўдзе. Яны прыляпіліся да Бога ў вечнай любові. Хваліце Яго на арфе глыбокай пашаны і на гуслях, якія гучаць соладка, як мёд, бо гэтак жа, як за трубным гукам ідзе гук арфы, за песняй арфы ідзе песня гусляў, так і шчаслівыя анёлы, якія вытрывалі ў любові да Праўды, абудзілі ў створаным чалавеку прарокаў з дзівоснымі галасамі, тых, за кім прыйшлі Апосталы з найсаладзейшымі словамі. Хваліце Яго на цымбалах стрыманасці і ў радасным хоры, бо пасля гусляў уступаюць цымбалы, пасля цымбалаў радасна гучыць хор; гэтак жа і Апосталы, калі прапаведуюць словы збаўлення, прыводзяць пакутнікаў, якія на Божую славу аддаюць свае целы розным пакутам, пасля паставілі сярод сябе сапраўдных настаўнікаў святарства. Хваліце Яго на струнах чалвечага адкуплення і на струнах Боскага заступніцтва, бо ў радасным хоры голас струнаў выяўляе сябе сапраўды дасведчаным у служэнні, паказваючы неадменнасць шчасця; так выступілі святыя дзевы, якія палюбілі Божага Сына, сапраўднага Чалавека, быццам на струнах, і гэтак жа пакланяліся сапраўднаму Богу, бо яны пазналі Яго і паверылі ў Яго як у сапраўднага Чалавека і сапраўднага Бога. Што гэта азначае? Гэта азначае, што тады, калі Сын Божы ўцелавіўся дзеля збаўлення, Ён не страціў славу Божую. Таму святыя дзевы, выбраўшы Яго сваім жаніхом, сапраўднага Чалавека ў шлюбе і сапраўднага Бога ў чыстасці, узялі Яго ў вечнай пабожнасці. І далей: хваліце Яго на мілагучных цымбалах: гэта азначае такімі гукамі, якія ў сапраўднай радасці чыняць велічным і цудоўным гучанне музыкі, і тады людзі, ніцма распасцертыя ў глыбіні сваіх грахоў, натхнёныя Боскім натхненнем, імкнуцца да вышыняў, з непраглядных глыбіняў захапляюцца Небам. І хваліце Яго на цымбалах звонкіх: гэта азначае ў гуках Боскай хвалы, дзе непахісныя цноты бясстрашна перамагаюць і разбураюць у людзях заганы, ведучы іх у палкім жаданні да шчасця сапраўднай адплаты, у той час як яны не адступаюць ад дабра. Таму кожная душа, якая мае добры намер верыць у Бога і шанаваць Яго, хваліць Пана — Таго, Хто з'яўляецца Панам усяго, бо сапраўды ёсць; той, хто жадае жыцця, хваліць Таго, Хто сам ёсць жыццём.

І зноў пачула я голас, які падымаўся са ззяння вышыняў і казаў: "О ўсявышні Валадар, хвала Табе, Таму, хто змяшчае ўсё гэта ў чалавеку простым і невучоным". І зноў голас гучна заклікаў з нябёсаў, кажучы: "Слухайце і пачуйце ўсе тыя, хто жадае атрымаць адплату і шчасце"».

Вось як Хільдэгарда завяршае сваю Трынаццатую візію: «Хваліце, хваліце Бога, о благаслаўлёныя чэравы, ва ўсіх гэтых цудах, якія Бог стварыў у форме, недакладнай абрысамі, якая ўзвышаецца, і якую Ён загадзя бачыў у першым з'яўленні рабрыны таго чалавека, якога Бог вывеў з праху. Сапраўды, той, хто мае вуха, чулае да ўнутранага зместу, той, хто ў гарачай любові падобны да мяне, няхай адчуе жаданне гэтых словаў і напіша іх у свядомасці ўласнай душы. Амэн. Амэн».

Гэтак сабор напаўняецца сімфоніяй.

Завяршаючы гэты нарыс, занадта кароткі, каб апісаць жыццё і неймавернае багацце гэтай незвычайнай і бясконца прыцягальнай постаці, жанчыны, якую святы Бэрнард называў «*Mater et Magistra*», «Маці і Настаўніца», хачу працытаваць словы, якімі завяршаецца яе Дзясятая візія, і якія ва ўсёй паўнаце паказваюць яе разуменне чалавека: «Такім чынам, чалавек — вянец Божых цудаў».

*Пераклад з французскай мовы Алены Ціханавай.*



**Мар'ян ДУКСА** — паэт.
Нарадзіўся ў 1943 г.
у вёсцы Каракулічы на Мядзельшчыне.
Закончыў філалагічны факультэт БДУ.
Выдаў зборнікі вершаў
«Спатканне» (1967), «Крокі» (1972),
«Станцыя» (1974),
«Прыгаршчы суніц» (1976),
«Забытыя словы» (1979),
«Зона супраціўлення» (1982),
«Твая пара сяўбы» (1985),
«Заснежаныя ягады» (1989),
«Горн прымірэння» (1993),
«Валуны на пагорках» (1994),
«Прыйсці да алтара» (2003).
Лаўрэат Літаратурнай прэміі
імя А. Куляшова.
Жыве ў Солах, на Смаргоншчыне.

# Мар'ян Дукса

* * *

Шматлікія прымоўклі галасы,
людскія спрэчкі супыніла згода.
На сціплыя пагоркі і лясы
з нябёсаў апусцілася лагода.
І яблыня шыкоўна расцвіла
ад дотыку нябеснага спрыяння.
Любові непатушанай і зла
як быццам і няма супрацьстаяння.
Як скараціў святлісты поўдзень цень!
Заснуў далёкі землятрус шматбальны.
Нарэшце наш звычайны «добры дзень!»
гучыць як падарунак музыкальны.

* * *

Зацятае ты ўсё ж, сумленне.
Твая згрызота не заглухла.
Мяне зноў ставіш на калені,
раней хоць выплакацца мог я.
Перад касцёльнай спавядніцай
не раз сціскаўся ў ком нікчэмны.
А ўсё ж не змог абараніцца
ад успамінаў пад'ярэмных.
Душы ацiхлае азерца
бярэцца хвалямі заўсёды,
як памяць стукаецца ў сэрца
без папярэджання і згоды.
Не ведаў, што часіна прыйдзе,
каб пугай біць сябе драцянай…
Сумленне, я цябе пакрыўдзіў
парой затлумлена-няўцямнай.

* * *

Не беспрычынна, ды толькі захутка
у небыццё праваліўся мой хутар.
Дзе мае яблыні, грушы, таполі?
Чыстае поле.
Ну і куды вось маглі праваліцца
вокны і лаўкі, сталы і паліцы?
Мо ад самоты бязлюднага будня
высахла студня?
Пыл паўцякаў ад старых штукатурак.
Гэта ж куды павалокся падмурак?
След твой ну дзе, мая ранняя доля?
Чыстае поле.
Хоць ты пастаў замест ссунутых печак
некалькі свечак.

* * *

Над намі лунаюць парады-наказы.
І розумам мы ўжо ўвабралі дзяціным
такую жывую крылатую фразу:
«Не хлебам адзіным…»
Ужо пасталеўшы, за родным парогам,
над прывідным скарбам карпеем гадзіны…
Хоць помнім, што гэта абвешчана Богам:
«Не хлебам адзіным…»
Не хлебам адзіным жыві, чалавеча.
Ці поўную радасць прыносіць удача?
Як часта, прагнаўшы рашуча галечу,
начамі душа твая ціхенька плача.
Ах, колькі ў яе нечаканых надломаў!
Як хоча яна сваю высвеціць долю,
калі вырываецца з пышных харомаў,
каб раптам адчуць паднябесную волю,
дзе столькі з'яднанага з ветрам раздолля,
сюды прылятае, як быццам дадому.
Як часта, пакінуўшы веліч застолля,
яна адчувае страшэнную стому.
Як хочацца ёй памаркоціцца ціха,
як доўга самоціцца, ледзьве жывая.
Не раз і не два чалавечая пыха,
штурвал ухапіўшы, душу забывае.
«Не хлебам адзіным…» Святая парада
зноў ззяе ў спрадвечнай сваёй пазалоце.
Ах, як яна позна, вось гэтая праўда,
усведамляецца сэрцам і плоццю.

* * *

Хіба агонь пажарны
бывае добрым, родным?
Ён быў і ёсць пачварным,
бо ён заўжды галодны.
Не ціхім, цёплым нейкім —
бязлітасным і дзікім,
не хоча быць маленькім,
ён прагне быць вялікім.
Не надта лёгка сціхне,
ён мае шмат адвагі,
калі аднойчы ўспыхне —
клубок гарачай звягі.
Тушыце гнеў бязмерны
усмешкаю лагоднай.
Агонь — ён крыважэрны,
агонь заўжды галодны.

* * *

Майдан быў значна раней —
у часе імперыі Рымскай
кіпеў аж натоўп-ліхадзей
на плошчы Ерусалімскай.
Такое калісьці было —
нянавісць вірыла патопам,
калі стогалосае зло
вылазіла з нетраў натоўпу…
Натоўп, ты зусім не падрос.
Ты ёсць, як і быў, самазваны,
калі непадсудны Хрыстос
быў крыкам тваім лінчаваны…
Ерусалім ці Парыж,
святога не ведаеш страху.
Ты некага цягнеш на крыж,
кідаеш нявінных на плаху.
Ты ўсіх акунаеш у боль,
падкідваеш катам найгоршым —
ці гэта французскі кароль,
ці цар з яго хворым Алёшам.
Дарма спадзяешся на цуд —
што могуць твае небаракі?..
О плошчаў затлумленых люд,
ты сейбіт усё-ткі ніякі.
Ні тупат, ні крык і ні грук
штодзённасць аздобіць не ў стане.
А злосць, што грувасціш на брук, —
хіба яна коласам стане?

* * *

Цемра раскінула крылы,
зоркі заплавалі нізка!
І да сябе прытуліла
нас ты, зямная калыска.
Ветраны дзень адляцелы
стомы падкінуў задужа —
сном абгарні нашы целы,
закалышы нашы душы.
І супакою ласунак
дорыць нам ціша начная…
Божы ты ёсць падарунак,
наша калыска зямная.
Цяжка нам звычку парушыць —
смокчам начамі няўдачы…
Закалышы нашы душы,
каб не зайшліся ад плачу.

* * *

Эпоха прыйшла не мая.
Рулюе паўсюдна прагматык.
Учэпісты практык. А я
на ўзбочку — музейны рамантык.

Люляю, штодзень калышу,
як майскага бэзу галінку,
ціхмяную вельмі душу,
што танна каштуе на рынку.

Банкрутства як настае?
Яе ж не адняць, не адрэзаць.
І акцыі заўтра яе
уверх яшчэ, можа, палезуць?



**Аксана Спрынчан —** пісьменніца, дырэктарка Паэтычнага тэатра «Арт. С». Нарадзілася ў 1973 г. у горадзе Лунінец на Берасцейшчыне. Скончыла філфак БДУ, аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, Беларускі калегіум. Працавала ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя»; з 2006 г. — у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2005 г. Аўтар кніг паэзіі «Вершы ад А.» (2004), «ЖываЯ» (2008), «Нелінейнае» (2012), «Кава з украінскім мёдам/Кава з українским медом» (2017, пераклад на ўкраінскую мову Міколы Мартынюка), смс-п’ескі «Дарога і Шлях» (2009, з Алесем Анціпенкам) і інш. Вершы перакладзеныя на нарвежскую, рускую, саамі, сербскую, украінскую, французскую, шведскую мовы. Піша вершы і прозу для дзяцей. Мае спецыяльны прыз журы Міжнароднай прэміі «Садружнасць дэбютаў» «За філасофскую лірыку» (2008). Пераможца конкурсу «Літаратура — дзецям» (2009).

## Аксана Спрынчан

# НЕБА СЯГНУЦЬ

* * *

месца
майго нараджэння —
рай
некаторыя
называюць яго
райцэнтр
вядома ж
гэта цэнтральнае месца
на той і на гэтай зямлі
месца
дзе «ц» можа чаргавацца з «т»
бо мой рай — гэта места
(калі афіцыйна)
места —
якое насамрэч — мястэчка
(калі неафіцыйна-ласкава)
мястэчка —
якое таксама і вырай
бо ў яго прыляцела
каб нарадзіцца
і прылятаю
каб адраджацца
вырай
для якога прагнецца быць
лунніцай —
упрыгожаннем-месяцам
унутры якога — сонца
каб ахоўваць
рай, і райцэнтр
і мястэчка, і места
і месца выраю —
Лунінец

* * *

неба сягнуць
ды не стаць
небасягам
хатай застацца
дзе ў чырвоным куце
беларускі абраз
і ручнік
і здымкі на сцяне
яшчэ не фэйсбучныя
а побач кветкі красуюць
вяртаюць неба
дахаты

* * *

грушы з дзедавага саду
і яблыкі з мамінага саду
някрамнага выгляду
невядомых гатункаў
без ніякай хіміятэрапіі
і ніводнага продажу
ведама ж, райскія
асвечаныя
Крэўным Храмам
амаль паўстагоддзя
пад дрэвамі роднымі хаджу
і ні грушка, ні яблычак
не выцялі мяне
а толькі клічуць пакланіцца
да зямлі
а толькі ўздымаюць
у неба

* * *

Мой Бог жыве
Ў маёй Мове
у ёй ёсць усё для жыцця
нехта ў гэта верыць
хтосьці ідзе праз церні
каўчэг над ў нескладовым
не патанае пасля галосных
ён ратуе мяне ад патопу
разам з тымі,
хто сам адчувае,
а не проста за мной паўтарае:
— мой Бог жыве
Ў маёй Мове

* * *

Скрыжаванне са снежнем —
белым крыжам і чорным.
Скрыжаванне з самотай —
светлым крыжам і цёмным.
Скрыжаванне з Радзімай —
вечным крыжам і буднім.
Скрыжаванне з сабою —
белым крыжам і чорным,
светлым крыжам і цёмным,
вечным крыжам і буднім.
І зноўку ратуюць
Каляды...

* * *

у кожную шкарпэтку
якая ёсць у маёй хаце
я кладу падарунак
(не бывае
будзённых шкарпэтак
там, дзе святкуюць Каляды)
і сена, вартае
нараджэння Езуса
і карова,
што святочна стаіць у хляве
а ўлетку хадзіла на пашу
паўз бажніцу
і, пакуль гаспадар жагнаўся,
працягвала перажоўваць
вечнасць
да светлага свята...
Анёлак знойдзе ў шкарпэтцы
калядную зорку-кветку —
валошку,
малаком пачастуе ранак

* * *

над Свіслаччу вецер такі,
што зносіць
да ратушы белай
мы з ёй разлятаемся
стосам бялюткай паперы
і зноўку вяртаемся
ў сёння
дзе шмат што зжаўцела
чатыры бажніцы,
той самы вятрыска
і рыса надзеі
на роспач
накладзена вета
любоўю і верай

* * *

Любоў і Сафія
Святлана й Надзея —
прабабкі й бабулі мае
я іх не магла заспець маладымі
яны — пасталелай мяне
Любоў мяне мудрасці змалку вучыла
Надзея — прыносіць святло
Сафія казала:
«Не жыць без надзеі»
Святлана:
«Любоў ёсць усё»
і кожная з іх
мяне верай ахоўвае
ў людзей і жыццё
і кожная з іх
ува мне адзінотай
і пошукам долі сваёй
і пошукам долі маёй

* * *

Успамінаю цябе,
а ўспамінаецца верш,
вера твая ў мяне,
вярба над вадой замерзлаю...
Успамінаю верш,
а ўспамінаешся ты,
вера мая ў цябе,
галінка, зламаная ў Вербніцу.

* * *

мой верас
заквітнеў у ліпені
мая вера
квітнее заўсёдна
адначасна падобная
да майго верасу —
у ёй таксама знітаваныя
ліловы колер
надзеі
і мядовы водар
любові



Данута Бічэль

# Свіронак з майго шчаслівага маленства

Свіронак цёткі Яніны застаўся ў маёй памяці як дарагі майму сэрцу будынак. Крыжык быў на шчыце пад яго стрэшкаю, гарышча было падобным да мансарды ў багатых дамах, на вузкім балкончыку можна было забаўляцца, але туды не было драбінаў. Ды нам, малым, хапала прызбачкі…

Свіронак быў зрублены па ўсіх правілах лямуса — ніводнага металічнага цвічка, толькі драўляныя…

У дзяцінстве я працавала — пасвіла каровак і коней, дакладней, сваю кабылку і жарэбчыка, якога несвядома аб'ездзіла: захацелася мне на маладым жарэбчыку пакатацца, злавіла яго на лужку ў Перакопе за вобрудзь (у нас так называюць аброць), падвяла пад бераг Гаўі, каб было зручна залезці на спінку, ды і скокнула; ён трымаў, але брыкаўся… Паляцеў жарэбчык дадому, скінуў мяне на іржышчы перад нашай хатай і ўскочыў у адчынены хлеў. Мяне тата падняў і прынёс дахаты...

Свіронак стаяў на самай высокай горцы ў Масцішчах, вышэй нічога не было. І я думала, што дзед Юзук Пінчукоў быў вялікім майстрам, бо гэта быў яго свіронак. Гэта нейкае дзіва: як вясковы чалавек мог так пабудавацца, выбраць такое прыгожае месца для сядзібы!..

Калі людзей з Біскупцаў перасялялі на выселкі — за гасцінец, сярод іх былі бедныя і самыя бедныя. І самымі беднымі былі тыя, хто атрымаў зямлю за гасцінцам не збоку вёскі, а збоку лесу… Гэта — Яська з Марыляй,

---

**Данута Бічэль** — паэтка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1984). Нарадзілася ў вёсцы Біскупцы на Лідчыне. У 1962 г. закончыла Гродзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Аўтар кніг паэзіі «Дзявочае сэрца» (1960), «Нёман ідзе» (1964), «Запалянкі» (1967), «Доля» (1972), «Ты — гэта ты» (1976), «Браткі» (1979), «Дзе ходзяць басанож» (1983), «Загасцінец» (1985), «Даўняе сонца» (1987), «А на Палессі» (1990), «Божа, мой Божа» (1992), «Снапок» (1999), «На белых аблоках сноў» (2002), «Стакроткі ў вяночак Божай Маці» (2004), «Ойча наш...» (2008), «Іду сцяжынаю да Бога» (2012), а таксама кнігаў прозы «Хадзі на мой голас» (2008), «Мост святога Францішка» (2010), «Правінцыя святога Францішка» (2013), «Выбраныя творы» (2016), «Дайсці да Каложы» (2017). Жыве ў Гродне.

Рэняй і мною, Ігналь з Марыляй і трыма сынамі, і Пінчукі… Ужо ўсе памерлі, хто мог сказаць дакладна, чаму Юзук Міхаловіч меў мянушку Пінчук. Яго ўнучка Геня кажа, што нехта з жанчын у іх родзе быў з Пінска, але ці прабабуля, ці праправабабуля — Геня не ведае. У Юзука былі сыны — Бронюсь, Міхась і Янка. Янка скончыў у Лідзе каледж, уладкаваўся на працу, стварыў сям'ю ў вёсцы Навапрудцы каля Ліды, саромеўся сваёй беднай радні. Зямельны надзел Юзук падзяліў з Бронюсем. Юзук з Міхасём жылі адной сям'ёй, а ў Бронюся з жонкай Манькай, дачкой асадніка Кятлінскага, было пяцёра дзяцей. Абедзве сям'і пабудаваліся на горцы, паміж ляском за могілкамі і Масцішчамі, каля сенажаці — крыху асокаў, крыху мурагу. Сенажаць з аднаго боку канчалася горкай, якую таксама касілі, а мы з той горкі куляліся і качаліся; з другога боку Масцішчаў пачынаўся змешаны лясок аж да Гаўі...

За могілкамі, каля ручая, стаяла сядзіба старога асадніка Кятлінскага, ён займаў нейкую лясную пасаду. Зямлі ў яго было мала. А мы, малыя, лазілі па вадзе паміж кустоў па маліну, пані Кятлінская ганяла нас, ад бяссілля задзірала перад намі спадніцу… Сын Кятлінскага меў вялікі абшар зямлі за ручаём. Яго сям'ю саветы вывезлі «на Сібір», як усіх асаднікаў, а старога бацьку і дочкаў, якія павыходзілі замуж за бедных біскупскіх хлопцаў, не чапалі.

Бронюсь трапіў у армію Андэрса, але пасля вайны не вярнуўся ў вёску — памёр у Англіі. Пад старасць сустрэўся ў Варшаве з малодшай дачкой Марыяй, якая скончыла ў Львове фармацэўтычны факультэт і працавала ў Гародні загадчыцай аптэкі — лячыла ўсю вёску Біскупцы без дактароў. Цяпер яна адна з гэтай вялікай сям'і дажывае пры дачцы Гражыне, якая выйшла замуж у Польшчу.

Ручай канчаўся на нашай сенажаці. Крынічка прабівалася да ручая, і ўсё гэта пераліваліся ў агульны струмень і сплывала міма азярца ў Гаўю. Каля лясочку ў алешніку рос куст малінаў, сакаўных, вадзяных — я тую смакату і цяпер памятаю.

Пакуль я не пасвіла каровак, спала, колькі хацела. Мяне карміліі блінамі са смятанкай, бульбачкай з малаком, а часам якой-небудзь кашай і дазвалялі ісці да цёткі Яніны… Цётчын муж Міхась памёр у вайну: адзін недаростак запусціў у яго каменем і трапіў у цемя, два тыдні Міхась цярпеў моцны боль галавы і памёр, лекараў у вайну, ды і пасля вайны, у нас не было…

Не было ў вёсцы і ўлады, каб пакараць забойцу. Усе трымаліся такой думкі, што гэта быў дурны ўчынак хворага на галаву недаростка, але тата казаў, што паміж свіронкам і тым схронам, які выкапалі ў вайну, быў лаз, і гэты недаростак залез туды і выцягваў мяшок з жытам, а Міхась зачыніў злодзея ў свіронку, патрымаў яго некалькі содняў, а пасля адлупцаваў дзягай па голым азадку. Тата мой быў добрым і праўдзівым і сваіх жывёлак ён любіў гэтаксама, як нас. А Юзук абадраў скуру з нашага бурыка, тата такое не забыў...

Па ўсім полі ад нашай да цётчынай сядзібы была пратаптана сцяжынка. Спачатку яна пралягала праз жыта, пасля абыходзіла яму, дзе некалі капалі гліну, а як выкапалі, то на той зямлі раслі і морква, і буракі, і капуста, і гарох. Ніхто з дзяцей не зважаў, у чыім агародзе расце гарох — латашылі струкі, колькі хацелі…

Паміж нашым і Юзуковым полем быў вузкі ўзлесак, такі маленькі, як для дзяцінай гульні, і на ім раслі ўсялякія грыбы, ягады, цвіў верасок і бзумкалі пчолкі… Казка на паўдарозе да цёткі Яніны! Можна было падзюбаць якой-небудзь смакаты, а пасля ўжо бегчы напрасткі да таго свіронка, з прызбы якога быў відаць сусвет. Ён стаяў на самай горцы, за ім быў круты збег да азярца, на якім плавалі качкі і гускі, а перад ім бяліліся палотны. Падворак быў прасторны. З паўднёвага акна хаты таксама быў відаць наш Загасцінец (так, не па правілах граматыкі, мы яго называлі). Бліжэй да азярца на падворку галоўнае месца займала студня з жураўлём, недалёка ад яе рос куст белага бэзу і куст каліны, вясной у белым квеце, а з восені да вясны — чырвоны. А за плотам — пясчаная горка, дзе мы будавалі з жоўтага пяску замкі і ўмацаванні. Хіба мы тады маглі падумаць, што гэта будуць адзіныя ў нашым жыцці замкі? Паміж Юзуковай і Бронюсевай хатамі бегла сцяжынка па дзікім папары, на якім раслі шчытнік, адмежнік, сухавейкі, чабарок, дзятлінка.

Бацька і сыны мелі агульнае гумно пад ляском, які цягнуўся аж да гасцінца і да таго ручая, а яшчэ ў самым цэнтры сядзібы стаяў хлеў. Мяне, малую, здзіўляла тое, што Юзукоў хлеў быў большы і лепшы за нашу хату, усім яго насельнікам жыць было шыкоўна… Нядаўна Франя растлумачыла, што калі асаднікаў вывезлі ў Сібір, іх хаты заставаліся пустымі і тады Юзук перабудаваў сабе на хлеў пустую хату і перанёс свіронак…

Юзукова хата мела тры пакоі, вялікі, пасярэдзіне, быў кухняй, ад акна стаяў вялікі стол, у кутку — шырокі ложак. Цётка Яніна з Яняй жылі ў цеснай баковачцы з адным акенцам, якое выходзіла на хлеў, гумно, лес і Загасцінец.

Генін ложак стаяў у светлым пакоі, дзе спаў дзед Юзук. Юзукова дачка Маня хварэла на сухоты і памерла маладой, у сонечным пакоі застаўся яе партрэт у прыгожай рамцы і, відаць, засталіся сухоты, якія праз шмат гадоў перадаліся Гені. Юзукова жонка Марыля была маленькай, цярплівай і маўклівай, нібы яе зусім не было. Пра Марылю казалі: смех, як у Марылі з благога жыта…

Жыта на некаторых прагалах, дзе адзін пясочак, зусім не расло, але яго ўсё роўна сеялі, спадзеючыся на цуд, то Марыля глядзела на жыта і смяялася. Бо чаго там плакаць усё жыццё? І так неяк перабіваліся, Юзук шмат што ўмеў рабіць. Умеў вырабляць скуру, шыць боты, лячыць хваробы зёлкамі, дзікім мёдам, лавіць у сваім возеры рыбу, аднекуль нешта цягаць. Шчодрая зямелька сама падкідвала пад ногі неспадзяваныя падарункі.

Мы падрасталі на прасторнай прызбе свіронка пад прыгожым, з разьбянымі балясінкамі, падстрэшкам. Мы там у шчылінках мелі свае тайнічкі, у якіх складвалі лялек, каменьчыкі, арэшкі, розныя знаходкі з нашага шчодрага наваколля. Часамі цётка паіла нас сырадоем, а калі не паіла, то мы, занятыя гульнёй, не адчувалі голаду. І сунічкі, і чарнічкі, і брусніцы спелі адразу за свіронкам з паўднёвага боку — можна было наскубаць па жменьцы ды перакусіць. А пасярэдзіне ўсёй гэтай Паднябеснай рос разгалісты дуб, які быў нашым казачным дубам. І ў гумне мы скакалі на тарпах. І плюскаліся з мосціка на возеры...

Аднойчы гулялі на мосціку ў казку пра сынка Васілька, Бабу-Ягу і гусачак… Гусачкі плавалі на возеры непадалёку. Ніхто не заўважыў, як Яня звалілася з мосціка ў возера, — мы спалохаліся, што Яню ўкрала Баба-Яга… Але на ёй была сукеначка ў чырвоныя гарошкі, мы тыя гарошкі згледзелі ў вадзе і самі выцягнулі Яню. Але трэба было яе, мокрую, занесці дахаты...

Цётка Яніна мела швейную машынку і сама шыла сваім дзяўчаткам сукенкі. Геня ўспамінае, што да Першай Камуніі маці пашыла ёй з выбеленага палатна сукеначку, сумачку на абручы з арэшынкі і белыя тапачкі — Геня ва ўсім гэтым разам з дзяўчаткамі сыпала пялёсткі кветак наперадзе працэсіі. Маці добра падрыхтавала Геню да першай споведзі. Яна ведала катэхізіс лепей за тых дзяцей, якія доўга хадзілі вучыцца да катэхеткі. Калі прыехаў ксёндз і пачаў пытаць, Геня на ўсе пытанні ўмела адказваць.

...Палотны бяліліся ўсё лета. Здаецца, возера было не такое і чыстае, але жанчыны з Загасцінца прыносілі на тую кладачку сувоі, вымочвалі іх, пранікамі перылі і рассцілалі бяліцца. Мы не лазілі па палотнах. Чамусьці ніхто з маіх сёстраў так не захапляецца свіронкам, як я, але гэта Геня мне цяпер у размове ўспомніла пра той схрон, у які шмат хто лазіў, каб схавацца. А яшчэ ў іх быў склеп пад хатаю з лазам у бакоўцы, і Франін бацька Вінцук сядзеў у тым склепе некалькі дзён: хаваўся, каб яго не забралі немцы ў абоз. Сям’я трэцяга Юзуковага сына Янкі ўцякла ад вайны да Юзука, і неяк усім знайшлося месца ў той хаце.

Цётка Яніна жыла пры свёкры, ён не крыўдзіў яе і дапамагаў выхоўваць дзяўчынак. Ладзік Валіцкаў хацеў узяць нашу цётку замуж, але яна адмовілася. Неяк яна супакоілася малітвай. У цёткі Броні быў дзядзька Вінцук, у мамы быў тата Яська, а ў цёткі Яніны былі ўспаміны пра кароткае замужжа і былі ўсе мы… Мы любілі цётку Яніну, кожны па-свойму. Яна была Франінай хроснай маці, то Франя і называла яе мамай. Рэня з ёю дзялілася сваімі дзявочымі таямніцамі. Я любіла яе на адлегласці. Засталося ў маёй памяці, як выходзіць з лесу цётка Яніна са снапком ляснога зеллечка, і сонейка ўтварае німб з прамення над яе гладка прычасанай галоўкай; яна садзіцца каля мяне на дзяружку пад грушкай на гумнішчы, перабірае сціплыя кветкі і расказвае, ад чаго якая зёлка і як яе засушваць і запарваць...

На жаль, цётка Яніна захварэла на рак, прыехала ў Гродна на апраменьванне. Вельмі пакутна пераносіла лячэнне. Я наведвала, калі яе вызвалялі з той доўгай цемры, як магла, супакойвала яе. Пасля апраменьвання яна пражыла шэсць гадоў… Нарадзілася на Яна, 24 чэрвеня 1912 года, памерла ад інсульту 14 чэрвеня 1979 года, перад смерцю пакутавала дома шэсць тыдняў…

Лёсы яе дачушак Гені і Яні таксама балесныя. Геня скончыла толькі пачатковую школу, працавала на ферме даяркай. Старалася, выдойвала сваіх каровак, падкармлівала іх мукой. А іншыя даяркі толькі пысы каровам у муку папэцкаюць, то кароўкі малака даюць меней, таму што галодныя… Даяркі пачалі падліваць у малако ваду. Дзядзька Трунец з Пятроў вазіў малако на млячарню і сказаў загадчыку фермы, што даяркі здаюць разбаўленае вадой малако; іх падпільнавалі, калі яны падлівалі ваду… Яня Петрукова павесіла сякеру і сказала, што заб’е Геню за тое, што яна адна ваду не падлівала.

Геня рабіла кветкі з каляровай паперы, любіла прыбіраць крыж на скрыжалях дарог каля лесу. А тут захварэла, не магла дайсці да крыжа. Броня Жыбарава,

сваячка па дзеду, запрасіла Геню ў дружкі. Панесла Геня ў Ліду самагонку прадаваць, каб купіць туфлі. Ішла ранкам басанож праз балота, прастудзілася, стала ёй яшчэ горай. Вясковыя фельчаркі лячылі яе горкаю соллю. Дзед Юзук запрог кабылку і павёз яе ў Ліду, там зрабілі рэнтген і аналізы, знайшлі туберкулёз у лёгкіх і туберкулёзныя палачкі ў жываце. Паклалі ў туберкулёзную бальніцу на калідоры. Зрабілі аперацыю. Дзевяць разоў адкачвалі ваду і паддувалі лёгкія, бо ад адкачвання ўтвараліся раны ў лёгкіх. Праляжала восем месяцаў і чатыры месяцы прабыла ў санаторыі. Каб у вёсцы не абгаворвалі яе, пасля лячэння пайшла да Сашы ў Дакудава вучыцца на краўчыху. Там пазнаёмілася з Меткам, які прыйшоў з войска. Метак у маленстве перанёс менінгіт, і гэтая хвароба паўплывала на яго разумовае развіццё. Працаваў на трактары, шмат што ўмеў рабіць, але часам рабіў некантраляваныя ўчынкі — напрыклад, мог заехаць з трактарам у сажалку. Лішніх работнікаў у калгасе не было, і таму яго не звальнялі з працы. Вырашылі яны пераехаць у Ліду. Жылі на прыватнай кватэры ў тым жа доме, дзе жылі мы з Франяй, калі вучыліся ў педвучэльні. Гаспадыня дома Ядвіга памерла, а дом падаравала хлопцу Раману, які яе даглядаў да смерці — ён пахаваў пані Ядвігу і паставіў над яе магілай скульптуру Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Калі выязджаеце з Ліды ў бок Гародні, можаце глянуць — і ўбачыце на могілках Ясную Панну Марыю...

Бабуля Рамана была роднай сястрой Марылі, таму Геня з Меткам не плацілі за пакой. Туберкулёз вылечваўся, зноў пачынаўся, пераходзіў з адной часткі цела на другую... З 1974 года па 2004 год Геня лячылася ў Гродзенскай туберкулёзнай бальніцы. Метак лячыўся ў Астроўлі каля Ліды. Дзяцей у іх не было. У Метка пачалася дэпрэсія — ён ляжаў і чакаў смерці. Смерць прыйшла. Геня вярнулася ў Біскупцы да сястры Яні — адзінокім сёстрам лягчэй трымацца разам...

26 чэрвеня Гені споўнілася 80 гадоў. Зноў яе пакрыўдзілі: усім прыбавілі да пенсіі па 45 рублёў, а ёй толькі 11...

Магчыма, Янін лёс быў бы крыху лягчэйшым, каб не той свіронак…

Нехта няпрошаны пасяліўся там і пакрыўдзіў Яню, калі яна была падлеткам — гэта яе таямніца...

Памятаю, як мы яе апраналі і прычэсвалі на вечарынку. Яня жыла пры маці, яны перабраліся ў вёску, але пераставілі не сваю хату. Яня выйшла замуж за Паўлюка, хату перанеслі з Міхалаўкі, што пад балотам. Старэйшыя Паўлюковы браты мелі свае хаты: Юрка — у Бярозаўцы, Пеця — у Першамайскім. Свіронак перанеслі на новую сядзібу, паставілі за хлявамі на роўным месцы… І знікла яго значнасць.

Усё ў іх было б добра, каб Яня перайшла ў праваслаўе, а з ёю і цётка Яніна — дзве каталічкі раздражнялі Паўлюка. Урэшце, ён дапіўся да інфаркта, у яго адняўся правы бок, стала безуладнаю рука, ён цягнуў нагу і гаварыў так, што толькі Яня яго і разумела. Паўлюк памёр.

Неяк прыехаў з Воранава Казімір Місюра, рэстаўратар і разьбяр скульптураў Езуса, Маці Божай і святых у святынях Беларусі, убачыў фотку Яні і кажа: «Якая прыгожая дзяўчына, вобраз прыгажуні Сярэдневечча!»

Вось так: не радзіся красны, а радзіся шчасны...

Геня моліцца кожны дзень на ружанцы. Яна ўжо не даходзіць да хаціны, якую ксёндз з першамайскага касцёла святога Казіміра выбраў, каб у нядзелю цэлебраваць святую Імшу. Геня моліцца па радыё з касцёлам Святога Крыжа ў Варшаве — гэта традыцыя нашай вёскі пасля таго, як драўляны касцёл Перамянення Пана, які стаяў паміж рэчкай Гаўяй і каналам, спачатку зрабілі складам, пасля падпалілі, а святара адправілі ў высылку, адкуль дазволілі выехаць у Польшчу.

...Яня яшчэ лётае, як падбітая птушка, але на ровары ўжо не ездзіць у барок па баравікі ды па ягадкі — баляць калені. Ездзіла да хірурга, каб паставіў ёй «металічныя» калені, але ён яе пераканаў, што гэта надта балючая аперацыя. Найгорш, што няма каму пакасіць падворак — Яня касіць умее, ды ногі баляць.

Любоў не мінае. Любоў нас ратуе ад болю і смутку, асабліва ў старасці. Вобраз таго, каго любіш, вяртаецца ў сны, уваскрасае ў памяці, узвышае, узмацняе дух, нават калі той чалавек быў не самы лепшы на свеце.

Калі б свіронак цёткі Яніны стаяў на тым самым пагорку, схадзіла б туды і залезла б нават на яго паддашша, каб на імгненне ўбачыць сваё шчаслівае маленства. Зрэшты, я часта сню тое месца...

*Ліпень 2017 г.*

# «ПЕРАКАЖЫЦЕ ГЭТА ДАЛЕЙ»

*Пра новую кнігу вершаў кс. Яна Твардоўскага ў перакладзе на беларускую мову (Мінск, «Про Хрысто», 2018)*

Пакуль я чытала новую кнігу святара-паэта Яна Твардоўскага **«Powiedzcie to dalej. Перакажыце гэта далей»**, сама натхнілася на некалькі вершаў на хвалі лаканічнага і простага, адначасова крыху наіўнага і такога незвычайна глыбокага стылю даўно любімага намі аўтара, кнігі якога ўжо выходзілі ў перакладзе на беларускую мову. Справа ў тым, што як толькі разгортваеш новую кнігу пад чыста сіняю вокладкаю, якая аддае прывабным лагодным бляскам, і прабягаеш вачыма па яе радках, душа адразу адгукаецца моцным рэзанансам на адкрытыя паэтам пачуцці, на яго мудры роздум...




Кнігу не хочацца выпускаць з рук, пакуль не прачытаеш усе яе старонкі, верш за вершам на беларускай мове (у перакладзе паэткі і пісьменніцы Крыстыны Лялько) і паралельна на польскай — у арыгінале. Паўсотні вершаў, выбраныя для гэтай кнігі, «выкліканыя адносінамі з Богам і самымі рознымі станамі чалавечай душы: любоўю, адзінотаю, цярпеннем, роспаччу, тугою, страхам перад праміннаннем і смерцю, а таксама надзеяй», — напісала ў прадмове да кнігі Аляксандра Іваноўская. Аднак пасля інтымнай паэтычнай «размовы» з паэтам і акунання ў глыбіню яго перажыванняў і цярпенняў у душы запаноўвае невыказны Боскі спакой. Менавіта гэтак «спрацоўваюць» структура і стыль вершаў ксяндза Яна, бо ў многіх з іх ёсць адна важная асаблівасць: у творы аўтар шукае не самога сябе, не спосабаў выражэння сваіх эмацыйных станаў, а Бога… І знаходзіць…

Праз якія сродкі гэта найчасцей праяўляецца? Ксёндз Твардоўскі будуе свае мастацкія вобразы на кантрастах — не зусім на такіх, якія мы прызвычаіліся бачыць у хрысціянскім жыцці, бо ў яго няма рэзкага супрацьпастаўлення белага і чорнага, святога і грэшнага, нябеснага і пякельнага, як гэтага можна было б чакаць ад святара-паэта. У ксяндза Яна ёсць жывы, слабы, часам разгублены, чымсьці ўражаны або захоплены лірычны герой. Ён глядзіць у вочы сваёй адзіноце, сваёй роспачы і нават размаўляе з імі як з жывымі істотамі, нібы спрабуючы знайсці паразуменне («Ода роспачы», «Прыйшла»); у самых крайніх сітуацыях ён разбурае пэўныя рэлігійныя стэрэатыпы і ў іх аскепках знаходзіць сэрца жывой веры («Просьба», «Малітва», «Тэорыі»). Акрамя таго, ксёндз Твардоўскі нярэдка глядзіць на жыццё з пэўнай далёкай перспектывы: праз прызму ўспаміну, часу і нават цэлай вечнасці («Рахунак для дарослага», «Не магу трапіць», «Каля дома», «Перакажыце гэта далей»). У безнадзейнасць ён удыхвае надзею, у бязвер'і бачыць пачатак веры і нават калі не спрабуе знайсці для сябе або чытача суцяшэнне і сэнс у цярпенні, усё роўна супакойвае сваім уменнем убачыць праблему ў адпаведным, Боскім, святле, калі звяртаецца да Пана ў паэтычным слове: «*Напэўна засмучаюць Цябе людзі // якія быццам катэхізіс // на кожнае пытанне // абавязкова павінны знайсці адказ*».

У размове з чытачом Ян Твардоўскі захапляе сваім шчырым гумарам і глыбокім айцоўствам. Як мудры бацька мае да кожнага дзіцяці індывідуальны падыход, так і аўтар кнігі пазбягае пафаснага рэлігійнага фундаменталізму, універсалізму і да кожнага чытача — у пэўным сэнсе свайго

духоўнага дзіцяці, — адрасуе верш, які закране цябе ў самую патрэбную хвіліну і за самую нацягнутую струну душы… У вялікай ступені гэта дасягаецца дзякуючы ўвазе да дэталяў: ксёндз Ян умее падкрэсліць іх важнасць, адметнасць, праўдзівасць, хоць часам і не валодаюць яны пэўнымі рысамі «правільнасці» і прызнанай «прыгажосці». Напрыклад, лёгка захапляцца чароўнымі барокавымі анёлкамі і вышыванымі сурвэткамі, але да шчырай малітвы чамусьці натхняе «*Панна Святая намаляваная ў сшытку дзіцячай рукою*»; Пан Езус, паказаны на крыжы з рукамі, «*наўмысна задоўгімі*», «*ранамі глыбейшымі і завялікімі нагамі*», таму Ян Твардоўскі прагне, каб не было ў касцёле «*святых непадобных да сябе саміх*» і «*прывабнага з гладкаю фрызураю Пана Езуса толькі для прыстойных людзей*» («Кажуць», «Просьба»).

*Езу Журботны*
*наперакор усім*
*без парасона пад дажджом*
*з голымі каленьмі*
*слабы бо бесстаронні*
*нясмелы як паэт-дэбютант*
*з просьбаю быць працейшымі*
*адзінокі бо зроднены*
*са светам…*

Працытаваныя радкі з верша «Малітва», як і многія іншыя строфы ксяндза Яна Твардоўскага, нібы разбураюць у душы традыцыйны вобраз Бога-наглядчыка і каральніка. На змену гэтаму ўяўленню пра далёкага і суровага Суддзю прыходзіць простая і шчырая любоў, з якой і нараджаецца непарыўная інтымная сувязь з сапраўдным Нябесным Айцом, бо Ян Твардоўскі падобнымі вобразамі нязмушана адкрывае нашыя балючыя раны і пускае ў іх Бога…

Вяртаючыся да цытаты, звернем асаблівую ўвагу на яе перадапошні радок. Просьба «быць працейшымі», наўпрост ці ўскосна ўплеценая амаль у кожны верш Яна Твардоўскага, становіцца выразнаю асаблівасцю яго стылю і яго творчых пошукаў. Бог, «*у тэалагічных вучэльнях разгляданы // дацэнтамі пілаваны // вернікам на доказы разабраны*», насамрэч дазваляе сябе знайсці ў самых простых рэчах, у наіўных слязах, гіяцынце і нават у любаванні палявым конікам («Прыватныя ўрокі», «Малая літанія», «Тэорыі»). Любоў і вера, як сцвярджае Ян Твардоўскі, не знойдуць апоры ў мудрагелістых тэорыях і трактатах — яны ўмацоўваюцца «ўпоцемку», у нашай слабасці і бяссіллі…

Менавіта гэтага мы больш за ўсё баімся ў жыцці, але ксёндз Ян Твардоўскі наўмысна глядзіць у вочы сваім — і адначасова нашым — страхам. Як пярлінку з ракавіны, «дастае» ён пацеркі балючага і каштоўнага досведу са сваёй бездапаможнасці. Аднак лірычны герой не стогне над сваім лёсам, як праведны мучанік, а проста адкрывае хараство там, дзе ўсе бачаць страшыдла:

*Бедная роспач*
*прыстойнае страшыдла*
*даймаюць цябе тут без меры*
*маралісты падстаўляюць*
*падножкі*
*штурхаюць аскеты*
*дактары лекі прапісваюць*
*каб цябе пазбыцца*
*грахом цябе называюць…*

Незвычайныя гэта, нават незямныя справы — перастаць зацыклівацца на цяжары свайго цярпення і болю, а пачаць шукаць у іх сэнс і глыбіню… Аднак, па словах Яна Твардоўскага з працытаванага вышэй верша «Ода роспачы», без гэтага жыццё — як «*мастацтва без чалавека*». Таму ў паэта вельмі часта некаторыя вобразы і жыццёвыя з'явы тояць у сабе дваісты сэнс, часам нават супярэчлівы: «*распалавіненая радасць*», «*шчасце што раптам раздзерлася пасярodку*», «*маўчанне падчас размовы*», «*блізкія што потым здаюцца чужымі*». І, нібы падагульняючы ўсе свае папярэднія паэтычныя развагі, у апошнім вершы кнігі «Лек» ксёндз Ян мудра ўздыхае:

*не перажывай*
*бяссэнсіца таксама лечыць*

Важна тое, што перакладчыца Крыстына Лялько захавала моўна-стылёвыя асаблівасці вершаў кс. Яна Твардоўскага, перадала іх спакойна-медытатыўную рытміку, інтанацыйна падкрэсліла важныя сэнсавыя элементы і — відавочна — пачуццёва адгукнулася на кожны радок святара, палюбіла яго вершы і ўжо не ўпершыню змагла перадаць гэтую любоў чытачу. Таму пасля прачытання кнігі адразу ж хочацца зрабіць тое, да чаго аўтар заклікае на самой вокладцы: «Перакажыце гэта далей». Бо натхненне нараджае натхненне, шчырасць выклікае шчырасць, а любоў нараджае любоў…

*Ганна Шаўчэнка*

**Ганна ШАЎЧЭНКА** — супрацоўніца выдавецтва «*Pro Christo*». Закончыла філфак БДУ (2007), магістратуру і аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Займаецца даследаваннем польскамоўнай літаратуры Беларусі XIX стагоддзя. Аўтар паэтычнай кнігі «Запаветная жменька» (2007), зборніка вершаў для дзяцей «Пане, будзь заўжды са мной!» (2010), манаграфіі «Паэзія Антона Гарэцкага і станаўленне рамантычнай паэзіі ў літаратуры Беларусі XIX ст.» (2015).



# СЛОВА ЎДЗЯЧНАСЦІ

28 мая на 84-м годзе жыцця адышоў у вечнасць Арсень Ліс — выдатны навуковец-фальклярыст, літаратар, доктар філалагічных навук, сапраўдны беларускі інтэлігент, шляхетны прыгожы чалавек і аддданы, удумлівы чытач «Нашай веры», мудры дарадца і сябра.

Пакуль нават немагчыма ўявіць, што неўзабаве выйдзе вось гэты, новы нумар квартальніка, а я ўжо не змагу перадаць яго Арсеню Сяргеевічу, каб пасля, праз пару дзён, пачуць у тэлефоне яго такі знаёмы ціхі голас. Ён заўсёды званіў, каб падзякаваць за часопіс, каб падзяліцца ўражаннямі ад прачытанага. Якімі ж чаканымі і важнымі былі для мяне тыя няспешныя, шчырыя размовы з ім, колькі было ў іх ягонай зычлівай сардэчнасці і павагі да нашай працы. І ў гэтым таксама праяўлялася і яго шляхетнасць, і яго людскасць, і яго нязменная жывая зацікаўленасць усім тым, што рабілася і стваралася на роднай мове, што адбывалася ў нашай беларускай прасторы.

Апошнія гады ён прасіў прыносіць таксама новыя нумары часопіса «Ave Maria» і казаў, што яму цікава іх чытаць, распытваў пра нашых маладых аўтараў і супрацоўнікаў, радаваўся, што з'яўляецца ўсё больш беларускіх святароў, якія цікава пішуць і добра валодаюць родным словам. Ён бачыў у гэтым годны працяг каталіцкай духоўнай традыцыі, запачаткаванай ахвярнымі беларускімі святарамі-адраджэнцамі Адамам Станкевічам, Казімірам Сваяком, Вінцуком Адважным…

Мы былі суседзямі з Арсенем Сяргеевічам і больш за 20 гадоў пражылі ў адным мікрараёне, у маляўнічай мінскай Вяснянцы. Часам Арсень Сяргеевіч запрашаў мяне на нядзельныя адвячоркавыя праходкі ўздоўж Свіслачы. Побач з ім добра ішлося. Пры ім, здавалася, аціхалі ўсе душэўныя буры і супакойваліся, кудысьці знікалі ўсе дробныя жыццёвыя мітрэнгі. Ён умеў скіраваць размову на важнае і значнае; заўсёды мудра, спакойна разважаў пра сённяшні дзень краіны, з аптымізмам і вераю глядзеў у будучыню. Не было

ніводнай сустрэчы з ім, каб ён не згадаў пра кагосьці з тых, каго называў у сваіх кнігах «дойлідамі беларускай дзяржаўнасці» і «галасамі беларускай зямлі»: пра віленскіх беларусаў Пётру Сергіевіча і Зоську Верас, пра «вечнага вандроўніка» Язэпа Драздовіча, пра сваіх родзічаў «жывапісца залескіх ваколіц» Паўла Южыка і паэта Алеся Салагуба…

З тых праходак я заўсёды вярталася не толькі шчодра адораная і ўзбагачаная новаю інфармацыяй і невядомымі мне раней фактамі, асабліва з жыцця і гісторыі Заходняй Беларусі, але і напоўненая светлаю радасцю ад душэўнага, шчырага сумоўя з гэтым глыбокім, энцыклапедычна адукаваным чалавекам.



Арсень Ліс і Алесь Траяноўскі.
Фота пач. 1960-х гг.
З архіва Ул. Ягоўдзіка.

Арсень Сяргеевіч часта ўспамінаў родную Смаргоншчыну, вёскі Ветхава і Залессе, распавядаў пра маці, якая прыгожа спявала і «ўсе свае даўнейшыя песні гадавога круга пераняла ад бабы Агаты», а тая «спявала іх нават у свой апошні зямны год…». Напэўна ад тых песень і ўзнікла ў яго душы любоў да народнага меласу, захапленне каляндарнаабрадаваю народнаю творчасцю, якую Арсень Ліс рупліва збіраў, класіфікаваў і апісаў яе ў выдатнай грунтоўнай працы «Паэзія земляробчага календара».

Гэтая паэзія і глыбокая пашана былі і ў ягоных згадках пра свой род, пра сям'ю. Ён любіў успамінаць матчынага бацьку, дзеда Юстына — выдатнага пчаляра і сталяра, сваіх дзядзькоў з іх няпростымі, драматычнымі лёсамі, асабліва дзядзьку Васіля, пра якога напісаў у адным з «Вётхаўскіх эсэ» — «Наканаванасць несвабоды». Апошнія гады Арсень Сяргеевіч пісаў мемуары. Іх фрагменты друкаваў у «Новым часе», частку паспеў выдаць у кнігазбораўскім томе. Падчас нашых апошніх размоваў шкадаваў, што не паспее іх дапісаць, закончыць…

Ён любіў паэзію, ведаў на памяць шмат вершаў. Часам, прыпыніўшы хаду, пачынаў цытаваць што-небудзь з беларускай, украінскай або рускай класікі…

А мне цяпер, у гэтыя скрушныя дні нашага з ім развітання, згадваюцца яго ўласныя вершы — «вершы адной маладосці», якія тры гады таму Арсень Сяргеевіч прынёс пачытаць, а пасля дазволіў надрукаваць у часопісе «Наша вера». У адным з іх 20-гадовы юнак пісаў:

*Я ж прад радзімай,*
*Зямлёй маёй роднай —*
*Вечна ў даўгу:*
*Выснаваць песню,*
*Імя яе годнай,*
*Усё не магу.*

Праз усё сваё жыццё ён снаваў гэтую песню і выснаваў — глыбокую, годную, прыгожую, гэткую, як яго светлая, далікатная, улюбёная ва ўсё роднае і па-сапраўднаму хрысціянская душа. Таму назаўсёды застанецца ён, руплівы дойлід беларускасці, у нашай удзячнай памяці і ў нацыянальным пантэоне лепшых сыноў Айчыны.

*Крыстына Лялько*



Арсень Ліс з мастаком Пётрам Сергіевічам, беларускімі літаратарамі і навукоўцамі.
З архіва Ул. Ягоўдзіка.



Уладзімір Васілевіч

# З КАГОРТЫ ПАЧЫНАЛЬНІКАЎ

Сёлета спаўняецца 150 гадоў як завяршыўся зямны шлях Канстанціна Тышкевіча — слаўнага беларускага вучонага, які разам са сваім братам Яўстахам стаяў ля вытокаў айчыннай гісторыі, археалогіі, краязнаўства, этнаграфіі, фальклярыстыкі. Абодва разам закладалі асновы музейнай справы ў нашым краі. Абодва ўжо пры жыцці займелі высокі аўтарытэт у навуковых колах, стаўшы абранымі ў розных еўрапейскіх краінах ганаровымі сябрамі нацыянальных Акадэмій навук. Прызнанне навуковых дасягненняў Канстанціна і Яўстаха з гадамі не толькі не страцілася, а наадварот — чым далей ідзе час, тым усё большую значнасць яно набывае. Браты Тышкевічы не забытыя і сёння, іх імёны нярэдка згадваюцца ўдзячнымі нашчадкамі на Беларусі і ў суседніх краінах на навуковых канферэнцыях, у музейных экспазіцыях, у турыстычных вандроўках… Але ў адным мы ўсё ж засталіся безуважнымі да волатаў нашай навукі: іх найбагацейшая творчая спадчына да нядаўняга часу заставалася цяжкадаступнаю, бо амаль нічога з яе не было ў нас перавыдадзена, перакладзена. І гэта пры тым, што многае з напісанага братамі Тышкевічамі нікольki не страціла сваёй каштоўнасці.

Канстанцін-Бэнэдыкт Тышкевіч нарадзіўся ў Лагойску, родавым маёнтку Тышкевічаў, 5 (17) лютага 1806 года ў сям'і буйнога землеўласніка, барысаўскага павятовага маршалка графа Пія Тышкевіча і графіні Аўгусты-Марыі Плятэр. Як сведчаць гісторыкі, і бацька, і адукаваная, набожная маці, аказвалі на выхаванне дзяцей вельмі вялікі ўплыў. Менавіта ад іх Канстанцін пераняў не толькі шырокія веды, але і такія рысы характару, як лагоднасць у абыходжанні з людзьмі і непахісную сумленнасць. Пачатковую адукацыю ён атрымаў дома, пад наглядам маці і пад кіраўніцтвам хатняга настаўніка. Потым хлопчыка аддалі ў езуіцкую школу ў Полацку, дзе ён навучаўся ажно да самога закрыцця калегіі езуітаў, а пасля яшчэ год спасцігаў навукі ў школе ксяндзоў дамініканаў у Забеллі Віцебскай губерні. Пераехаўшы ў Вільню, Канстанцін завяршыў там гімназічныя дысцыпліны і ў 1823 г. паступіў на аддзяленне права Віленскага ўніверсітэта, у якім тады яшчэ не заціхла рэха вальнадумства. Там пад кіраўніцтвам прафесараў юрыспрудэнцыі, палітэканоміі, гісторыі ён набываў вышэйшую адукацыю і ў 1828 г. скончыў універсітэт. Славутая *alma mater* забяспечыла здольнага юнака адукацыяй высокага еўрапейскага ўзроўню, што дазволіла яму атрымаць месца службоўца ў канцылярыі міністра фінансаў Каралеўства Польскага ў Варшаве, дзе ён праслужыў некалькі гадоў, да пачатку Лістападаўскага паўстання, што, найхутчэй, прымусіла яго завяршыць службовыя абавязкі і вярнуцца ў 1831 г. у Лагойск. Тут ён цалкам прысвяціў сябе асабістаму жыццю, напоўненаму грамадскімі, навуковымі і культурнымі інтарэсамі. У 1836 г. яго жонкаю стала Паўліна Цеханавецкая, якая нарадзіла шчасліваму Канстанціну сына Оскара і дачку Марыю.

Жывучы да канца жыцця ў Лагойску, Канстанцін Тышкевіч усклаў на свае плечы ўсе турботы па кіраванні гаспадарчымі

---

**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ** — фалькларыст, этнограф, перакладчык. Нарадзіўся ў 1952 годзе. Жыве ў Мінску. Закончыў філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Кандыдат філалагічных навук. Выкладаў у БДПУ імя М. Танка. Аўтар кніг па вуснай народнай паэзіі, міфалогіі, этнаграфіі: «Пахаванні. Памінкі. Галашэнні» (1886), «Збіральнікі» (1991), «Беларускі народны каляндар» (1993), «Міфы Бацькаўшчыны» (1994), «Беларуская міфалогія» (2001, 2002), «Чароўны свет» (2008, 2010, на англ. мове — 2012), трохтомніка народных прыкмет і павер'яў «Зямля стаіць пасярод свету...» (1996, 2010), «Жыцця адвечны лад» (1998, 2010), «Зямная дарога у вырай» (1999, 2010) і інш. Пераклаў з польскай мовы кнігі Я. Корчака «Кароль Мацюсь на бязлюдным востраве» (1982, 1998, 2012), разам з Л. Салавей — Ч. Пяткевіча «Рэчыцкае Палессе» (2004), «Грамадская культура Рэчыцкага Палесся» (2015) і інш.

справамі. Графская сядзіба была разбудавана вельмі прадумана, з улікам усяго неабходнага для жыцця. У Лагойску Канстанцін Тышкевіч заснаваў крэдытны банк для мяшчанаў і сялянаў, у якім тыя пры пэўных умовах маглі браць пазыкі; адкрыў цукровы і цагляны заводы; майстэрню па пераплаўцы мясцовай жалезнай руды на жалеза для вырабу разнастайных земляробчых прыладаў, якія раней за вялікі кошт прывозілі з-за мяжы; мануфактуру па вытворчасці льняных і баваўняных тканінаў, на якой праз некаторы час мясцовыя і запрошаныя з Германіі майстры штогод выраблялі каля мільёна локцяў грубых палотнаў і танчэйшага паркалю. Такім чынам, дзякуючы К. Тышкевічу ў гэты адгароджаны ад цывілізаванага свету лясамі і балотамі край пранікаў эканамічны прагрэс. Засвоеныя ў Віленскім універсітэце навукі і вопыт працы, набыты ў фінансавай сферы, спатрэбіліся К. Тышкевічу ў яго гаспадарчай дзейнасці на радзіме. Выдатна наладжаныя справы ў земляробстве Лагойскага графства, якія вяліся з улікам навейшых еўрапейскіх дасягненняў, а таксама шырока разгорнутая, перадавая на той час прамысловасць зрабілі маладога графа за кароткі тэрмін паспяховым прадпрымальнікам. Салідныя прыбыткі дазвалялі яму быць вольным у ажыццяўленні ўласных жаданняў, і ён выкарыстоўваў іх на карысць сваіх даволі затратных інтарэсаў.

Канстанцін ніколі не абмяжоўваўся гаспадарчымі клопатамі: маючы перад сабою жывы прыклад бацькі, ён не мог не пераняць ад яго любові да мастацтваў, да навукаў; не мог не праяўляць шчырай зацікаўленасці да сівой даўніны, асабліва той,



POMNIKI

RYTOWNICTWA KRAJOWEGO.

ODDZIAŁ I.

ODCISKI Z BLACH [illegible], ZNAJDUJĄCYCH SIĘ W BIBLIJOTECE ŁOHOJSKIEJ KONSTANTEGO HRABI TYSZKIEWICZA.

[illegible] NAKŁADEM ICH WŁAŚCICIELA.

WILNO.

DRUKIEM A. MARCINOWSKIEGO.

1858.

якою было напоўнена наваколле спадчынных земляў Тышкевічаў. І ў гэтым ён не быў адзінокі: тыя ж закладзеныя бацькам інтарэсы з юначых гадоў захапілі і малодшага брата Яўстаха, які ў будучыні вырас у вядомага этнографа, археолага, асветніка, культурнага дзеяча. Сучаснікі, якім давялося быць знаёмымі з братамі ў гады іх творчай актыўнасці, адзначалі ў іх падыходзе да працы і падабенства, і адметнасць кожнага: Канстанцін вызначаўся палымянасцю творчага парыву, спалучанай з дапытлівай разважлівасцю, а Яўстах меў характар больш стрыманы, але не менш настойлівы і мэтанакіраваны. Без усялякіх сумненняў можна сцвярджаць, што пакінутая гэтымі сапраўднымі вучонымі спадчына — нацыянальны скарб Беларусі.

Распаўсюджаная ў першай палове XIX ст. па ўсёй Еўропе захопленасць археалогіяй і краязнаўствам зрабілася для Канстанціна Тышкевіча не проста любімым, але і неабходным заняткам, стала мэтаю яго жыцця. На працягу 30-ці гадоў нястомным даследчыкам былі раскапаныя сотні курганоў і гарадзішчаў у Барысаўскім павеце, у наваколлях Мінска і роднага Лагойска. Не жадаючы адставаць ад навейшых дасягненняў у археалагічнай навуцы, Тышкевіч уважліва сачыў за яе развіццём, знаёміўся з усімі магчымымі публікацыямі, наведваў розныя краіны, завязваў стасункі з археалагічнымі таварыствамі Вільні, Кракава, Прагі, Парыжа, Лондана, Масквы. І калегі ўжо ўспрымалі яго не як правінцыйнага аматара, а як грунтоўнага, эрудзіраванага вучонага.

У першай палове XIX ст. пачаў фарміравацца новы навуковы кірунак — беларусазнаўства, і неацэнны ўклад унеслі ў яго станаўленне Канстанцін і Яўстах Тышкевічы. Як і іншыя патрыятычна настроеныя сучаснікі, браты Тышкевічы пачалі збіраць парэшткі айчыннай гісторыі. Калекцыя іх знаходак разрасталася: спачатку яна займала ў Лагойскім палацы дзве залы — Вялікую і Малую, а потым да іх дадалася і трэцяя. Археалагічныя знаходкі Тышкевічаў былі прадстаўлены вялікай колькасцю вырабаў з каменю, жалеза і бронзы. Пра мінуўшчыну краю расказвалі шматлікія старажытныя гетманскія булавы, маршальскія жэзлы, сцяг, адабраны палкаводцам Стафанам Чарнецкім у шведаў. Гонарам экспазіцыі былі 200 палотнаў, выкананых майстрамі італьянскага жывапісу з Рыма, Фларэнцыі, Неапаля; 48 копій барэльефаў з грэчаскага Парфенона. Упрыгожвалі калекцыю два мініяцюрныя партрэты легендарнага караля Стафана Баторыя. Вялікую колькасць складалі карціны і эскізы сюжэтных кампазіцый, напісаных вядомымі айчыннымі мастакамі: А. Арлоўскім, Я. Дамелем,

В. Ваньковічам, А. Бартэльсам, Ф. Смуглевічам, Я. Рустэмам, С. Чаховічам, Ю. Пешкам і іншымі. У музеі знаходзіліся партрэты ўсіх пакаленняў роду Тышкевічаў. Мелася тут унікальная калекцыя ручнікоў, сурвэтак і іншых узораў, якія ткалі на заснаванай К. Тышкевічам у Лагойску фабрыцы льняных і баваўняных вырабаў. Сярод тысяч кніг і рукапісаў, сабраных у бібліятэцы музея, было 1060 старажытных граматаў, рукапісныя матэрыялы, звязаныя з гісторыяй ВКЛ і Рэчы Паспалітай, каля 15 тысяч кніг, прысвечаных мінуўшчыне Айчыны, каля 500 старажытных помнікаў кнігадруку, старадаўнія геаграфічныя карты, аўтографы і малюнкі. Уражваў Лагойскі музей і вялікай экспазіцыяй зброі.

Сваім прыватным музеем старажытнасцяў у Лагойску Тышкевічы далі пачатак усёй музейнай справе на Беларусі: менавіта з яго пачала ў будучыні разрастацца сетка гісторыка-краязнаўчых музеяў па ўсім нашым краі. Лагойск быў невялікім мястэчкам, якое налічвала ўсяго толькі дзве тысячы жыхароў, і таму пабачыць музей маглі нямногія наведвальнікі. Акрамя таго, плошчаў для экспазіцыі не хапала, а жаданне паказаць сабраныя багацці ўсё больш расло. Канстанцін Тышкевіч піша прашэнне ў сталіцу Расійскай імперыі, у складзе якой знаходзіўся Лагойск, назваўшы 2 гарады, дзе мог бы размясціцца музей, — Мінск і Вільню. Праз 3 гады з Пецярбурга прыйшоў дазвол на адкрыццё музея старажытнасцяў у блізкай сэрцу абодвух братоў-рупліўцаў Вільні, куды Тышкевічы перавозілі каштоўныя экспанаты на падводах. Праз год пасля такога бяспрыкладнага падарожжа, 1 студзеня 1856 г., у памяшканні бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта быў адчынены Віленскі музей старажытнасцяў. Акрамя братоў Тышкевічаў, свае прыватныя калекцыі музею перадалі У. Сыракомля, І. Ходзька, А. Кіркор, Т. Нарбут, Ю. Крашэўскі, М. Балінскі, Ф. Багушэвіч і інш. У яго экспазіцыі былі створаны аддзелы археалогіі, этнаграфіі, мастацтва, зброі, мінералогіі, арніталогіі. У фондах музея захоўваліся старадаўнія дакументы, кнігі, нумізматыка.

Пасля вядомых палітычных падзеяў закрыццё Віленскага музея старажытнасцяў, у які было ўкладзена столькі сілаў, ведаў, душы і любові, стала сапраўднай трагедыяй для братоў Тышкевічаў. Вялікая частка археалагічнай калекцыі апынулася ў Румянцаўскім музеі, адкуль яна трапіла ў Гістарычны музей Масквы, дзе захоўваецца і цяпер. Багатыя антыкварныя зборы сям'і разышліся за межы Беларусі: сёння яны знаходзяцца ў Вільнюскім гісторыка-этнаграфічным музеі, Варшаўскім музеі археалогіі, Палангскім музеі бурштыну і ў прыватных калекцыях.

Напружаная праца па гаспадарцы, няпростыя ўмовы падчас экспедыцый, калі даводзілася прабірацца па балотах, у непагадзь плысці па рацэ супраць сцюдзёных вятроў, начаваць у закінутых гумнах, часам уласнымі рукамі праводзіць раскопкі, не маглі не адбіцца на стане здароўя К. Тышкевіча. Апошняя яго хвароба працягвалася нядоўга, але прыносіла нечалавечыя пакуты. Гэта была сібірская язва, прычынаю якой мог стаць удзел у археалагічных раскопках. Цяжкахворага, яго перавезлі ў Мінск, але, нягледзячы на намаганні дактароў, пасля двух месяцаў пакутаў, захоўваючы поўную свядомасць да апошніх хвілін, 1 (13) ліпеня 1868 г. Канстанцін Тышкевіч пакінуў гэты свет. Ён быў пахаваны ў Лагойску, каля сценаў касцёла св. Казіміра.

Маштабны праект «Беларускі кнігазбор», у якім мусіць быць прадстаўлена ўсё найбольш значнае, чым багатае наша краснае пісьменства і навуковая літаратура, у сваім плане прадугледзеў і выданне творчай спадчыны абодвух братоў паасобку. На пачатку гэтага года з друку выйшаў том выбраных твораў Канстанціна Тышкевіча.

Самым славутым яго творам стала фундаментальная краязнаўчая манаграфія «Вілія і яе берагі». І хоць створана яна была ў ліку першых (рукапіс аўтар завяршыў у 1858 г., былі нават выкананы некаторыя дрэвары ты), аднак з-за цяжкасцяў з выданнем публікацыя была затрымана, і кніга пабачыла свет пазней за ўсе астатнія — праз 13 гадоў пасля яе напісання і праз 3 гады пасля смерці яе аўтара, калі намаганнямі сына Оскара, пры актыўнай дапамозе і з прадмоваю Юзафа-Ігната Крашэўскага, які вельмі высока цаніў дзейнасць К. Тышкевіча, была надрукаваная ў 1871 г. ў Дрэздэне. К. Тышкевіча цікавіла ўсё, што магло паўней і ярчэй прадставіць Вілію, таму кніга «Вілія і яе берагі» стала сапраўднай універсальнай энцыклапедыяй гэтае ракі. На яе старонках падаюцца найбагацейшыя звесткі з гідраграфіі, батанікі, заалогіі; фактычна ўвесь змест даследавання суправаджаецца гістарычнымі паведамленнямі пра мінуўшчыну, дзе кожны аб'ект падсвечаны старажытнымі ці старымі дакументамі. Кніга напоўнена глыбокімі ведамі аўтара па рэлігіі і культавай архітэктуры: касцёлы, кляштары, капліцы, цэрквы і г.д. Грунтоўнае апісанне замкаў, палацаў, сядзібаў часам суправаджаецца выкананымі з натуры графічнымі малюнкамі.

Значнае месца ў навуковай спадчыне К. Тышкевіча займае напісаная ім па-польску праца «Гістарычнае паведамленне пра старажытныя замкі, гарадзішчы і могільнікі ў Літве і Русі Літоўскай» (1859 г.). Фактычна

гэтай кнігаю і іншымі публікацыямі ў газеце «*Kurier Wileński*» («Виленский вестник»), якую рэдагаваў А. Кіркор, К. Тышкевіч паклаў пачатак вывучэнню старажытных гарадоў беларускай зямлі.

Апошняю вялікаю працаю К. Тышкевіча стала кніга «Пра курганы на Літве і Заходняй Русі» (1865), выдадзеная па-руску.

Пры падрыхтоўцы тома выбраных працаў К. Тышкевіча я натрапіў на нечаканае для мяне паведамленне самога аўтара пра існаванне яшчэ адной нідзе не згаданай у беларускіх крыніцах яго кнігі — «Помнікі айчыннага гравёрнага мастацтва» (1858). Трэба сказаць, што акрамя К. Тышкевіча, бадай, ніхто з калекцыянераў не звяртаў увагі на гравіравальныя дошкі-клішэ, з якіх рабіліся адбіткі, пасля чаго графічныя лісты шырока разыходзіліся сярод людзей. У калекцыі графа былі 220 гравіраваных медных бляхаў айчыннай вытворчасці XVII — пач. XIX ст., якія сталі важным матэрыялам для вывучэння гісторыі гравіравання ў старажытнай Літве. Менавіта ў падарожжы па Віліі ў К. Тышкевіча нарадзілася ідэя яшчэ адной кнігі, якую ён выдаў ужо праз год! На адным з перавозаў, ля карчмы, граф выпадкова спаткаў старога майстра, які ў мінулым служыў наборшчыкам у друкарні, дзе рабіў адбіткі з гравіравальных дошак. Медныя бляхі з гравіраванымі малюнкамі былі аднымі з тых прадметаў, здабыць якія было цяжэй за ўсё, бо іх пасля выкарыстання перакоўвалі ў падносы, кацялкі, глякі ці наогул пераплаўлялі для align рознага начыння. Нямала гравіравальных бляхаў знаходзілася ў віленскіх друкарнях, а таксама ў кляштарных друкарнях розных манаскіх ордэнаў, дзе захоўваліся багатыя склады медных пласцінаў з выявамі святых апекуноў, заснавальнікаў і дабрадзеяў тых кляштараў.

Нястомны калекцыянер разлічваў выпусціць унікальны матэрыял па айчынным гравіраванні ў дзвюх кнігах пад агульнаю назваю «Помнікі айчыннага гравёрнага мастацтва». Выданне з самога пачатку лічылася надзвычайнай рэдкасцю, бо ніколі не з'яўлялася ў кніжным гандлі. Чым жа гэтая кніга такая неацэнная для гісторыі беларускага мастацтва? У першы раздзел (1858) задуманага выдання К. Тышкевіч уключыў гравюры малых формаў. Ва ўступе аўтар упершыню зрабіў спробу назваць мастакоў-гравёраў, якія працавалі на Літве і Русі, і тым самым раскрыў не вядомую дагэтуль старонку, звязаную з зараджэннем каталіцкай традыцыі ў айчыннай графіцы, расказаўшы пра яе першыя крокі ў нашым краі. Ён пакінуў нагляднае ўяўленне пра гравюры, шырока прадставіўшы ў кнізе каля 180-ці твораў, зробленых пераважна віленскімі мастакамі, класіфікаваўшы выявы па чатырох раздзелах. Дзякуючы дайшоўшаму такім чынам да нас ілюстрацыйнаму матэрыялу нястомны збіральнік музейных каштоўнасцяў даў нам магчымасць азнаёміцца хоць бы з часткаю найбагацейшай калекцыі, сабранай братамі Тышкевічамі ў Лагойску і Вільні.

У 2-гі раздзел выдання К. Тышкевіч намерваўся ўключыць гравюры вялікага фармату, папярэджваючы чытача, што гэта можа быць звязана з тэхнічнымі складанасцямі. На жаль, нам дагэтуль так і невядома, ці ўдалося графу адолець іх і поўнасцю ажыццявіць свой намер. Ніхто з даследчыкаў такой яго кнігі не бачыў і не згадваў яе сярод іншых публікацый вучонага. Паводле сцвярджэнняў В. Каратынскага, гравюры вялікага фармату, як і малога, усё ж былі адціснутыя ў Лагойску (і да таго ж, «нескупым тыражом»), але на час напісання ім артыкула памяці К. Тышкевіча яшчэ не было надрукаваных тлумачальных тэкстаў да іх. Другая частка «Помнікаў айчыннага гравёрнага мастацтва», як сцвярджаў гэты біёграф К. Тышкевіча, «цалкам гатовая і чакае свайго з'яўлення перад публікай».

Прафесійныя сувязі К. Тышкевіча не могуць не ўражваць сваімі маштабамі. Навуковыя заслугі вучонага былі ацэнены ў розных краінах Еўропы і свету. Ён быў абраны членам Усходнеамерыканскага этнаграфічнага таварыства (*Société ethnographie américaine et orientale*) і Геаграфічнага таварыства ў Парыжы, ганаровым членам Імператарскай Акадэміі навук у Пецярбургу, Каралеўскай акадэміі навук Швецыі ў Стакгольме, Інстытута археалогіі ў Лондане, многіх навуковых айчынных і замежных археалагічных таварыстваў.

Высакародная справа К. Тышкевіча перажыла ўсе варварскія знішчэнні. Імя яго засталося незаплямленым у нашай гісторыі. І рэдка хто з вучоных мінулых стагоддзяў, як ён і яго брат Яўстах, па-ранейшаму застаецца непахісным аўтарытэтам у сучасных навукоўцаў. Пра іх абодвух напісаны дзясяткі даследаванняў, у іх гонар штогод у Лагойску і ў іншых гарадах Беларусі наладжваюцца «Тышкевічаўскія чытанні», дзе падводзяцца вынікі даследчай дзейнасці вучоных з розных куткоў Беларусі. А на радзіме, у Лагойску, мясцовы музей носіць імя братоў Тышкевічаў — там разгорнутая экспазіцыя, прысвечаная ўсяму славутаму роду.

Канстанцін Тышкевіч

# ПОМНІКІ АЙЧЫННАГА ГРАВЁРНАГА МАСТАЦТВА

Водціскі з малых дошак, якія знаходзяцца ў Лагойскай бібліятэцы графа Канстанціна Тышкевіча

### НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АД ВЫДАЎЦА

Прыгожае мастацтва ў кожнага народа было вынікам яго спеласці, адзнакай яго маральнай адукаванасці. Кожны народ у сваім зародку, у сваім пачатковым развіцці пагарджаў мастацтвам, абсалютна не адчуваў яго патрэбы, бо найчасцей, заняты заваёвамі і промысламі, ён дбаў толькі пра забеспячэнне сваіх матэрыяльных патрэбаў, пра тое, каб зрабіць свой быт выгодным і незалежным. Гэтая маральная рыса і гэтая высакародная народная ўласцівасць звычайна пачынае развівацца значна пазней. Калі патрэбы цела, матэрыяльныя патрэбы будуць задаволеныя, а праз гэта будзе забяспечаны спакой у гэтым складаным целе, якім з'яўляецца кожны народ, — у ім пачынае зараджацца яго маральная сіла, развіваюцца яго эстэтычныя ўласцівасці. З гэтай крыніцы бяруць свой пачатак розныя віды мастацтва. Таму мастацтва ва ўсіх яго праявах утварае галіну, якая выклікае цікавасць у даследчыкаў любой мінуўшчыны; у залежнасці ад таго, на якім узроўні яны стаяць і наколькі даўно ў пэўнай краіне існуюць, яны з'яўляюцца вельмі дакладным паказчыкам яго маральнага развіцця. Гэтая думка ў нашай краіне была вядомая і сённяшнім пакаленнем дастаткова ацэненая, паколькі шмат людзей, якія прысвяцілі сябе навуцы, пачалі старанна вывучаць гэты прадмет, і кожны, хто мае сэрца і хоць крыху матэрыялаў, спяшаецца імі аказаць дапамогу працаўнікам.

З мастакамі і іх творамі ў Польшчы і Літве ад найдаўнейшых часоў і да нашых дзён нас пазнаёміў п. барон Раставецкі ў сваёй салiднай працы пад назваю «Слоўнік польскіх мастакоў». Айчыннае гравіравальнае мастацтва дагэтуль не мела свайго гісторыка. Мы неаднаразова чыталі і чулі, што вучоны і глыбокі даследчык нашай мінуўшчыны п. Ю. І. Крашэўскі працуе над айчыннай іканаграфіяй. Прадмет гэты надзвычай абшырны і новы для ўяўленняў грамадства; з прычыны недахопу матэрыялаў, раскіданых па ўсёй краіне і якія нялёгка ўдаецца сабраць, ён павінен стварыць аўтару вялікія цяжкасці пры выкананні гэтай працы. Кожны дом, кожная самая бедная сям'я ў нас маюць нехлямяжую гравюру, нейкі святы абразок, нейкі занядбаны кавалак гравіравальнай бляхі, які парою ўяўляе гравіравальную рэдкасць. Не спяшаюцца з ёю на дапамогу даследчыку толькі таму, што наогул яе не цэняць і яе вартасці не разумеюць і не вераць, што яна магла б быць рэдкасцю выключна па той прычыне, што яна валяецца ў іх без пашаны. І колькі ж гэтак (ведаем з уласнага вопыту) найрадчэйшых помнікаў мастацтва — невядомых, кінутых на волю чалавечай абыякавасці, цалкам загінула! Колькі ж гравіравальных блях, калі яны знаходзіліся ў адных руках, і калі з іх не ўмелі зрабіць ніякага публічнага ўжытку, пайшло ў абмен на мядзяны кацялок! А там пад молатам катляра, абыякавага да твораў мастацтва, назаўсёды гінулі сляды разца, захаванне якіх засведчыла б вялікую паслугу для навукі.

Уладальнік багатых збораў айчыннага гравіравальнага мастацтва ў Медыцы апублікаваў у 1829 і 1830 гг. у «*Czasopiśmie Lwowskim*» паведамленне пра польскіх гравёраў. Трохразовае выданне дрэварытаў з бібліятэкі Кракаўскага ўніверсітэта (першае — у 1837 годзе, другое — у 1840, і менавіта апошняе — у 1849 годзе, сістэматычна складзенае і навукова патлумачанае п. Юзафам Мучкоўскім) аказала нам вялікую паслугу на ніве даследаванняў у гэтай навуцы. За імі — вядомы сваімі шматлікімі навуковымі працамі ў нашым пісьменстве п. Амброзій Грабоўскі даў нам цудоўны прыклад у перайманні, калі паспяшаўся апублікаваць у «*Bibliotece Warszawskiej*» апісанне гравюр і прозвішчы гравёраў, якія знаходзяцца ў яго зборы. Усё гэта — багатыя матэрыялы для навукі, гэта несумненная нацыянальная ўласнасць. Але ў іх мы не сустрэнем і мінімальнага матэрыялу па гісторыі Літоўскага гравіравальнага майстэрства. А між тым Літва, магутная, на працягу некалькіх вякоў самастойная краіна, таксама мела эпоху свайго асветніцтва, свайго захаплення прыгожым мастацтвам — гэтага маральнага боку народнага жыцця, розныя віды мастацтва якога былі трывалай і прыгожай пра-

яваю. У параўнанні з іншымі народамі, нават з братняй Польшчай, Літва сапраўды вельмі позна пачала развіваць у сабе ўяўленні аб прыгожым мастацтве. Паганскі ліцвін, які шанаваў Перкуна, кланяўся святому Знічу, знаходзіўся пад пераможным уплывам крыва-крывейтаў, быў увесь час замарочаны пастаяннымі войнамі з суседняй Руссю, з заезджымі крыжакамі, жывучы пасярод цёмных і дзікіх лясоў — дзе ён мог развіць маральныя народныя асаблівасці? Дзе ён мог ствараць і пеставаць свае эстэтычныя ўяўленні? Хрысціянства ў ліку іншых паслуг, якія яно аказала на маральнасць літоўскага народа, прынесла і ўяўленні пра мастацтва, якое, аднак, вельмі нясмела і марудна пашыралася па Літве. Манаскія ордэны і кляштары, здаецца, былі першым прытулкам для літоўскага гравіравальнага мастацтва і першымі сховішчамі твораў мастацтва, якое развівалася і навучалася на набожных узорах, на выявах святых. Найстаражытнейшыя помнікі мясцовага гравіравальнага мастацтва, распаўсюджаныя на Літве, сягаюць, наколькі нам вядома, толькі да сярэдзіны XVIII стагоддзя, і яны нам прадстаўлены ў адных толькі выявах святых альбо ў гербах нейкіх мецэнатаў, ці выбітных апекуноў касцёла альбо манаскага ордэна, да якіх яны, у адпаведнасці з уяўленнямі той эпохі, пакорна былі прыпісаныя. Хоць у іх можна адзначыць нямала думкі і добрую кампазіцыю, аднак самі гравёры бывалі людзьмі, якія працавалі інстынктыўна, паводле ўзораў замежных майстроў, без усялякай адукацыі. Толькі Віленскі ўніверсітэт звярнуў сваю ўвагу на гэтую галіну навукі, калі ў 1805 годзе адчыніў школу гравіравальнага мастацтва пры ўніверсітэце. Настаўнікам гэтай школы быў П. Саўндэрс, паводле паходжання англічанін; на




Выява цудатворнай статуі
ў касцёле дамініканаў у Чашніках.

працягу некалькіх год кіравання школай гравіравальнага мастацтва ён выпусціў нямала здольных гравёраў. Абразкі святых, запатрабаваныя набожнымі жыхарамі Літвы, былі заўсёды выключным прадметам для разца вучняў літоўскай школы; што ж датычылася кніг, якія выдаваліся ў Вільні, то гравюры да іх рабіліся не іначай як менавіта ў Вільні мясцовымі гравёрамі. Нямала таксама гравіравалася партрэтаў; вельмі цаніліся імкненні ствараць гістарычныя і алегарычныя творы, якія, дарэчы, не былі пазбаўленыя пэўных вартасцяў. Калі ж пры заняпадзе Віленскага ўніверсітэта школа гравіравальнага мастацтва аказалася зачыненая, то яе вучні заставаліся адзінымі майстрамі, гледзячы на якіх маладыя аматары гэтай справы імкнуліся прадоўжыць гравіравальнае мастацтва ў Літве. Калі ж з прыходам літаграфіі і далейшых спосабаў, якія палегчылі распаўсюджванне малюнкаў, гэтыя сродкі, значна таннейшыя, зрабіліся больш выгоднымі дзеля мясцовых патрэбаў, гравёрнае мастацтва ў Літве канчаткова заняпала; а мастацкія скарбы, назапашаныя за час існавання школы, а потым яе вучняў, запоўнілі сховішчы кляштараў, дзе іх калі-нікалі капіравалі і пускалі ў публічны зварот, і пачалі станавіцца помнікам айчыннай мінуўшчыны.




Выява святога пакутніка Інакенція з надпісам унізе: «С. Інакенцій, цела якога з ампулкай крыві змешчана ў парафіяльным дрысвяцкім касцёле ў 1803 годзе».




Выява Маці Божай Вастрабрамскай у Вільні.

Нямала гравіравальных блях знаходзілася ў друкарнях, бо кожная з тых, што дзейнічалі ў Вільні, выдаючы нейкую працу ўласным коштам, дзеля таго, каб зрабіць у ёй аздабленні, загадвала гравіравацъ прызначаныя малюнкі, бляхі ад якіх заставаліся яе ўласнасцю. Жулкоўскі, колішні арандатар друкарні ксяндзоў піяраў (пасля ён перадаў яе Забагонскаму, стаўшы каля 1833 года ўладальнікам малой кнігарні ў Вільні), рабіў водціскі абразкоў святых і вёў імі свой гандаль, і з гэтага ж часу запрошаныя Жулкоўскім лепшыя гравёры віленскай школы, такія, як, напрыклад, п. Міхал Падалінскі, працавалі выключна на яго. Што ўжо казаць пра такія кляштарныя друкарні, як ксяндзоў базыльянаў ці таварыства ксяндзоў місіянераў у Вільні? Яны няспынна рабілі водціскі абразкоў святых, якія ім дастаўлялі то лепшыя, то горшыя маладыя літоўскія гравёры. І сёння кожны з кляштараў, як віленскіх, так і іншых, што яшчэ існуюць у Літве, мае больш-менш багатыя склады гравіравальных блях з выявамі ці сваіх святых патронаў, ці заснавальнікаў і дабрадзеяў кляштараў, якія ў розныя часы былі гравіраваныя і назапашваліся ў сценах манаскага ордэну.

У калекцыях прыватных асобаў гравіравальнымі помнікамі найчасцей былі ўжо толькі сабраныя водціскі; збіранне ж выгравіраваных блях, невядома чаму, не станавілася ў нас мэтай пошукаў аматараў навуковых калекцый. Мой збор у гэтым сэнсе з'яўляецца малым выключэннем. Ма́ю ў ім некалькі сот блях айчыннага гравіравання, сабраных у розныя часы. Можа, таксама я ма́ю гэтыя зборы па той прычыне, што мне акалічнасці лепш, чым іншым, спрыялі ў збіранні за́лежаў навукі і мастацтва. Адданы гэтай ідэі на працягу ўсяго майго жыцця, я не ўпусціў скарыстацца любой прадстаўленай мне магчымасцю і набываў іх то па адной з рук прыватных асобаў, то ў вялікай колькасці ў кляштарах пасля іх скарачэння, калі, згодна з распараджэннем урада, іх колькасць у Літве змяншалася. І такім чынам склалася калекцыя, якую я сёння задумаў апісаць і прадставіць матэрыял па айчыннай іканаграфіі. У навуковых зборах, якія ў нашай краіне знаходзяцца ў прыватных руках, недахоп падрабязных каталогаў і абыякавасць ва ўзаемнай перадачы адзін другому паведамленняў пра гэтыя інтэлектуальныя скарбы выклікае грамадскае шкадаванне, бо іначай аматар навукі, прысвячаючы сябе гэтай працы, ведаў бы, дзе ён павінен нешта шукаць; у цяперашні ж час мы абсалютна нічога не ведаем пра зборы, якія мае нехта іншы з нас. Сёння, калі дзякуючы адкрыццю Музея старажытнасцяў і Археалагічнай камісіі ў Вільні адкрылася сапраўднае навуковае вогнішча для Літвы,




Выява Найсвяцейшай Марыі Панны
ў цудоўным абразе ў Барунах.




Табліца буквара для навучання дзяцей
з подпісам гравёра: Byks.

пры пасрэдніцтве «Запісак», якія публікуюцца пры гэтай камісіі і якія ахвотна гатовы прысвяціць свае старонкі гэтаму прадмету, каб гэтае паведамленне магло лёгка разысціся па краіне, ідзе гаворка толькі пра добрую волю нас саміх.

Гэтую цяперашнюю маю публікацыю, зыходзячы з формы блях і зместу, які яны прадстаўляюць, я падзяліў на два раздзелы: на раздзел малых блях і на раздзел вялікіх блях.

У першым раздзеле, акрамя блях цалкам панішчаных, а таксама каліграфічных узораў, тытулаў кніжак, малюнкаў, разнастайных білетаў і этыкетак, з якіх я не рабіў водціскаў, паколькі яны не маюць ніякіх вартасцяў для айчыннага гравіравальнага мастацтва, я змясціў 173 водціскі з блях (часткова таксама дэфектных), якія, аднак, прадстаўляюць вялікую навуковую цікавасць. Я падзяліў гэты раздзел на 4 часткі. У 1-й я змясціў бляхі з прозвішчамі і без іх, але вядомых мне гравёраў Літвы; шэраг гэтых гравюраў пачынае датавацца сярэдзінай мінулага стагоддзя і працягваецца да нашых дзён; змяшчае яна ў сабе 103 творы з кароткім паведамленнем пра некаторых нашых гравёраў. 2-я частка змяшчае ў сабе 50 выяваў святых, выгравіраваных у Літве невядомымі майстрамі; да іх я далучыў некалькі абразкоў, выгравіраваных у Любліне і ў Віндаве. У 3-ю частку я ўключыў абразкі, выгравіраваныя ў Англіі і Францыі для нашых манаскіх ордэнаў. У 4-й частцы пад назваю «Разнастайныя гравюры» знаходзяцца разнародныя водціскі, якія не маюць між сабою ніякага блізкага сваяцтва і не маюць на сабе прозвішча аўтараў.

У другім раздзеле, ажыццяўленнем якога я задумаў заняцца адразу ж пасля апублікавання цяперашняга, і публікацыя якога павінна пайсці нашмат цяжэй, чым гэтая, з той прычыны, што раздрукоўка з блях вялікага фармату патрабуе большага клопату, я прадстаўлю грамадскасці творы вялікіх памераў, створаныя нашымі гравёрамі, больш глыбокія і больш смелыя паводле сваіх задумаў; знойдуцца сярод іх і прадметы несумненнай гістарычнай вартасці.

Я зрабіў усё, што было ў маіх сілах. Пацешуся ад усяго сэрца, калі гэтая публікацыя з водціскаў гравіравальных блях, якія знаходзяцца ў маёй калекцыі, трапяць да намечанай мною мэты — г. зн., калі той, хто будзе працаваць над гісторыяй мастацтва ў нашай краіне, знойдзе ў ёй матэрыял для сваёй працы.

*Пераклад з польскай мовы*
*Уладзіміра Васілевіча.*

*Паводле: Pomniki rytownictwa Krajowego. Oddział I. Odciski z blach mniejszych, znajdujących się w bibliotece Łohojskiej Konstantego hrabi Tyszkiewicza. Wydane nakładem ich właściciela. — Wilno. 1858 r.*

# Ствараючы жывыя вобразы...



Працягваем знаёміць чытачоў «Нашай веры» з творчасцю выдатнай пісьменніцы нашага краю Габрыэлі Пузыні з Гюнтэраў (1815 – 1869), вядомай у свой час таксама пад псеўданімам *Аўтарка ў Імя Божае* (паводле назвы яе першага паэтычнага зборніка). Яна пачала літаратурны шлях з паэзіі, выдаўшы ў 1840-я гады некалькі паэтычных зборнікаў, якія прынеслі ёй заслужанае прызнанне і прыхільнасць чытачоў. У 1850–1860-я гады яна выявіла сябе таксама як выбітны празаік, мемуарыст і драматург.

Графіня паводле паходжання, у адным са сваіх вершаў Габрыэля Пузыня сама сябе назвала «*сціплым спеваком хатняга зацішку*», аднак у XIX стагоддзі яе літаратурнае імя, без сумнення, можна паставіць побач з імёнамі Яна Чачота, Тамаша Зана, Ігната Ходзькі, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, з якімі яе звязвалі ўзаемныя творчыя ды сяброўскія стасункі. Праўдзівасць нашага параўнання пацвярджаецца і словамі саміх пісьменнікаў таго часу: Ігнат Ходзька ўзнёсла называў Габрыэлю «*музаю нашай зямлі*», а Уладзіслаў Сыракомля ў вершы «Званы для глухіх» вітаў яе як «*натхнёную святарку*» ў «*благаслаўлёнай зямлі Палямона*».

У гэтай публікацыі прадстаўляем Габрыэлю Пузыню як празаіка. У апавяданні «За і супраць» пісьменніца на прыкладах з жыцця рэальных людзей з болей-меней блізкага да сябе тагачаснага асяроддзя разважае над такой важнай духоўнай антыноміяй, як жывая і праўдзівая хрысціянская вера ў Бога і «вера» ў прыкметы ды забабоны. Робіць гэта пісьменніца вельмі далікатна, з разуменнем усіх няпростых акалічнасцяў, якія суправаджаюць чалавека на жыццёвым шляху, прыносячы выпрабаванні і пакуты, ставячы перад выбарам. Нікога не асуджаючы, ствараючы жывыя вобразы і карціны жыцця, пісьменніца дае і сучасным чытачам урокі мудрасці і самапазнання на шляху глыбейшага спасціжэння хрысціянскай духоўнасці.

Пераклад апавядання Габрыэлі Пузыні «За і супраць» зроблены паводле выдання: *Puzynina G. Małe a prawdziwe opowiadania. – Wilno, 1857.*

*Ірына Багдановіч*

---

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), «Залатая Горка» (2016), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011), «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014) і інш. Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

Габрыэля ПУЗЫНЯ

# ЗА І СУПРАЦЬ

(З праўдзівых здарэнняў)

*«Паводле веры вашай будзе вам дадзена»*

У 1836 годзе вярнулася з Францыі ў Літву ў глыбокай жалобе з двума малымі дзеткамі (з якіх малодшую дачушку сама маці карміла) пані Хенрыка Місарэўская, год як удава, муж якой спачываў у чужой зямлі; у родным краі па памерлых ужо бацьках не засталося ў яе больш нічога, апрача ўспамінаў! Аднак у пані Місарэўскай былі сваякі, якія не толькі жылі ў дастатку, але і мелі добрыя сэрцы; яны паспяшаліся на дапамогу беднай удаве і забралі яе з дзецьмі да сябе. О, якую ж даў узнагароду ім гэты жэст спагадлівага сэрца, калі тая займальная сямейка ўнесла ў іх ціхі дом новае жыццё, нібы свежае паветра! Доўгія восеньскія і зімовыя вечары ў вялізнай сядзібе зазвінелі вясёлым шчабятаннем дзетак, упрыемніліся апавяданнямі іх маці пра некалькі гадоў побыту ў Тулузе, праўда, сярод чужых, але годных людзей.

Пані Хенрыка раней была вельмі прыгожая, цяпер жа, хаця ёй не было яшчэ трыццаці гадоў, ад яе былой прыгажосці засталіся толькі цёмныя і густыя бровы над выплаканымі вачыма, стройная фігура ды правільныя рысы. Але, хоць яе валасы, калісьці шаўкавістыя, сталі радзейшымі і шорсткімі, хоць яе зубы, раней як перліны, павыпадалі, замест гэтага з'явілася пячатка разважлівасці і чуласці, душа ўвайшла ў прыгаслыя вочы, а з пабляднелых вуснаў выходзілі словы, вартасць якіх узнагароджвалі страту зубоў. Пані Хенрыка для нематэрыяльных людскіх вачэй стала прыгажэйшаю ў сваім заняпадзе, чым раней была ва ўсім бляску маладосці і шчасця. Дык вось не такою, з якою дзесяць гадоў назад узяў шлюб яе муж, закаханы і малады, але якою яна стала па смерці свайго мужа, выпадае нам уявіць яе: як сядзіць яна паважна і ў смутку побач са сваёю цёткаю паняю Быстроўскаю, жывою і бадзёраю старою, а тая штохвіліны будзіць яе з задуменнасці, гаворачы:

— Хенрысю! Яшчэ штокольвек аб Тулузе…

Насупраць пані Хенрыкі сядзіць малады чалавек, сын гаспадыні дома і дваюрадны брат пані Місарэўскай. Яго правільныя рысы, яго доўгія светлыя, старанна ўкладзеныя валасы, яго вялікія блакітныя вочы (nb. утопленыя ў твар кузінкі), нават авал твару — усё ў ім мае адбітак падабенства з удавою, але адбітак свежы і светлы, бо пану Эрнэсту ўсяго 20 гадоў.

Пані Хенрыка занятая шыццём сукенкі для сваёй старэйшай дачушкі Гэльці, якой ужо 7 гадоў; рухамі і чужаземным шчабятаннем яна падобная да француżанкі, што пан Эрнэст лічыць у ёй вялікай вартасцю. Малодшая дачушка Ліда забаўляецца недалёка ад маці на дыване з цацкамі і сабачкам, а над ёю чувае арыгінальная постаць нетутэйшай нянькі ў спічастым чапцы — гэта французская бона, удава тамбурмажора войскаў Напалеона, пачцівая Маргарыта, якая не захацела пакінуць пані Місарэўскую і яе дзетак ды адважылася паехаць з імі *«dans ce pays barbare»*[1]. Яна завяршае сямейны «абразок».

Ужо трэці раз бадзёрая пані Быстроўская запытвае задуменную пані Хенрыку:

— Аб чым жа так задумалася, Хенрысю? Напэўна, зноў аб Тулузе? — калі тая нарэшце, нібы апрытомнеўшы ад сну, адказвае:

— Прабач, цёцю, задумалася, але не аб Тулузе. Аб чымсьці нашмат бліжэйшым, аднак жа вельмі … вельмі даўнім! — дадала з уздыхам.

— Толькі не плач, — перарвала цётка, абдымаючы пляменніцу. — Усё роўна гэта нічым не дапаможа.

Эрнэст працягнуў руку над сталом і звярнуўся да кузінкі:

— Скажы нам, што ляжыць у цябе на сэрцы, гэта цябе суцешыць.

Хенрыка зірнула на кузэна, і неўстрыманая слязіна скацілася па шчацэ на шыццё.

— Успамінаю, — сказала яна, намагаючыся ўсміхнуцца, — адно дзівацтва… аднак незабыўнае, калі ў першы год нашага шлюбу мой муж і я пасадзілі ў адным вазоне два кактусы, якія называюць альясамі; яны прыняліся і раслі хораша пару гадоў, а калі прыйшлося пакідаць край, той вазон застаўся ў доме брата майго мужа, ён і яго жонка абяцалі яго старанна даглядаць. Не была я дагэтуль у швагра, не ведаю нічога пра тыя дрэўцы… можа, аднаго з іх, — дадала праз паўзу, — ужо няма!..

— Калі насамрэч так, — сказала пані Быстроўская, — адкуль пэўнасць, што гэта альяс твайго мужа загінуў? Яны ж былі аднолькавыя, як ты гаворыш.

— Прадбачылі мы гэта, — адказала пані Хенрыка, — і накрэслілі нашыя імёны на ствалах.

— Варта было б у тым перакананацца, — сказаў пан Эрнэст.

— Я таксама хацела прасіць цёцю дазволіць мне адведаць мужавага брата з яго жонкаю, — нясмела сказала пані Місарэўская. — Для мяне гэта адначасова абавязак і жаданне сэрца.

Пані Быстроўская з ахвотаю задаволіла жаданне пляменніцы; кузэн заняўся экіпажам, і на другі дзень пані Місарэўская, забраўшы дзяцей, паехала ў адведзіны да швагра, дзе захоўваліся слынныя альясы, пасаджаныя рукамі маладых сужэнцаў дзесяць гадоў назад. Ці знайшла іх пані Хенрыка? Знайшла, але толькі адзін з яе ўласным імем; другі альяс з імем мужа засох год назад. Даты яго заняпаду і скону, запісаныя спецыяльна братам і яго жонкаю, адпавядалі датам хваробы і смерці пана Місарэўскага. Альяс жа пані Хенрыкі рос моцным і вясёлым, нібыта і не страціў таварыша; зусім падобны да людзей, нячулых да стратаў, ён здаваўся шчаслівым і свабодным, будучы гаспадаром усяго вазону…

Пані Хенрыка глыбока задумалася, слухаючы аповеды аб прыгодах памерлага альяса, і, паказаўшы на той, што застаўся, сказала прысутным:

— Як убачыце, што ён пачне канаць, — гэта знак, што і мяне тут хутка не стане.

— Дзякуй Богу, яму яшчэ далёка да скону! — сказала братавая.

— Гэта бабскія прымхі, — сказаў швагер, — гэта забабоны, якія Касцёл забараняе.

Усе, аднак, былі агаломшаныя гэтым здарэннем, якое, хаця і было, можа, вынікам супадзення, пацвярджала прадчуванне чулага сэрца.

* * *

Прайшло пару гадоў, дзеткі пані Місарэўскай раслі вясёлымі і гожымі. Гэльця ўжо навучылася па-польску, а Ліда самастойна бегала і рабілася дзіўна падобнаю да маці. Пані Хенрыка не здымала жалобы ані з убрання, ані з сэрца, была заўсёды задуменная і сумная і ажыўлялася хіба падчас успамінаў, калі, змушаная да іх роспытамі блізкіх, забывалася пра свае гора, згадваючы лепшыя часы маладосці.

Кожнае лета яна адведвала мужавага брата з жонкаю і кожны раз бачыла свой альяс гожым і штораз вышэйшым, нібы ён заахвочваў яе да веры ў жыццё. Аднойчы, калі яна была ў швагра, сабралася там вялікая кампанія. Адзін госць прывёз з сабою выжлу, якую досыць гучна вітаў хатні пудзель. Гаспадар устаў, каб выправадзіць свайго сабаку, калі нехта, запабягаючы спатканню, крэслам загарадзіў дарогу праціўнікам. Неасцярожным рухам, ножкаю ад крэсла, ён зачапіў вазон з альясам, які перакуліўся, і альяс паламаўся…

— Ужо па мне, — сказала знешне спакойна, але з сумам у голасе пані Хенрыка, звяртаючыся да сваёй братавай. — Тая ўскочыла з месца, пабегла ратаваць расліну: падняла яе з зямлі, у адну хвіліну звязала яе, стачыла паміж сабою зламаныя часткі і перасадзіла ў іншы вазон.

— Гэта жывучая расліна, — сказаў госць, выжла якога ўчыніла тую неспадзяванку. — Запэўніваю панства, што альяс зрасцецца, быццам нічога і не было.

Усе, хто быў у курсе справы, стараліся супакоіць пані Хенрыку, але яна паўтарала з сумам: «Гэта папярэджанне для мяне, што не доўга мне ўжо быць на зямлі!», і на працягу вечара яна дзіўна балесна паглядала на дзяцей. Было гэта восенню, а на зіму пані Місарэўская паехала ў горад; здароўе яе здавалася добрым, але на бледным твары выступілі злавесныя чырвона-бурыя плямы, а вочы свяціліся дзіўным бляскам. У сваю чаргу настала лета і зноў восень; а ў сярэдзіне восені сваякі пані Місарэўскай з вялікім болем і жахам даведаліся насамрэч аб заўчаснай смерці пані Хенрыкі. Пачаткі хваробы, якая сядзела у ёй даўно ў выніку прастуды і бяссонных начэй каля хворай пляменніцы, ператварыліся ў хуткацечныя сухоты. Памерла яна ў дзень, якім распачынала свой трыццаты год.

Калі ўляглася першая хваля смутку, абуджанага гэтаю весткаю, узгадалі той паламаны і спаноўлены альяс, які выпадкова і ўсё ж так дакладна прадвызначыў скон пані Хенрыкі. Прадчуванні яе спраўдзіліся напоўніцу; той альяс насамрэч загаіў свае раны, перажыў зіму і лета, але з восені пачаў сохнуць, і ў дзень смерці пані Хенрыкі расліна, пасаджаная яе рукою, нібы яе душою, разам з яе адыходам перастала жыць.

Дык як тут не верыць у прымхі, калі яны часам спраўджваюцца?

А цяпер паглядзім на адваротны бок медаля ў наступным апавяданні.

## Прыгоды ў дзень шлюбу

Дзве годныя і багатыя сям'і злучаліся паміж сабою праз шлюб маладой пары. Усе варункі для шчасця — стасоўны ўзрост, адпаведная маёмасць, узаемная прыхільнасць, злучэнне цнотаў, заслугаў і талентаў — прарочылі прыгожую будучыню тым, хто пачынаў новае жыццё. Вяселле адбывалася ў Варшаве ў летнюю пару. Ужо з дзвюх гадзін абедзве сям'і і шматлікая іх асістэнцыя былі сабраныя ў доме бацькоў маладой, і пан натарыус з пяром у руцэ сядзеў за столікам над актавай кнігаю, аднак не прыступалі да падпісання шлюбнай дамовы, бо адна з найважнейшых асобаў, дзядзька маладога, яшчэ дагэтуль не прыбыў. Нецярплівасць малюецца на ўсіх тварах,

але нарэшце туркатанне карэты абвяшчае жаданае прыбыццё. Уваходзіць паважны старац, і па прывітаннях *ex voto*[2] пану генералу падаюць крэсла і пяро, каб паставіць подпіс у кнізе; ды ледзь толькі той усеўся, ломіцца пад ім крэсла… прысутныя на ляту падхопліваюць пана генерала разам з крэслам; ужо з другім спяшае сам малады, але напаўдарозе вырываецца ў яго крэсла з рук, і толькі парэнча застаецца ў далоні. Дзядзька так уражаны, што ўжо не хоча ніякага крэсла і дрыжачаю ад перапуду і старасці рукою падпісвае, стоячы, шлюбную дамову; за ім падпісваюць іншыя, пасля чаго настае чарга благаслаўлення і выезду да касцёла. Ксяндзы-місіянеры Святога Крыжа, у касцёле якіх меўся адбыцца шлюб панства R*, былі папярэджаныя, што а шостай гадзіне вечарам прыбудзе вясельная дружына, і чакалі ў касцёле, запаліўшы свечкі каля вялікага алтара. Але калі ўжо прабіла дзявятая, а ніхто не з'явіўся, яны памеркавалі, што сёння, напэўна, шлюбу не будзе, і, згасіўшы свечкі ды замкнуўшы касцёл, пайшлі ў свае келлі для пасілку і малітвы перад спачынкам.

А палове на дзясятую вясельная дружына прыбывае пад касцёл, але, на жаль, ён замкнёны! Маладая белай зданню стаіць на высокім ганку касцёла, а нецярплівыя паны-дружкі пачынаюць настойліва грукаць у дзверы: абазнаныя з мясцовасцю бегаюць туды-сюды праз фортку ў браме, каб абудзіць насельнікаў. Праз чвэрць гадзіны чакання касцёл адчыняецца, але ў ім цёмна, як у труне! Пачуццё страху прабірае ўсіх; адна толькі маладая, пачуцці якой чыстыя, згодныя з воляй бацькоў, маладая, якая сёння да таго ж ачышчаная споведдзю, узіраецца ў сябе і адчувае, што нічым не заслужыла Божай няміласці; маладая, якая кахае нарачонага, а значыць ні ў чым злым яго не падазрае, сярод іншых, неспакойных і дрыжачых, адна спакойная, бо давярае міласэрнасці Божай, бо да неба ўзносіць думкі і сэрца і, заглыбленая ў ціхую малітву, не чуе навакол шамацення прароцтваў і прапаноў, якія нашэптваюць сабе на вуха матроны і дружкі.

Тым часам прыходзіць заспаны і бурклівы сакрыстыянін і запальвае свечкі каля алтара, але разам з яго хадою першыя свечкі гаснуць; ды, нягледзячы на яго высілкі і запальванне наноў, на алтары ўсё роўна гарыць няцотная колькасць агеньчыкаў на запалохванне альбо на перасцярогу маладой пары…

Прыбывае, нарэшце, каб благаславіць шлюб, апрануты ў капу пробашч, чакае каля алтара; але збянтэжаны малады становіцца з процілеглага боку і капелан памыляецца ў рытуале.

Ужо скончана цырымонія; выходзіць дружына з касцёла, пад'язджаюць павозкі, а на іх чале пекны экіпаж маладога… Двое паважных дзядзькаў, якія суправаджалі маладую да алтара, падаюць ёй рукі, каб пасадзіць у карэту; ужо маленькая ножка ў белым чаравічку дакранаецца да першай прыступкі, але тая абрываецца, і маладая ўпала б на брук, каб не малады сужэнец, які на ляту яе падхапіў. Моладзь кліча другі экіпаж, пад'язджае бацькава карэта, але коні, знуджаныя доўгім стаяннем, торгаюць цуглі, блытаюцца ў пасах і нясуць карэту ўбок. Толькі ў трэцім экіпажы змагла свабодна ўсесціся пара маладых сужэнцаў. А калі, уражаны столькімі неспрыяльнасцямі, малады, баючыся, каб яны не зрабілі прыкрага ўражання на яго абранніцу, стараўся яе супакоіць, яна яму з мілаю ўсмешкаю адказала:

— Чаго ты спалохаўся? Мы ж уніклі няшчасця, таму што давяраем Богу, а Ён і ў будучым жыцці збавіць нас ад прыгодаў, як сёння…

* * *

Ужо мінула гадоў дваццаць з таго шлюбу. Праз нейкі час, калі я распытвала пра сям'ю R*, сказалі мне, што жывуць яны шчасліва, акружаныя дзецьмі… Ці так яно дагэтуль, ці не перарвала што-небудзь іхняй паспяховасці, не ведаю; але штосьці мне шэпча, што ім дагэтуль шанцуе… А калі раптам трапіцца ім прачытаць аб тых сваіх прыгодах, прашу іх прабачыць мне, калі ў маё апісанне, як мне здаецца вернае, уціснулася якая-небудзь памылка.

---

Якія ж высновы могуць зрабіць з нашага апавядання чытачы?.. Прымхлівыя гатовыя затрымаць у памяці толькі гісторыю альясаў як найбольшы доказ таго, што забабоны спраўджваюцца. Сапраўды веруючыя ўсцешацца развязкаю другога здарэння, а скептыкі назавуць адно і другое выпадкам… Мы ж мяркуем, што Бог дае заўсёды паводле таго, якая наша вера, караючы саманадзейнасць, узнагароджваючы пакору і давер да Яго міласэрнасці і ўсёмагутнасці. Ёсць свет духа! Успрымаем яго душою, і розум, чуйны розум, не дакажа нічога, што запярэчыла б існаванню духоўнага свету. Але, хоць Бог дазваляе калі-нікалі зазірнуць нам у неба, нібыта дзеля таго, каб мы занадта не прыляпіліся да зямлі… той самы Бог блытае нашы планы, таму што мы больш пакладаемся на сябе і больш верым уласным прадчуванням, чым аб'яўленням Касцёла.

*1856 г.*
*у Гарадзілаве.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Ірыны Багдановіч.*

---

[1] У тую варварскую краіну (фр.).
[2] Са шлюбам (лац.).



Фрагмент карціны «Бітва пад Воршай», 1514–1528 гг. (?). Дошкі, алей. На думку М. Купавы, тут паказана, як эскулап XVI ст. аглядае свайго пацыента гусара.

# Дзень медыцынскага работніка Беларусі

9 лістапада 1512 г. у Падуанскім універсітэце адбылася знамянальная падзея: у гэты дзень малады Францішак Скарына здаваў экзамены на годнасць доктара медыцыны. Падзея для еўрапейскага ўніверсітэта была зусім незаўважная: дактарант быў з далёкай і малавядомай, нават для вучонага свету, краіны. Але прэтэндэнт на годнасць доктара медыцыны ўсё ж быў вядомы ў колах вучонага свету. І першае, і другое якраз і выклікала цікавасць у навукоўцаў Падуі. Для нас, сённяшніх, усё ж застаецца пытанне: чаму Скарына быў вядомы ў Падуі? На выпрабаванні Скарыны прыйшло вельмі шмат навукоўцаў з розных галінаў навукі, прадстаўнікоў Касцёла, творчых людзей, гараджанаў Падуі. А гэта гаворыць пра тое, што Скарына быў вядомы ў падуанскім асяроддзі. Ён жа недзе вучыўся медыцыне, а можа, і працаваў? Мы можам толькі здагадвацца пра гэта, не больш. Ці не ў Падуі ён і вучыўся?

Каб атрымаць поўнае адабрэнне і прызнанне, Ф. Скарына павінен быў гаварыць на адной зразумелай мове з падуанцамі. Акрамя лацінскай мовы, якую Ф. Скарына як прадстаўнік культурнага і навуковага свету Еўропы выдатна ведаў, ён мог ведаць і італьянскую мову. На нашу думку, без мовы краіны прыезджы навуковец не мог выглядаць натуральна ў мясцовым асяроддзі, а гэта значыць, што наш асветнік жыў, вучыўся ў Італіі працяглы час.

9 лістапада 1512 г. у біскупскім палацы ў прысутнасці аўтарытэтных вучоных Падуанскага ўніверсітэта і высокіх службовых асобаў Скарына быў абвешчаны доктарам у галіне медыцыны і яму былі ўручаны адпаведныя знакі навуковай годнасці. Прафесар, доктар мастацтваў і медыцыны Барталамей Барызон уручыў Скарыну знакі доктара медыцыны.

На думку многіх дзеячаў культуры і медыцынскіх работнікаў, дзень 9 лістапада не можа згубіцца ў нетрах мінуўшчыны: ён выдатны і знамянальны, бо звязаны з дзейнасцю Ф. Скарыны, генія беларускай зямлі. Таму гэты адзін дзень з жыцця і навуковай дзейнасці Скарыны павінен быць незабыўным, ён павінен быць у нашых календарах як Дзень медыцынскага работніка Беларусі.

Таму група энтузіястаў медыкаў, дзеячаў культуры, журналістаў 11 лістапада 2017 г. правяла пасяджэнне грамадскасці на гэтую тэму, каб зацвердзіць 9 лістапада ў нашай памяці і ў календарах. Урачыстасць пачалася канцэртам музычнага калектыву «Brevis» пад кіраўніцтвам Паўла Сурагіна: гучала музыка XVI ст., часоў Скарыны — эпохі Адраджэння. Грунтоўна пра Скарыну і ягоны пераклад Бібліі апавяла Ірына Дубянецкая, доктар тэалогіі. Алесь Разанаў чытаў славутыя тэксты Ф. Скарыны ў сваім перастварэнні, а я распавёў прысутным пра партрэт Ф. Скарыны, змешчаны ў кнігах Біблії ў 1517 і 1518 гадах; доктар Мінскага дыягнастычнага цэнтра Віталь Равінскі прачытаў свой даклад «Лекар Францішак Скарына і яго час». Такім чынам у Беларусі адбылося тое, што павінна было даўно адбыцца. Цяпер у Беларусі ёсць свой Дзень медыцынскага работніка, які ў сваёй аснове напоўнены глыбокім зместам і асвечаны навуковай дзейнасцю вялікага асветніка і лекара Францішка Скарыны.

*Мікола Купава*

---

**Мікола КУПАВА** – мастак. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Оршы. У 1976 г. скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Удзельнік шматлікіх мастацкіх выставаў. Сябра Саюза мастакоў з 1978 года. Працаваў выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы (1976–1978), мастацкім рэдактарам часопіса «Маладосць» (1982–1984), намеснікам дырэктара Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава (1990–1996), выкладчыкам малюнка і акварэлі на архітэктурным факультэце БНТУ (2002–2006). Працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі, акварэлі, гістарычнай кампазіцыі, партрэта, краявіду. Даследуе беларускую архітэктуру, у прыватнасці аршанскае абарончае і сакральнае дойлідства. Лаўрэат прэміі Беларускага фонду імя Тадэвуша Касцюшкі ў галіне грамадскай працы на ніве культуры і адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны. Уладальнік вышэйшай узнагароды ў галіне кніжнага мастацтва ў Беларусі — дыплома і медаля імя Францыска Скарыны. Жыве і працуе ў Мінску.

Віталь Равінскі

# Лекар Францішак Скарына і яго час

Наш славуты суайчыннік Францішак Скарына быў не толькі беларускім і ўсходнеславянскім першадрукаром, асветнікам-гуманістам, грамадскім дзеячам, пісьменнікам, перакладчыкам і выдаўцом першых кніг на нашай мове. Ён быў таксама і прафесійным лекарам, доктарам медыцыны, які ўзняўся на вяршыню еўрапейскага медыцынскага Алімпа.

На жаль, гэты кірунак яго шматбаковай дзейнасці заслонены яго першадрукарствам і застаецца малавядомым з-за недахопу дакументальных сведчанняў.

Каб крыху прасвятліць гэты бок яго дзейнасці, трэба ўявіць сабе той гістарычны перыяд, на які прыпалі гады жыцця і творчасці Ф. Скарыны. А гэта была самая змрочная эпоха за ўсю гісторыю еўрапейскай цывілізацыі, гэта было Сярэднявечча — доўгі перыяд у гісторыі Еўропы паміж Антычнасцю і Новым часам, які цягнуўся больш за тысячу гадоў: ад краху Заходняй Рымскай імперыі ў V стагоддзі новай эры да эпохі Вялікіх геаграфічных адкрыццяў XVI стагоддзя.

Пачатак Сярэднявечча звязаны з тым, што ў 476 годзе вестготы, што прыйшлі з поўначы Еўропы, разбурылі Рым — Вечны горад, які меў тысячагадовую гісторыю і быў сталіцаю самай вялікай з усіх імперый. Рым быў поўнасцю зруйнаваны: ад двухмільённага насельніцтва засталося каля 20 тысяч жыхароў. На тым Рымская імперыя скончылася. Прышлыя варвары знішчылі ўсю вялікую антычную цывілізацыю Старажытнай Грэцыі і Рыма; адбыўся поўны заняпад навукі, культуры, адукацыі, маралі, права, грамадскага і гаспадарчага жыцця.

Праз Еўропу адна за адной пракочваліся эпідэміі і войны, працягвалася Вялікае перасяленне народаў (готаў, гунаў, цюркаў, арабаў, балгараў, венграў і іншых), узнікалі і гінулі цэлыя імперыі, і гэта адбывалася да пачатку другога тысячагоддзя, якое лічыцца пачаткам позняга Сярэднявечча.

З XI стагоддзя пачалося станаўленне феадальных манархій і аб'яднанне Заходняй Еўропы пад уладаю Апостальскай Сталіцы, якая на стагоддзі займе вызначальнае месца ва ўсіх галінах еўрапейскага жыцця, ахапіўшы і мараль, і палітыку, і навуку, і мастацтва, і адукацыю.

У той час важную ролю ў распаўсюджанні касцёльнага ўплыву адыгрывалі кляштары: яны былі буйнымі землеўладальнікамі, умацаванымі крэпасцямі і асяродкамі культурнага жыцця. Святары былі больш адукаванымі людзьмі ў параўнанні з насельніцтвам, і нават сярод манархаў і князёў пісьменныя людзі былі тады рэдкасцю...

Тым часам у Еўропе адбываўся хуткі рост гарадоў. Іх насельніцтва складалася з самых адчайных і вальнадумных элементаў грамадства. У гарады беглі прыгонныя сяляне, жабракі, туды цягнулася моладзь, людзі з авантурыстычным складам характару, збяднелыя феадалы. Узнікалі новыя віды дзейнасці, якія патрабавалі актыўнасці, спараджалі рацыяналістычны падыход да жыцця.

Гараджане аб'ядноўваліся ў камуны, стваралі свае органы самакіравання, вялі барацьбу за вызваленне ад феадальнай улады ці ўлады манастыра, на землях якіх яны жылі. Паступова гарады станавіліся апірышчамі каралеўскай улады, выплочвалі ёй падаткі і атрымлівалі ўзамен пэўныя льготы.

У XI–XIII стагоддзях пачала пашырацца адукацыя, якая ўсё больш адыходзіла ад рамак багаслоўя. Арганізацыя гарадскога жыцця дыктавала патрэбу ў адукаваных людзях. Павялічвалася колькасць школаў пры касцёлах і саборах, з'яўляліся гарадскія і прыватныя школы. Узнікненне попыту на юрыстаў, натарыусаў, медыкаў, святароў прывяло да новай формы адукацыі ў выглядзе ўніверсітэтаў.

Першым універсітэтам Заходняй Еўропы быў Балонскі, заснаваны ў 1088 годзе. Праз стагоддзе адчыніўся Парыжскі ўніверсітэт, затым іншыя, і да пачатку XVI стагоддзя ў Еўропе дзейнічала ўжо больш за 60 універсітэтаў, у тым ліку ў Польшчы Кракаўскі ўніверсітэт, у якім восенню 1504 года 14-гадовым хлапчуком пачаў вучыцца Францішак Скарына.

Універсітэт у сталіцы Польскага Каралеўства — Кракаве, быў заснаваны ў 1364 годзе

---

**Віталь Равінскі** — урач-патагістолаг у Мінскім кансультацыйна-дыягнастычным цэнтры (мае першую кваліфікацыйную катэгорыю ўрача-паталагаанатама). Нарадзіўся 23 лютага 1945 г. у Кранштаце. Скончыў лячэбны факультэт Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Захапляецца пешым і водным турызмам. Аўтар двух сотняў песняў, дзясяткі з якіх друкаваліся ў СМІ. Удзельнік ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Жыве ў Мінску.



Невядомы аўтар. «Ампутацыя галёнкі цырульнікам пад наглядам дыпламаванага лекара», XVI ст. Франкфурцкі музей.



Гер Ван Хонтхорст. «Вырыванне зуба», 1628. Луўр, Парыж.



Еранім Босх. «Выманне каменя глупства (трэпанацыя чэрапа)», 1494. Музей Прада ў Мадрыдзе.

Казімірам Вялікім, а ў 1400 годзе кароль Ягайла значна пашырыў гэтую ўстанову, і пазней яна атрымала сваю другую назву — Ягелонскі ўніверсітэт. Статус універсітэтаў грунтаваўся на адноснай незалежнасці ад мясцовай свецкай і духоўнай улады.

Далучыцца да навукі тады мог любы жадаючы, незалежна ад паходжання, забяспечанасці і становішча ў грамадстве, калі ён быў мужчынскага полу, меў пэўную колькасць грошай і ведаў латынь, на якой вялося навучанне ва ўсіх універсітэтах Еўропы. У часы Ф. Скарыны ў Кракаўскім універсітэце вучылася каля 9 тысяч студэнтаў, з якіх больш за палову былі іншаземцамі.

Пачаткоўцы без іспытаў залічваліся на факультэт вольных мастацтваў, які лічыўся падрыхтоўчым. На ім праз дватры гады вучобы можна было атрымаць званне бакалаўра вольных навук, і яшчэ праз два-тры гады — ступень магістра. Для атрымання ступені бакалаўра ці магістра студэнт мусіў прайсці вельмі складаныя іспыты. Звычайна з сотні залічаных на навучанне студэнтаў не больш за тры дзясяткі даходзілі да экзаменаў на бакалаўра і толькі пяцёра ці шасцёра з іх з’яўляліся на магістарскі іспыт. Званне магістра вольных навук адкрывала доступ на вышэйшыя факультэты ўніверсітэта — юрыдычны, багаслоўскі і медыцынскі.

Навучанне на медыцынскім факультэце працягвалася тры гады разам з практыкай. Пасля прэтэндэнт таксама здаваў іспыты на бакалаўра, затым на магістра медыцыны, і тыя, хто не меў схільнасці да навукі, маглі пасля гэтага прысвяціць сябе практычнай дзейнасці ў шпіталях ці на прыватных прыёмах.

Для атрымання вышэйшай ступені — доктара медыцыны — трэба было, акрамя практычнай дзейнасці, абараніць доктарскую дысертацыю перад вышэйшым саветам універсітэта. Дысертацыі пісаліся і абараняліся на латыні. За вучобу і за экзамены трэба было плаціць. У XVI стагоддзі ў Парыжы здаць экзамен на ступень магістра мастацтваў каштавала каля 60 ліўраў, а на ступень доктара медыцыны — 880 ліўраў (гэта быў амаль трохгадовы заробак каралеўскага мушкецёра).

Пасвячэнне ў доктары медыцыны заўжды станавілася вялікай падзеяй і для ўніверсітэта, і для ўсяго горада і праводзілася з вялікай пышнасцю, з агульным святкаваннем і карнавалам. Дактароў медыцыны ў той час было няшмат, яны працавалі на кафедрах універсітэтаў, узначальвалі шпіталі, працавалі пры дварах каралёў і магнатаў.

Францішак Скарына пасля двух гадоў навучання на факультэце вольных мастацтваў Кракаўскага ўніверсітэта 14 снежня 1506 года быў адзначаны навуковай ступенню бакалаўра мастацтваў. Наступную ступень магістра і медыцынскую адукацыю ён атрымаў, хутчэй за ўсё, таксама ў Кракаве, дзе былі дзве кафедры медыцыны (але без права выдаваць доктарскія дыпломы).

Ступень доктара медыцыны Францішак Скарына атрымаў у старажытным італьянскім горадзе Падуі, у мясцовым Падуанскім універсітэце. Ён прыбыў туды менавіта для здачы экзамена на гэтую навуковую ступень, пра што сведчыць актавы запіс універсітэта ад 5 лістапада 1512 года...

6 лістапада 1512 года Францішак Скарына прайшоў выпрабаванні, а 9 лістапада перад вучонай калегіяй славутага ўніверсітэта ён бліскуча здаў экзамен на ступень доктара медыцыны. Экзамен адбываўся ў саборы св. Урбана. Як сведчыць дакумент, у гэты дзень ён «быў экзаменаваны асобным і строгім чынам па пытаннях, прапанаваных яму раніцай гэтага дня. Ён праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна ў час гэтага свайго строгага экзамену, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў аднадушнае ўхваленне ўсіх прысутных вучоных без



Невядомы аўтар. «Лекцыя па анатоміі Джона Баністэра», 1581. Музей Глазга.



Гравюра невядомага аўтара. «Кровапусканне».

выключэння, і было прызнана, што ён мае дастатковыя веды ў галіне медыцыны. Яснавяльможны пан віцэ-прыёр Тадэй Мусаці абвясціў яго ўстаноўленым чынам доктарам медыцынскіх навук. Пасля гэтага выдатны доктар мастацтваў і медыцыны пан магістр Барталамей Барызон, прамотар, ад свайго імя і імя калег уручыў яму знакі медыцынскай годнасці».

Дарэчы, тады гэта былі: чорны каўпак з чырвоным пэндзлікам, залаты пярсцёнак — «сымбаль высакароднасці», залачоны пояс да чырвонай мантыі і зборнік твораў Гіпакрата. Так наш вялікі суайчыннік быў далучаны да кагорты найвыдатнейшых мужоў еўрапейскай навукі.

Пасля падуанскага трыумфу Францішак Скарына займаўся лекарскай практыкай і рыхтаваўся да сваёй далейшай кнігавыдавецкай дзейнасці. А ў апошнія гады свайго жыцця Скарына зноў вярнуўся да сваёй першай прафесіі, працуючы ў якасці садоўніка і лекара пры двары караля Чэхіі і Вугоршчыны Фердынанда.

Тагачасная медыцына знаходзілася, на жаль, у бездапаможным стане: тысячагадовы заняпад еўрапейскай навукі, асветы і культуры адбіўся і на ёй самым трагічным чынам. Былі знішчаны і страчаны ўсе навуковыя поспехі і дасягненні часоў Старажытнай Грэцыі і Рыма. Усё трэба было пачынаць нанова.

Навуковым вышукам і адкрыццям вучоных, як і ўвогуле навуцы, ставіла шчыльную заслону Царква. Тое нямногае, што было дапушчана ёю ў якасці кананічных медыцынскіх і багаслоўскіх поглядаў на чалавека і яго хваробы, не магло пераглядацца ў святле новых дадзеных; адступленне ад канонаў лічылася ерассю і жорстка каралася інквізіцыяй. Якраз пры жыцці Францішка Скарыны за такія «правіны» пайшоў на вогнішча Джардана Бруна, прынялі пакутніцкую смерць многія іншыя даследчыкі прыроды, ад сваіх поглядаў адмовіўся пад катаваннямі Галілеа Галілей...

Нават веды пра будову чалавечага цела былі далёкімі ад сапраўднасці і не маглі выпраўляцца, бо анатаміраванне целаў нябожчыкаў (за рэдкімі выключэннямі) забаранялася пад пагрозай смерці. Панавала тэорыя паходжання хваробаў як пакарання за грахі. Тэрапія зводзілася да малітваў, замоваў, амулетаў і рэлігійных пастоў. Шырока ўжываліся толькі клізмы і кровапусканні, а з лекаў — адвары, настоі, прысыпкі і мазі са шматлікіх зёлак, некаторыя мінералы і рэчывы жывёльнага паходжання. Раны прыпальвалі жалезам або залівалі кіпячым алеем ці смалою. Не было ніякага ўяўлення пра мікробы і інфекцыі. Любое сур'ёзнае захворванне ці раненне звычайна заканчвалася смерцю.

Толькі збіранне па крупінках адмысловых ведаў, індывідуальны падыход, увага да пацыента, асабісты вопыт і вялікі прыродны талент дазвалялі найлепшым з тагачасных лекараў аказваць параненым і хворым належную медыцынскую дапамогу. Такія лекары карысталіся ў насельніцтва вялікай прыхільнасцю і павагаю. Ступень доктара медыцыны, якой быў ушанаваны наш знакаміты зямляк, якраз і сведчыць аб такіх яго ведах і здольнасцях.

Да станаўлення прафесійнай медыцыны, што з'явіцца пры Адраджэнні, якое зменіць Сярэднявечча, заставалася яшчэ каля стагоддзя, але, як і айцец медыцыны Гіпакрат у свой час, так і доктар Скарына ў гады Сярэднявечча годна займаўся сваёю высакароднаю справаю.

Ён назаўжды застанецца ў гісторыі нашай Айчыны і ў памяці будучых пакаленняў не толькі вялікім асветнікам і першадрукаром, але і адным з нямногіх у той час па-еўрапейску адукаваных і прызнаных свяцілаў медыцынскай навукі — доктарам медыцыны Францішкам Скарынам з Полацка.



Касцёл у Цімкавічах.
Малюнак Ф. Бруздовіча. 1908 г.

Тамара Габрусь

# Драўляныя базылікі Беларусі

У наш час тытул *базыліка* надаецца Папам Рымскім найбольш значным рымска-каталіцкім храмам незалежна ад іх архітэктурнага вырашэння. Латэранская базыліка ў Рыме з папскай катэдраю мае тытул *архібазыліка*, 6 найбуйнейшых сабораў Рыма і Асізі маюць тытул *вялікая базыліка*, яшчэ 12, падпарадкаваных непасрэдна Папу Рымскаму, завуцца *Папскімі базылікамі*, а 3 біскупскія — *патрыярхальнымі базылікамі*. Звыш 1500 паломніцкіх святыняў маюць тытул *малой базылікі*.

У гэтым артыкуле пойдзе гаворка пра базыліку як старажытны тып збудавання, што мае сваю адметную ўстойлівую архітэктоніку. Вынайдзеныя ў Старажытнай Грэцыі і запазычаныя Старажытным Рымам, у антычным свеце базылікі першапачаткова мелі свецкі характар і прызначаліся для пасяджэнняў судоў і гандлёвых суполак. У класічным варыянце гэта прамавугольны ў плане будынак, падзелены шэрагамі апораў на няцотную колькасць падоўжных памяшканняў-наваў (1, 3, 5), з якіх сярэдняя больш шырокая і высокая за бакавыя і асвятляецца дадатковымі вокнамі ў верхняй частцы сценаў. Азначаная аб'ёмна-прасторавая структура з характэрным рознавышынным светлавым «базылікальным разрэзам» дазваляла рабіць надзвычай умяшчальныя і добра асветленыя ўнутры пабудовы, якія не выпадкова назвалі базылікамі — *домам цара* (ад наймення візантыйскага імператара — *базылеўс*), а ў хрысціянскай традыцыі — *домам Цара Нябеснага*.

Дзякуючы сваёй рэпрэзентатыўнасці і канструкцыйнай дасканаласці, з V ст. базыліка стала асноўным тыпам хрысціянскай архітэктуры лацінскага арэалу. Мастацкі вобраз і сілуэт базылікі абумоўлены, у першую чаргу, яе архітэктонікай, паслядоўным рытмічным крокам апораў і працяглай гарызанталлю даха. Таму ў хрысціянскай сакральнай сімволіцы базыліцы была нададзена семантыка карабля, альбо каўчэга. У кампазіцыі велічнай заходнехрысціянскай базылікі дамінавалі высокая цэнтральная нава і роўная з ёю па вышыні і шырыні папярочная нава (трансепт), што ўтваралі ў верхнім сячэнні збудавання план у форме выцягнутага крыжа, які ў гісторыі архітэктуры вызначаны як лацінскі. Упершыню гэтая кампазіцыя з'явілася пры будаўніцтве ў пачатку IX ст. на месцы антычнага цырка імператара Нерона рымскай базылікі св. Пятра. Сяродкрыжжа, як і астатнія прасторавыя ячэйкі паміж апорамі, перакрывалася крыжовым скляпеннем, а звонку акцэнтавалася востраверхім шатром.

У архітэктуры сярэднявечнай Італіі базылікі мелі бязвежавыя галоўныя фасады, якія выяўлялі характэрны базылікальны разрэз збудавання. Побач ставілася высокая вежа-кампаніле квадратнага сячэння. У архітэктуры Сярэднявечнай Францыі, Германіі і іншых цэнтральнаеўрапейскіх краінаў падоўжную дынаміку базылікі з заходняга боку спыняў высокі і вузкі аб'ём уваходнага нартэкса з адной цэнтральнай

---

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.

вежай-вестверкам ці двума сіметрычнымі бакавымі вежамі, увенчанымі высокімі шатрамі. Відавочна, што ў гісторыка-культурным кантэксце мастацкія формы храмабудаўніцтва былі абумоўленыя архітэктурнай традыцыяй, магчымасцямі будаўнічага рамяства і рэлігійна-канфесійнымі канонамі.

З'яўленне базылікі ў сакральным дойлідстве Вялікага Княства Літоўскага было вынікам кардынальных сацыяльных зменаў, хрышчэннем насельніцтва этнічнай Літвы ў каталіцтва ў 1387 г., а таксама пашырэннем дзейнасці каталіцкіх жабрацкіх ордэнаў бэрнардынаў і франціцішканаў. Першыя мураваныя базылікі гэтых ордэнаў з выразнымі рысамі заходнееўрапейскай готыкі з'явіліся ў Вільні і Коўне. На тэрыторыі сучаснай Беларусі ўзвядзенне першай мураванай базылікі — фарнага касцёла ў Гродне — фундаваў у 1574 г. кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый, які меў у гэтым горадзе рэзідэнцыю. У гісторыі Беларусі гэтая базыліка вядомая як фара Вітаўта, што сведчыць пра заснаванне каталіцкай парафіі на мяжы XIV–XV стагоддзяў. У архітэктуры гэтай святыні з магутнай вежай-вестверкам на галоўным фасадзе спалучыліся рысы мясцовай готыкі і італьянскага рэнесансу. Яе стваральнік, італьянскі архітэктар Джавані Марыя Бернардоні, манах ордэну езуітаў, запрошаны з Рыма «некаранаваным каралём» Вялікага Княства Літоўскага князем М.-К. Радзівілам Сіроткам, у хуткім часе пабудаваў у Нясвіжы, цэнтры княжацкай ардынацыі, яшчэ адну базыліку — касцёл Божага Цела (1587–1601 гг.), які стаў першым творам архітэктуры барока ў Рэчы Паспалітай.

Стыль барока нарадзіўся ў Італіі ў храмабудаўніцтве ордэну езуітаў, улюбёным архітэктурным тыпам якога была крыжова-купальная базыліка з бязвежавым фасадам, побач з якой звычайна стаяла высокая вежа-званіца — кампаніле. Па ўзоры італьянскіх сабораў нясвіжскі касцёл езуітаў атрымаў вялізны купал на сяродкрыжжы, які дамінаваў над нізкай драўлянай забудовай мястэчка, але не меў высокіх вежаў на галоўным фасадзе. Побач з касцёлам была пастаўлена масіўная мураваная вежа-званіца крапаснога тыпу. Неспрактыкаванасць мясцовых майстроў у справе ўзвядзення з цэглы купалоў вялікага пралёту, абрушэнне купала падчас будаўніцтва базылікі св. Казіміра ў Вільні прывялі да вельмі асцярожнага іх выкарыстання, таму на працягу XVII–XVIII стст., у эпоху панавання стылю барока, на беларускіх землях найбольшае пашырэнне атрымалі класічныя прамавугольныя ў плане бяскупальныя базылікі, альбо лацінскія (з планам у выглядзе крыжа) з магутным паўкруглым прэзбітэрыем у завяршэнні цэнтральнай навы.

У перыяд ранняга барока каталіцкія базылікі Беларусі мелі бязвежавыя галоўныя фасады, што выяўляе іх італьянскі генезіс. Але паступова ва ўзаемадзеянні з заходнееўрапейскімі тэндэнцыямі і мясцовымі традыцыямі абарончага дойлідства пачаў фарміравацца барочны тып базылікі з двухвежавым фасадам. Пасля крывавай польска-шведска-рускай вайны сярэдзіны XVII ст., названай у народзе «патопам», у сацыяльным жыцці Рэчы Паспалітай пашырылася ідэалогія сарматызму, статуснага мясцовага патрыятызму, што адбілася на архітэктурных формах каталіцкага храмабудаўніцтва. Канцэптуальнае мастацка-вобразнае адзінства кампазіцыйных, канструкцыйных і дэкаратыўных характарыстык шэрагу мясцовых мураваных касцёлаў, пранізаных духам хрысціянскага рыцарства, вызначана намі як *сармацкае барока*. Найбольш характэрнаю рысаю помнікаў сармацкага барока з'яўляюцца дзве сіметрычныя чацверыковыя (квадратныя ў плане) прызматычныя вежы па баках галоўнага фасада, якія выглядаюць архаічнымі для эстэтыкі Новага часу. У касцёлах перыяду сталага барока галоўны фасад становіцца нечым накшталт шырмы, якая закрывае рэальную будову і надае фасаду сімвалічную знакавасць. У суровых вежах сармацкіх святыняў можна ўбачыць гатычныя рэмінісцэнцыі, рыцарскае духоўнае прадстаянне перад Богам, прыхільнасць да роднай традыцыі (адпаведнасць «свайму небу і звычаю», паводле першага мясцовага архітэктурнага трактата Лукаша Апалінскага) і іншыя сармацкія канцэпты.

Носьбітамі сармацкага светапогляду ў архітэктуры Вялікага Княства Літоўскага сталі жабрацкія каталіцкія ордэны, місіянерская дзейнасць якіх была скіраваная на сярэднія пласты грамадства — шляхту і заможных мяшчанаў, якія выступалі фундатарамі касцёлаў. Трохнававыя мураваныя базылікі гэтага напрамку часцей мелі прамавугольныя алтарныя апсіды, спрошчаная форма якіх абумоўленая, магчыма, дэклараваннем аскетычнага статусу гэтых ордэнаў. Падкрэсленая вонкавая «жабрацкасць» кампенсавалася складанай прасторава разгорнутай архітэктурнай кампазіцыяй інтэр'ераў з пышнымі барочнымі алтарамі і стукавай ляпнінай (мураваныя базылікі дамініканаў у Мінску, Стоўбцах, кармэлітаў босых у Глыбокім).

Сродкамі культурна-асветніцкай дзейнасці жабрацкіх ордэнаў адбывалася пашырэнне каталіцызму сярод сялянаў, звыш 80% якіх на той час былі грэка-католікамі. Прынамсі на гэтым этапе адбылося творчае злучэнне этнічных прыёмаў драўлянага будаўніцтва са стылёвымі характарыстыкамі прафесійнай мураванай каталіцкай архітэктуры, што на стагоддзі вызначыла самабытнасць беларускага драўлянага сакральнага дойлідства. У першую чаргу гэта прывяло да стварэння традыцыйнага драўлянага храма клецевага тыпу базылікальнай канцэпцыі. Але вобраз і структура ўласна базылікі, шмат'яруснага «карабля-каўчэга», знайшлі і непасрэднае дакладнае ўвасабленне ў драўляным каталіцкім і грэка-каталіцкім храмабудаўніцтве Беларусі. Як не дзіўна, але гэты тып сакральнага збудавання, па сутнасці архетып, зусім

не даследаваўся ў гісторыі беларускага драўлянага дойлідства і да гэтага часу не вылучаўся ў навуковай класіфікацыі храмаў. У драўляным дойлідстве суседніх краінаў тып драўлянай базылікі ёсць толькі ў архітэктурнай спадчыне сучаснай Літвы, што не выпадкова з прычыны агульнасці нашага гістарычнага лёсу. Украінскія даследчыкі памылкова адносяць да тыпу базылікі звычайныя клецевыя храмы без унутраных апорных слупоў, абкружаныя абхаднымі галерэямі-апасанямі.

Кожная драўляная базыліка ў храмабудаўніцтве Беларусі вылучалася самабытнымі кампазіцыйнымі варыяцыямі. Найбольш істотнай асаблівасцю для вызначэння тыпалогіі базылікі з'яўляецца «базылікальны разрэз» — розная вышыня наваў у сіметрычным папярочным сячэнні збудавання. У класічным варыянце ён павінен быць светлавым — з вокнамі ў верхняй частцы цэнтральнай навы, але ў айчынных драўляных святынях дахі бакавых наваў часам даводзіліся да карніза цэнтральнай навы, што пакідала яе без верхняга асвятлення. Калі бакавыя навы аб'ядноўваліся з цэнтральнай агульным дахам, сіметрычны рознавышынны папярочны разрэз захоўваўся толькі ўнутры будынка — такі тып збудавання вызначаецца як псеўдабазыліка, якіх у драўляным храмабудаўніцтве Беларусі, магчыма, нават болей, чым базылік класічных.

Найбольш характэрны ацалелы помнік тыпу класічнай базылікі **— касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Адэльск (Гродзенскі р-н).** Каталіцкая парафія была заснаваная тут у 1490 годзе. Першы драўляны касцёл пабудаваны ў 1601 г. па фундацыі караля Жыгімонта III Вазы. Існуючы касцёл пабудаваны ў 1784 годзе. Гэта класічная прамавугольная ў плане драўляная базыліка з трансептам, унутраным нартэксам і пяцігранным прэзбітэрыем. Будынак падзелены 10-цю слупамі на 3 навы, вылучаныя аркадамі. Цэнтральная нава накрыта вальмавым дахам і асветлена невялікімі круглымі люкарнамі. Вільчык над нартэксам прарэзвае васьмігранны барабан з фігурнай галоўкай-«банькай». Вузкія больш нізкія бакавыя навы накрыты аднасхільнымі дахамі, якія працягнуты на сіметрычныя прыбудовы, што ўключаюць крылы трансепта і двухкамерныя сакрыстыі. Вертыкальная шалёўка сценаў умацаваная сцяжкамі-«лісіцамі». Аконныя і дзвярныя праёмы маюць арачныя завяршэнні. Унутры над уваходам размешчаны музычныя хоры на двух слупах.

У мястэчку **Дзівін (Кобрынскі р-н)**, акрамя вядомай царквы Параскевы Пятніцы (былой уніяцкай), існаваў драўляны касцёл, заснаваны ў 1660 г. каралём Янам Казімірам Вазам. З інвентара 1830 г. (НБ ВУ, АР, ф. 4, спр. 2170) вынікае, што гэта была трохнававая базыліка з трансептам, перакрытая скляпеннем і з арміраванаю паркетнаю падлогаю.

Каталіцкая парафія ў мястэчку **Кабыльнік (б. Свянцянскі павет, цяпер г.п. Нарач Мядзельскага р-на)** была заснаваная ў 1434 г. князем Андрэем Свірскім. Драўляны парафіяльны **касцёл св. Андрэя Апостала**, пабудаваны ў 1651 г. і спалены падчас «нашэсця Масквы», быў адбудаваны да 1678 года. Новы драўляны касцёл пабудавалі ў 1736 г. на сродкі ўладальніка маёнтка Марціна Аскеркі, кашталяна навагрудскага (адноўлены пасля пажару 1862 г. коштам плябана Людвіка Мініцкага і шляхціца Тытуса Свентаржэцкага). У 1897–1901 гг. драўляны касцёл быў заменены новым мураваным храмам у неагатычным стылі. Выгляд драўлянага касцёла вядомы па гравюры А. Ромера (1880 г.). Касцёл меў развітую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю трохнававай базылікі з трансептам і двухвежавым галоўным фасадам. Святыня, паводле інвентара, была «немалых памераў», з трыма алтарамі і старажытным цудатворным абразом Маці Божай. Крылы трансепта, роўнай вышыні з бакавымі навамі, былі накрыты высокімі чатырохсхільнымі гонтавымі шатрамі. Галоўны фасад меў шмат'ярусную будову, што надавала яму вытанчанасць, уласцівую віленскаму барока. Кампазіцыю фасада вянчалі трохвугольны франтон і чацверыкі вежаў з фігурнымі барочнымі завяршэннямі. Зрубава-каркасная званіца, апярэзаная двума паясамі гонтавых прычолкаў і завершаная гонтавым шатром-каўпаком, стаяла на паўднёвы захад ад касцёла (рэстаўравана ў 1925 і 1995 гг., гонт заменены бляшаным пакрыццём).

**Каталіцкая парафія ў в. Ставы** (Камянецкі р-н) была заснаваная ў 1461 г. Янам і Юрыем Стаўскімі. Драўляны **касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Якуба**, пабудаваны ў 1724 г., у 1739 г. быў асвечаны Луцкім біскупам Ружыцкім. Не існуе. Архітэктоніка храма імітавала класічную базыліку з прамавугольным планам.

**Касцёл Узвышэння Св. Крыжа ў мястэчку Ляхавічы** (цяпер горад, цэнтр раёна) быў пабудаваны ў 1745 г. і адноўлены пасля пажару ў 1750 г. князем Міхалам Масальскім, у 1863 г. перададзены праваслаўным. Не існуе. Вядомы паводле інвентара 1782 г. і кнігі А. Асяндоўскага «Палессе. Цуды польскія». Архітэктанічна ўяўляў класічную трохнававую двухвежавую базыліку з трохгранным завяршэннем прэзбітэрыя. Інтэр'ер святыні меў багатае ўбранне «сніцарскай работы»: разьбяныя з пазалотаю алтары, табэрнакулюм, канфесіяналы, бронзавыя жырандолі. Цікавасць уяўляла асобна пастаўленая трох'ярусная званіца, якая мела ніжні чацверыковы ярус з шырокім прычолкам, а над ім даволі масіўны глухі васьмярык, завершаны скразным ярусам і вялікім самкнёным купалам.

Драўляны **касцёл езуітаў пад тытулам св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску** быў пабудаваны ў 1760–1770-я гг. Меў тэктоніку класічнай базылікі (РДАГА. Ф. 2188, воп. 1, спр. 36, л. 1–1 адв.).

У каталіцкай парафіі ў мястэчку **Койданава (г. Дзяржынск)**,

якая існавала з 1493 г., акрамя мураванага кальвінскага збору, пазней перабудаванага ў касцёл Міхала Арханёла, быў драўляны парафіяльны касцёл Апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, пабудаваны ў 1768 годзе. Трохнававы храм з двухвежавым фасадам-нартэксам меў надзвычай маляўнічыя познебарочныя абрысы франтона і завяршэнні чацверыковых вежаў.

**Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў в. Груздава (Пастаўскі р-н)** быў заснаваны ў 1529 годзе. У 1773 г. быў узведзены новы храм у выглядзе трохнававай двухвежавай базылікі, істотна перабудаваны на мяжы XIX–XX стст. у стылі неаготыкі (вядомы паводле фотаздымка Я. Балзункевіча).

Драўляны парафіяльны **Троіцкі касцёл у Драгічыне** быў пабудаваны ў 1773 г. у стылі позняга барока. Вядомы паводле архіўных матэрыялаў (НГАБ г. Гродна, ф. 8, воп. 1, спр. 1223). Гэта была класічная трохнававая базыліка з двухвежавым фасадам-нартэксам. Чацверыковыя вежы мелі двух’ярусныя фігурныя купалы-«банькі». Яшчэ адна «банька» мясцілася над прэзбітэрыем, выяўляючы сімволіку Святой Тройцы. Паміж вежамі знаходзіўся «свабодны» франтон з шырокім прычолкам. Сакрыстыі былі ўбудаваны ўнутры бакавых наваў. Сцены мелі вертыкальную шалёўку з нашчыльнікамі і сцяжкамі-«лісіцамі». Інтэр’ер быў падзелены 6-цю слупамі, над уваходам мясціліся хоры.

**Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў мястэчку Узда** (цяпер гарадскі пасёлак) быў пабудаваны ў 1798 г. па фундацыі Казіміра Завішы (цяпер выкарыстоўваецца як Дом культуры). Архітэктанічна з’яўляецца трохнававай крыжовай базылікай лацінскага тыпу (цэнтральная нава і трансепт утвараюць у плане на ўзроўні карніза выцягнуты лацінскі крыж). Уваходная частка вырашана вузкім аб’ёмам нартэкса, распластанага па шырыні базылікі (раней завяршалася атыкам і двума чацверыковымі вежамі). Пры перабудовах у XIX і XX ст. да нартэкса быў прыбудаваны чатырохкалонны мураваны порцік, а да алтарнай часткі — трохгранная мураваная апсіда, зменена канструкцыя дахаў і шалёўка. Унутраная прастора падзелена 12-цю мураванымі калонамі з вылучэннем наваў, сяродкрыжжа і музычных хораў, на якіх раней быў арган на 11 галасоў. На алтарнай сцяне знаходзілася аптычная размалёўка з выявай барочнага алтара. Паводле вобразна-кампазіцыйнага вырашэння помнік мае агульныя рысы з касцёлам Міхала Арханёла ў Цімкавічах Капыльскага р-на, што з прычны іх рэгіянальнай блізкасці дазваляе гаварыць аб лакальнай школе драўлянага храмабудаўніцтва.


Драўляны касцёл у Кабыльніку. Гравюра А. Ромера, 1880 г.

Каталіцкая парафія ў **Цімкавічах** была заснаваная ў 1560 г. князем Янам Сымонам, сынам Юрыя I Алелькі, уладальніка ўдзельнага Слуцкага княства. У 1580 г. тут быў пабудаваны першы драўляны **касцёл**, асвечаны ў гонар **Міхала Арханёла** Віленскім біскупам Юрыем Радзівілам. У 1647 г. на яго падмурку пабудавалі новы касцёл па фундацыі падканцлера літоўскага Казіміра Льва Сапегі. Пазней будынак касцёла неаднаразова аднаўлялі, асабліва істотна ў пачатку XX ст., але пасля Вялікай Айчыннай вайны яго прыстасавалі пад царкву. У 1986 г. храм быў знішчаны пажарам. Аб’ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка імітавала ў дрэве трохнававую базыліку з трансептам, вызначалася цэласнасцю і маналітнасцю формаў. Вялікі прамавугольны ў плане асноўны зруб падзяляўся двума радамі круглых калонаў (іх было 10) на тры навы, сярэдняя з якіх была вышэй і ўтрая шырэй за бакавыя. Звонку ўсе навы былі накрытыя агульным высокім гонтавым дахам з вальмамі над трохгранным завяршэннем прэзбітэрыя. Дапаможныя памяшканні размяшчаліся па вуглах асноўнага аб’ёма і не выступалі за лінію фасадаў. Дзве сіметрычныя прыбудовы з двухсхільнымі дахамі па баках алтарнай часткі імітавалі трансепт і надавалі плану касцёла выгляд лацінскага крыжа, але не былі адкрытыя ў інтэр’ер храма.

На фасадзе на ўзроўні хораў знаходзіўся балкончык для музыкаў з разьбянаю агароджаю (вежы і балкончык разабралі пры рэканструкцыі касцёла пад царкву). У 1906–1908 гг. над аздобаю інтэр’ера працаваў вядомы мастак з Піншчыны Францішак Бруздовіч (захаваўся яго малюнак святыні), які выканаў выключныя па мастацкіх якасцях арнаментальна-дэкаратыўныя роспісы касцёла. Столь, сцены, слупы, бэлькі — усе драўляныя канструкцыі — цалкам пакрытыя былі шматкаляровым квяцістым «дываном» з выявамі мясцовай флоры. I. Жыскар, складальнік вядомага даведніка «*Nasze kościoły*» (1913), адзначыў, што «цімкавіцкі касцёл багаццем фарбаў, эстэтычнай гармоніяй, жывой гульнёй паліхроміі стаў для Літвы і Белай Русі тым жа, чым стаў касцёл францішканаў, афармлены Станіславам Выспяньскім для Кракава».

*Працяг будзе.*

## CONTENTS

We begin the new issue of the quarterly magazine "Our Faith" with the publication of the treatise of St. John of the Cross "The Ascent of Mount Carmel" (translated from Spanish by S. Gresvi) (p. 2-5).

In column "Discussion" we print two articles from the magazine «W drodze», concerning the sensational exhortation of Pope Francis "Amoris Laetitia" ("New Susceptibility of the Church?" and "The Flock Knows Where to Go") (p. 6-13).

We continue to publish the translation from English (by Y. Shedzko) of "The Four Loves" by C. S. Lewis (Section VI, Charity) (p. 14-17).

Historian A. Shpunt offers the readers his article "Princess Magdalena Radziwiłł Is a Great Belarusian Maecenas" (p. 18-22).

In column "Art" a well-known collector and restorer I. Surmacheuski in his article "Paleski Iconostasis" writes about the unique folk icons (continuation) (p. 23-25).

Article "Salesian 'Atlantis' on the Belarusian Land" by deacon A. Lyashneuski SDB is dedicated to the first church of St. John Bosco in the Polish-Lithuanian Commonwealth (p. 26-29).

In article by Y. Lauryk "The History of the Library of the Bernardine Convent in Budslau" the author tells the story of one of the most interesting monastery book collections in Belarus (p. 30-34).

Article "Hildegard of Bingen" by abbess Marie-Christine Rasion of the Benedictine monastery in Liège (Belgium) acquaints readers with the figure of the woman who Saint Bernard called "Mater et Magistra" (translated from French by A. Tihanava) (p. 35-39).

In column "Poetry" we print verses by M. Duksa and A. Sprynchan (p. 40-43).

In the essay "The Barn from My Happy Childhood" D. Bichel writes about her native land (p. 44-47).

H. Shauchenka writes about new book of poems by Jan Twardowski "Pass It On" translated into Belarusian by K. Lalko ("Pro Christo", 2018) (p. 48-49).

Parting words by K.Lalko are dedicated to the memory of the talented Belarusian folklorist A. Lis (p. 50-51).

A well-known folklorist U. Vasilevich in his article "From the Cohort of Initiators" tells the readers about the famous Belarusian scientists, two brothers Konstanty and Eustachy Tyszkiewicz, who laid the foundations of museum work in Belarus (p. 52-59).

Literary crictic I. Bagdanovich offers the readers a translation of the story by Polish-Belarusian writer G. Puzynina "Pros and Cons" (p. 60-63).

Artist M. Kupava in his article "Day of Medical Worker of Belarus" talks about Francysk Skaryna as a talented doctor of medicine. Article by V. Ravinski "Doctor Francysk Skaryna and his time" is dedicated to the same topic (p. 64-67).

Doctor of Arts T. Gabrus in her article "Wooden Basilicas in Belarus" tells about one of the most interesting forms of sacred architecture (p. 68-71).

## RESÜMEE

Die neue Ausgabe der Vierteljahreszeitschrift „Naša vera" („Unser Glaube") beginnt mit der Publikation des Traktates des heiligen Johannes vom Kreuz „Aufstieg auf den Berg Karmel" (aus dem Spanischen von S. Greswi; Fortsetzung) (S. 2-5).

In der Rubrik „Diskussion" sind zwei Beiträge aus der Zeitschrift „W drodze" veröffentlicht, die dem spektakulären nachsynodalen Schreiben des Papstes Franziskus „Amoris laetitia" gewidmet sind: „Eine neue Wahrnehmung der Katholischen Kirche?" und „Die Herde weiß, wohin zu gehen ist" (S. 6-13).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung des Buches „Vier Arten der Liebe" von C.S. Lewis (Abschnitt VI „Barmherzige Liebe", aus dem Englischen von J. Schedsjko) (S. 14-17).

Der Historiker A. Spunt präsentiert den Leserinnen und Lesern den Artikel „Fürstin Magdalena Radsiwill – eine große belarussische Mäzenatin" (S. 18-22).

In der Rubrik „Kunst" berichtet I. Surmatscheuski, ein bekannter Sammler und Restaurator, im Artikel „Die Ikonostase von Polesien" über einzigartige volkstümliche Ikonen (Fortsetzung der Publikation) (S. 23-25).

Der Geschichte der Kirche des heiligen Johannes von Gott, der ersten katholischen Kirche auf dem Territorium der Rzeczpospolita, ist der Artikel „Die salesianische 'Atlantis' auf belarussischem Boden" des Priesters A. Ljaschneuski SDB gewidmet (S. 26-29).

Der Artikel J. Lauryk „Die Geschichte der Bibliothek des Budslawer Konventes der Bernhardinermönche" handelt von einer der interessantesten klösterlichen Büchersammlungen in Belarus (S. 30-34).

Der Artikel „Hildegard von Bingen" von Marie-Christine Rasion, der Äbtissin des Benediktinerklosters in Lüttich (Belgien), macht die Leserinnen und Leser mit der Frau bekannt, die der heilige Bernhard «Mater et Magistra» genannt hat (aus dem Französischen von A. Zichanawa) (S. 35-39).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte von M. Duksa und A. Spryntschan (S. 40-43).

Im Essay „Eine kleine Scheune aus meiner glücklichen Kindheit" schreibt D. Bitschel über ihre heimische Umgebung (S. 44-47).

Über den neuen Lyrikband „Erzählt es weiter" des Priesters Jan Twardowski in der belarussischen Übersetzung von K. Lialko („Pro Christo", 2018) schreibt G. Schautschenka (S. 48-49).

Dem Andenken an A. Lis, den begabten belarussischen Folkloristen, ist das Abschiedswort „Ein Lied beginnen…" von K. Lialko gewidmet (S. 50-51).

U. Wassilewitsch, ein bekannter Folklorist, berichtet im Artikel „Aus der Riege der Wegbereiter" über die berühmten belarussischen Wissenschaftler, die Brüder Kastanzin und Jaustach Tyschkewitsch, die gemeinsam die Grundlagen der Museumskunde in Belarus entwickelt haben (S. 52-59).

Die Literaturwissenschaftlerin I. Bagdanowitsch präsentiert den Leserinnen und Lesern ihre Übersetzung der Erzählung „Für und wider" der polnischsprachigen belarussischen Schriftstellerin G. Pusynja (S. 60-63).

Der Maler M. Kupawa reflektiert im Artikel „Der Tag des medizinischen Mitarbeiters in Belarus" über Franzischak Skaryna als begabten Arzt und Doktor der Medizin. Demselben Thema ist der Artikel „Der Arzt Franzischak Skaryna und seine Zeit" von M. Rawinski gewidmet (S. 64-67).

Die Doktorin der Kunstwissenschaft T. Gabrusj erzählt im Artikel „Hölzerne Basiliken in Belarus" über eine der interessantesten Arten der sakralen Baukunst (S. 68-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer kwartalnika „Nasza wiara" rozpoczyna się publikacją traktatu św. Jana od Krzyża «Droga na Górę Karmel» (tłum. z języka hiszpańskiego S. Hreswi; ciąg dalszy) (S. 2-5).

W rubryce „Dyskusja" drukują się dwa artykuły czasopisma „W drodze" poświęcone głośnej adhortacji papieża Franciszka «Amoris laetitia» („Nowa wrażliwość Kościoła?" i „Stado wie, dokąd ma iść") (S. 6-13).

Kontynuujemy publikację pracy C. S. Lewisa «Cztery miłości» (rozdział VI „Miłość Boga i bliźniego", tłum. z języka angielskiego J. Szedźko) (S. 14-17).

Historyk A. Szpunt proponuje uwadze czytelników art. „Księżna Magdalena Radziwiłłowa — wielka białoruska mecenaska"(S. 18-22).

W rubryce „Sztuka" znany kolekcjoner, restaurator I. Surmaczeuski w art. „Poleski ikonostas" pisze o unikalnych obrazach ludowych (dalszy ciąg publikacji) (S. 23-25).

Historii pierwszego w Rzeczy Pospolitej kościoła św. Jana Bosko poświęcony został art. diakona A. Lasznieuskiego SDB „Salezjańska «Atlantyda» na ziemi białoruskiej" (S. 26-29).

W art. J. Łauryka „Historia biblioteki konwentu budsławskiego ojców bernardynów" opowiada się o jednym z najciekawszych klasztornych zbiorów książek na Białorusi (S. 30-34).

Art. przeoryszy klasztora benedyktynek w Liège (Belgia) Marie-Christine Rossion „Hildegarda z Bingen" zapoznaje czytelników z postacią kobiety, którą święty Bernard nazywał „Mater et Magistra" (tłum. z języka francuskiego A. Cichanawaj) (S. 35-39).

W rubryce „Poezja" umieszczone zostały wiersze M. Duksy i A. Sprynczan (S. 40-43).

W eseju „Spichlerzyk mojego dzieciństwa" D. Biczel pisze o swojej miejscowości rodzinnej (S. 44-47).

H. Szauczenka pisze o nowej książce wierszy wybranych ks. Jana Twardowskiego „Powiedzcie to dalej" z tłumaczeniem na język bałoruski K. Lalko („Pro Christo", 2018) (S. 48-49).

Pamięci utalentowanego białoruskiego folklorysty A. Lisa poświęcone zostało pożegnalne słowo K. Lalko (S. 50-51).

Znany folklorysta U. Wasilewicz w art. „Z kohorty założycieli" pisze o słynnych białoruskich naukowcach — braciach Konstantym i Eustachym Tyszkiewiczach, którzy razem zakładali podstawy muzealnictwa na Białorusi (S. 52-59).

Literaturoznawca I. Bahdanowicz proponuje uwadze czytelników własne tłumaczenie opowiadania polskojęzycznej pisarki Białorusi XIX wieku G. Puzyninej „Za i przeciw"(S. 60-63).

Malarz M. Kupawa w art. „Dzień pracownika służby zdrowia" rozważa o Franciszku Skarynie jako utalentowanym lekarze, doktorze medycyny. Temu tematowi poświęcony został również art. W. Rawińskiego „Lekarz Franciszek Skaryna i jego czas"(S. 64-67).

Doktor historii sztuki T. Habruś w art. „Drewniane bazyliki Białorusi" opowiada o jednym z najciekawszych rodzajów budownictwa sakralnego (S. 68-71).

## SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" inizia con la pubblicazione del trattato di San Giovanni della Croce "La salita al monte Carmelo" (traduzione dallo spagnolo di S. Gresvi) (p. 2-5).

Sotto la rubrica *Discussione* si pubblicano due testi provenienti dalla rivista "W drodze" e dedicati all'esortazione clamorosa del papa Francesco "Amoris laetitia" ("La nuova sensibilità della Chiesa?" e "La gregge sa dove andare") (p. 6-13).

Continua la pubblicazione del libro di C. S. Lewis "Quattro Amori" (Parte VI "L'amore misericordioso") tradotto dall'inglese da J. Šedzko (p. 14-17).

Lo storico A. Špunt sottopone all'attenzione dei lettori l'articolo "La principessa Maddalena Radzivill, la grande mecenate bielorussa" (p. 18-22).

Sotto la rubrica *Arte* il famoso collezionista e restauratore I. Surmačeuski scrive di singolari icone popolare (la parte successiva della pubblicazione) nell'articolo "L'iconostasi di Palessie" (p. 23-25).

L'articolo del parroco A. Liašneuski SDB "L'Atlantide salesiana in terra bielorussa" è dedicato alla storia della prima chiesa del San Giovanni Bosco in Recz Pospolita (p. 26-29).

Nell'articolo di J. Lauryk "La storia della biblioteca del convegno di padri bernardini di Budslau" si racconta della raccolta dei libri tra più interessanti presso monasteri bielorussi (p. 30-34).

L'articolo della badessa del convegno di bernardini a Liège (Belgique) Marie-Christine Rasion "Hildegard von Bingen" scopre ai lettori la personalità di una donna che San Bernardo chiamò "Mater et Magistra" (trad. dal francese è di A. Zihanava) (p. 35-39).

Nella rubrica *Poesia* si pubblicano le opere di M. Duksa e di A. Sprynchan (p. 40-43).

Nel saggio "Il granaio di mia infanzia felice" D. Bičel scrive dei luoghi nativi (p. 44-47).

H. Šaučenka scrive del nuovo libro di poesie del sacerdote Jan Twardowski "Raccontatelo agli altri" tradotto in bielorusso da K. Lalko ("Pro Cristo", 2018) (p. 48-49).

La parola d'addio di K. Lalko "Ordire una canzone…" è dedicata alla memoria del colto folclorista bielorusso A. Lis (p. 50-51).

Il famoso folclorista U. Vasiilevič nell'articolo "Dalla coorte dei fondatori…" scrive di celebri scienziati bielorussi, fratelli Kanstantin e Jaustah Tyškevič che hanno posto le fondamenta al sistema museale in Bielorussia (p. 52-59).

La storica di letteratura I. Bagdanovič sottopone all'attenzione dei lettori la sua traduzione del racconto di G. Pusyna "Pro e contro" (p. 60-63).

Il pittore M. Kupava nell'articolo "Il Giorno dell'operatore medico in Bielorussia" riflette su Franzisk Skaryna visto come un medico dotto e il dottore di medicina. Allo stesso argomento è dedicato l'articolo di V. Ravinski "Il medico Franzisk Skaryna e il suo tempo" (p. 64-67).

La Dottoressa di ricerca in storia dell'arte T. Gabrus nell'articolo "Le basiliche bielorusse in legno" racconta di uno dei più interessanti generi dell'architettura sacra (p. 68-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — народная ікона «Маці Божая Трохручніца» з прыватнага збору І. Сурмачэўскага.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 2 (84)/2018.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 12.06.2018 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 000 экз. Зак. № 408.*
*Надрукавана ў ПУП «Джи энд Ди» Ліцэнзія № 02330/362 ад 06.05.2013.*
*Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, г. Мінск.*

# Драўляныя базылікі Беларусі



Касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў мястэчку Узда.
Фота пачатку XX ст.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў в. Адэльск (Гродзенскі р-н).



Чарцяжы Траецкага касцёла ў Драгічыне.

# КНЯГІНЯ МАГДАЛЕНА РАДЗІВІЛ – ВЯЛІКАЯ БЕЛАРУСКАЯ МЕЦЭНАТКА








Падчас цырымоніі перазахавання праху Магдалены Радзівіл
у касцёле Найсвяцейшай Тройцы (св. Роха) у Мінску.
Фота Віктара Ведзеня.